Першая
кніга
празаіка

# АЛЕСЬ НАВАРЫЧ



# РАБКОВА НОЧ

Аповесці,
апавяданні



Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1988

ББК 84Бел7
Н 15

Серыя заснавана ў 1976 г.

Рэцэнзент Васіль Гігевіч

Прадмова А. Карпюка

Любовь к родной земле, любовь к родной природе, готовность сохранить их для потомков, духовная красота человека труда — главные мотивы книги молодого прозаика Алеся Наварича (род. в 1960 году в Брестской области). Автор в своих произведениях глубоко и тонко исследует духовный мир человека, художественными средствами раскрывает характеры, создает интересные, запоминающиеся образы.

Н $\frac{4702120200-125}{М 302(03)-88}$ 40—88

ISBN 5-340-00040-0

# Слова пра талент

Каб староннямy чалавеку зачытаць асобныя старонкі з гэтай кнігі, то ён хутчэй за ўсё сказаў бы, што напісаў іх Пршвін ці ранні Шолахаў. У Алеся Наварыча тэкст уражвае трапнасцю дэталяў, каларытам намаляваных вобразаў і самабытным апісаннем сітуацый, у якія трапляюць яго героі. Дзякуючы гэтаму майстэрству, дзякуючы ўменню весці сюжэт аўтар месцамі даводзіць чытача да таго, што ты ловіш сябе на думцы — няўжо напісаў гэта малады чалавек? Нельга ўтрымацца ад здзіўлення яго такой ранняй назіральнасці, такому адчуванню прыроды, людзей.

Талент у Алеся Наварыча прабіваецца ва ўсім, пра што б ён ні пісаў,— пра вайну і каханне, казуль і ваўкоў, навальніцы і дрэвы, травінкі і кветкі. Героі Наварыча думаюць, кахаюць, змагаюцца, некуды імкнуцца, а бурлівая і сакавітая прырода пададзена такімі фарбамі і ў такіх ракурсах, што, учытаўшыся ў тэкст, нават мукі няшчасных тых рыбін перад запрудай, дзікі разгул маланак і бліскавіц на балаціне адчуваеш сваімі клеткамі. Месцамі па сіле эмоцый і апісальнасці ў Алеся Наварыча так па-майстэрску пададзены матэрыял, што не можаш прыпомніць аналага ў беларускай літаратуры.

А якая ў Алеся Наварыча фантазія (напрыклад, у «Гепардавым леце»)! Якая тонкая проза пры вонкавай прыблізнасці падзей і малой колькасці сказаў, асабліва ў апавяданні «Пастрыжаны», калі дубаваты бацька праводзіць у войска сына. Апошняя сцэнка бярэ за душу! Чытаючы «Рабковую ноч», адчуваеш, што на табе шэрхне скура ад страху! Менавіта такімі ўсплескамі таленту насычана ўся кніжка, і ты, знаёмячыся з тэкстам, зноў і зноў ловіш сябе на думцы, што табе даўно-даўно нечага такога не траплялася ў рукі.

Проза Алеся Наварыча сталая і робіць уражанне,

бытта аўтар надрукаваў не адну ўжо кніжку. Прыпамінаецца класіка. У вядомым творы Дэфо апісаны момант, калі герой назірае, як тоне чужы парусннік. Рабінзон раздзяваецца ды плыве да яго. На апусцелай палубе знаходзіць карысныя рэчы. Доўга не думаючы, напіхвае імі свае кішэні і плыве на бераг. Дэфо так нас зачароўвае, што і не заўважаем падвоху — адкуль жа ў голага героя маглі з'явіцца кішэні.

Падобнае не раз спатыкаеш і ў гэтай кнізе.

Ведаеш дасканала, што адзічэлы Грыцаў Леўка не можа гэтак бегаць за ваўкамі («Цкаванне вялікага звера»), бо магчымасці чалавечага арганізма абмежаваныя. Але матэрыял у аповесці так па-майстэрску пададзены, што алагізму і не заўважаеш.

Наконт мовы. Спатыкаюцца ў зборніку Алеся Наварыча палешуцкія дыялектызмы. Але наогул зборнік напісаны самай звычайнай беларускаю моваю. Бо таленавіты аўтар і простымі словамі, прапусціўшы іх праз сваё багатае ды шчодрае сэрца, надае патрэбнае гучанне ды цалкам паланае сэрца нашае.

Калі ўлічыць, што аўтару напісанага ўсяго дваццаць з нечым гадоў (ён 1960 года нараджэння, але большасць твораў са зборніка напісана 4—5 гадоў назад!), нельга не парадавацца таму багажу, што паспеў ужо адкласціся ў яго душы, нельга не падзівіцца таму спазнанню прыроды ды псіхалогіі людзей. Цікава, што ў зборніку няма рэчаў слабых. Ёсць творы недапрацаваныя, няўклюдныя, але і яны носяць адзнаку таго самага таленту.

Адным словам, мы сябе можам павіншаваць — у нашую літаратуру ўваходзіць новы самародак. Мне асабліва прыемна прадстаўляць Алеся Наварыча (сапраўднае прозвішча — Трушко Аляксандр Іванавіч), бо ён працаваў на Гродзеншчыне настаўнікам. Пажадаем жа гэтаму юнаку шырокай творчай дарогі! Няхай талент яго раскрыецца ва ўсёй красе, каб і яго творчасцю ганарыўся народ!

*Аляксей Карпюк*

# Цкаванне вялікага звера

(Палеская быль)

## I

Трашчала лазовае ламачча — з кустоў вылазіў паўсцісты цёмна-шэры звер. Сямён затрымаў дыханне і стрэліў праз галінкі. Бухнула сіняватым дымам... Звер ірвануў з месца, выскачыў на прагал, з гарачкі хацеў перакінуцца праз канаву, але праваліўся... З салодкім заміраннем паляўнічы бег да здабычы, што боўталася ў праломіне. На хаду зараджаў стрэльбу. Звер праламаўся на глыбакаватай канаве, што недалёка ўпадала ў Прыпяць. Сямён баяўся, каб здабычу не ўцягнула пад лёд, а то прыйдзецца даставаць. Але вось, здаецца, падбітак заслізгаўся на цэлым лёдзе. Сямён упаў на правае калена і падвёў рулю пад валасаты сілуэт. Звер выкрутнуўся на лёдзе, раскарачана прыўзняўся на сваіх лапах, азірнуўся на чалавека...

Здушаны крык жаху вырваўся з грудзей паляўнічага, і рукі, што трымалі стрэльбу, зрабіліся бы з вяровак. Настаўбураная, з раз'юшанымі, зацкаванымі вачамі глядзела на яго барадатая чалавечая галава.

## II

Міхал Мацюшок, узяты лабарантам у сваю ж школу, увесь час рыхтаваўся да паступлення ў ВНУ. Няўдача ў конкурсе прымусіла яго так вучыць матэрыял, каб паздаваць экзамены толькі на «выдатна». Але чым больш ён прымушаў сябе сядзець за падручнікамі, тым мацней яму хацелася развеяцца ад навукі. Зараз вяртаўся ад дзяўчыны, лаяў сябе ў думках, што

гэтулькі часу змарнатравіў. Яму дзяўчына падабаецца, ён прыйшоў да яе. Чаго ж разводзіць сентыменты? Ён першы пачуе ад яе слова «кахаю». На гэта ён мае поўнае права, але як ёй растлумачыць, што ён не просты чалавек, але унікум, бо мае абсалютную веру ў сябе. У гэтым ён — звышчалавек. Прыйдзе час, і ў сяло правядуць шасэйную дарогу, бо ён тут нарадзіўся, а яна будзе ганарыцца тым, што толькі сябравала з ім. Сваім метадам ён дасягне для чалавецтва нечуваных вяршынь. Для гэтага трэба быць перш за ўсё фанатычным аскетам. Усё астатняе — смецце. Тое ж каханне. І ён, Міхал, дакажа гэтай дзяўчынцы, што каханне ёсць простая рэакцыя ЦНС.

Паабапал дарогі разлягаўся нізкаваты лазняк. На расцяробах стаялі стажэчкі атавы, прыцярушаныя снегам. Цішыня была і цемната, толькі блішчэлі наперадзе агеньчыкі роднага сяла. Сярод халоднай цішыні пачуўся раптам выразны енк. Міхал ажно спыніўся. Можа, падалося. Але ўкруга пачулася скавытанне. «Ваўкі?!» — падумаў Міхал і адчуў, як цяжарам наліліся ногі. «А яшчэ думаеш нечага дасягнуць. Сабака заскавытаў — і сэрца ў пяты»,— пажурыў хлопец сябе і рушыў з месца. Выццё вылятала аднекуль з-за сяла, тужлівы гук разлятаўся над наваколлем, сеяў страх. Міхал уявіў, як вылазяць на дарогу звяругі, як абступаюць яго... Яму зрабілася шкада сябе. «Хто ж тады выканае тое, што мною задумана?» — раіліся палахлівыя думкі, калі ён пазіраў на змрочныя цені сярод начной лазы. З радасцю падыходзіў хлопец да першых хат. Уздоўж плота нехта ішоў з ліхтарыкам.

— Ці не чуеце? Гэта што, ваўкі? — звярнуўся Міхал да чалавека.

— Тобі вовкі. Всякоі гадоты е,— буркнула Ваўкалачыха, панурая кабета. Яна ўвайшла ў веснікі, нешта буркатала яшчэ, але Міхал не чуў, толькі ўсміхаў-

ся ў цемру. На Ваўкалачыху гаварылі як на вядомую выдумляльшчыцу, яе і празвалі за тое так, што прыдумала, быццам ваўкалака ўлавіла ў хлевушок.

Абмятаючы ногі ля хаты, Міхал пачуў, што нехта праходзіць ля хлява. Хлопец сціснуў венік і пайшоў праверыць. У шараватым змроку выгледзеў, як нешта пабегла на поплаў. Адчуваючы смеласць ад блізкасці роднай хаты, хлопец што меў сілы памчаў на поплаў праз агарод. Выразна ўбачыў, як нешта здаравеннае шуснула з-за стажка ў лазняк — затрашчала ў лазняку ламачча. «Што гэта такое? — мільганула ў думках.— Пэўна, лось». Калі зноў пачаў абмятаць ногі, пачуў з кустоў страшны тонкі енк. З перапуду Міхал ускочыў у хату з неабмецёнымі нагамі, зашчапіўся і ўляцеў у залу, дзе сабралася яго сям'я.

**III** Звер страсянуў мордай, напнуўся і заскавытаў. Жудасная песня самоты разнеслася навакол. Сціх, прыслухаўся. Сяло насцярожана маўчала. Тады заенчыў безупынна, пацiху і галасна. І жальба, і смутак былі ў гэтым енку. Сціх — стаміўся. А ў наваколлі то там, то тут пачулася падвыванне ваўкоў. Здавалася, ваўкоў было вялікае мноства, і яны аблажылі сяло, як было гэта ў глыбокім мінулым, так што і не выйсці за ваколіцу. Звер ад ваўчынага разгалосся ўстрыбушнуўся, зароў пагрозліва, пасунуўся далей ад жылля. Праз некаторы час за галаслівым зверам цяглася зграя ваўкоў. Драпежнікі прынюхваліся да настаўбуранага звера, раптоўна адскоквалі, калі той рабіў рэзкі рух, нешта адкідваючы ад сябе. Тады ваўкі смела кідаліся наперад, грызліся з-за падачкі. Звер быў іхні Важак, быў іхні Гаспадар.

Важак выводзіў усё далей і далей ад жылля, пакуль не паказаліся забалотныя стажкі. Ваўкі перасталі грызціся, пайшлі цугам...

Неба крышку адышло ад зямлі, за хмарамі ўзышла поўня. Ваўкі, пэўна, ведалі, што зараз будзе рабіцца. Яны расцягліся з цуга ў крыло праваруч ад Важака. Усе кіраваліся на стажкі, абнесеныя калючым дротам. Тут Важак пранізліва зацёхкаў, ваўкі падскоквалі, вызіраючы наваколле. Пачуўся трэск жардзін ля стажкоў — то выскоквалі з агароджаў ласі, якія пазалазілі туды да сена. Разнёсся тупат і віскат пагоні. Важак правалокся праз гразкаватае апудзіла і выйшаў на грэблю. Ваўкі пагналі ласёў па грудку, тыя далі крука і набягалі на грэблю, каб выйсці з балота... Пырхаючы паветрам, тупацелі, шоргаліся ў снезе... Важак затуліўся за кустом, баючыся пагрозлівых волатаў. Але раптам выскачыў з-за галін проста пад пысу маладой лошы, што крыху адстала ад статка. Капыцястая жывёліна сіганула з грэблі, прагрузла праз снег... Скокнула раз, другі... Ваўкі набягалі на грэблю, кальцаючы лошу... Тая выцягвала заднія ногі з багна, але ўгружваліся пярэднія, вырывала пярэднія — тапіліся заднія... Раскарачылася на ўсе чатыры нагі, убоўталася па самае бруха... Згорбілася, штосілы рванулася, але не змагла выцягнуць ног, легла на бок ад страху, завярнула морду, рассалапілася, рыкнула жаласліва, выхакнуўшы струмень пары... Да ахвяры набліжаліся ваўкі.

Пакуль ішла тузаніна, Важак абапёрся на кій на грэблі, нібы сцярог небяспеку. Раздзерлі лошу... расцягвалі па балоце... Важак адбіў кіем і сабе кавалак. Потым ачышчаліся ад гразі, вытрыбушваліся, вылізваліся. Падаліся прэч, палахліва пазіраючы на чорную яміну, на гарцовішча смерці вакол яе. Уцякалі доўга, міналі сёлы, перасякалі дарогі і шашу, трусілі ля асветленае новабудоўлі. Паспяваў за ваўкамі і той звер, што быў нядаўна за Важака... Зашыліся ў густую лесапасадку, сцішыліся... Тут можна было пракачацца не адзін дзень, пакуль не выгаладнеюць.

## IV Калгасны вартаўнік Ёсаль жартаваў з даяркай:

— Зноў ты, Маня, засмучона. Давай я цябе развяселю, а то ў твога старога, мабыць, няма нічога. Выпсеў...

— Каб ты ведаў, што ёсць у майго старога, чаго няма, то не гаварыў бы,— адгукнулася Маня, паломшчучы даёнку. Але Ёсаль крадком падышоў да кабеткі і намерыўся ўхапіць яе за бакі, але тая развярнулася і... Потым яна, макрарукая, з хусткай, збітай на плячо, ускочыла ў кароўнік, дзе была сустрэта вясёлымі позіркамі даярак. За ёю ж увайшоў і Ёсаль, атрэпваючы з грудзей жамчужныя кроплі змешанай з малаком вады.

— Бач ты яе,— сердаваў ён,— і пашуткаваць з ёю няможна. Як хто з маладзейшых падступаецца, дык хвастом так і меле.

— Маўчыце, дзядзьку, бо зноў вады набірае,— падказвалі Ёсалю жанчыны.

— А-ат! З вамі пажартуеш. Вам бы вот так жартаваць,— зрабіў Ёсаль непрыстойны жэст і выйшаў у тамбур.

Калі выходзіла з кароўніка апошняя даярка, Ёсаль быў прымайстраваўся падшчакнуць яе.

— Ідзі, бугай стары,— адпіхнулася тая, і Ёсаль адчуў сябе сапраўды старым, усімі пакінутым і нікому не патрэбным. Уздыхнуў, пазамыкаў дзверы з сярэдзіны кароўніка, каб праверка не змагла застаць яго знянацку, наслаў сена ў жолаб. «Падрамлю да першага абходу пляца»,— расшпіліў кажух, уваліўся пад пысы кароў. Хацеў заснуць, але перашкаджала мятнае дыханне кароў, якія ў дадатак пачалі высмыкаць сена з-пад яго. Мільганула Маня перад вачамі, паплыў лёгкі туман, здавалася, што нехта падыходзіў усё бліжэй і бліжэй, і чуў яшчэ Ёсаль, як прапішчаў каля

вуха застрэшкавы камар, і ўсё растварылася, засталася маленечкая крапачка, якая пачала рухацца недзе ўбок, потым пачала хутка расці, неймаверна павялічвацца і вось ператварылася ў нешта вялікае, чорнае, пачварнае, што ляцела проста на Ёсаля. Кінуўся Ёсаль са сну, узбуджаны ад невыразнага страху. Наўкола пагрозна мычэлі каровы, глуха стукалі рагамі аб жалезныя білы, да якіх былі навязаны. Усхапіўся вартаўнік: «Што такое?» Каровы пагрозліва чмыхалі, іх вочы страшна крывяніліся, касілі і выварочваліся ў бакі. Ёсаль выбег на праход...

У тамбуры дзверы былі расчынены насцеж, а ў праём ускоквалі цыбатыя сабакі, што аж сцякалі слінай. Каровы з рыкам выдзіраліся з навязяў.

— А пайшлі вон! — зароў вартаўнік, наводслеп, па памяці, люнуў у куток, дзе звычайна знаходзіліся ўсякія прылады, намацаў чаранок вілаў, ускінуў хоць такую зброю наперавес і адчайна кінуўся на ваўкоў. Тыя стрыглі вушамі, з гіркатам шчэрылі зубы, чорныя тонкія губы драпежнікаў дробна трымцелі. Ваўкі неахвотна адступалі.

— Прэч! Прэч! — роў вартаўнік, размахваючы віламі, налёг на дзверы і зачыніў іх. З другога канца кароўніка данеслася нейкае скіргітанне, Ёсаль азірнуўся, і рукі яго прыціснуліся да грудзей, а калені агідна затрасліся. Там, у насцеж расчыненых дзвярах, стаяла масіўная кашлатая постаць. Праз які момант яна растварылася ў цемры.

— Хто тут ёсць? Га? Хто тут? — дапытваўся Ёсаль, штырхаючы ўперад віламі.— Няма нікога! — узрадавана ўскрыкнуў, пабег зачыняць і тыя дзверы. Выглянуў з тамбура, выгледзеў ваўкоў, што ад узнятага крыку адбегліся і нерухома стаялі, адбіваючы вачамі святло з тамбура.

— Не, дружочкі! Зараз я вам здзелаю! — падскочыў да трактарца, што стаяў на пагорку, каб запу-

скаць матор з накату, улез у кабінку, выціснуў педаль счаплення, уключыў хуткасць і зняўся з тармазоў... Затрахкацела з трубы, паляцелі іскры; уключыў фары і звярнуў наваўкоў. Звяры рассыпаліся па полі. А Ёсаль, нібы ў танку сядзеў, вёў тарахцёлку, калясіў папярок дарог, лямантаваў з кабінкі. Зніклі ваўкі, бедны Ёсаль некалькі разоў аб'ехаў кароўнік, а потым упёрся фарамі ў дзверы, учапіўся ў руль ды так і прасядзеў да раніцы, баючыся вылезці са сховішча.

V

Ваўкі сабраліся ля калгаснага саду, вынюхвалі паветра, што было насычана пахамі параскіданага ў бязладдзі жалеза, душком гнойнай дарогі, а таксама спецыфічным пахам сенажу, што ў вялікім дастатку ўсцілаў крыж-накрыж паробленыя каляіны. Патрусілі па сцежцы, што вяла да сядзіб калгаснікаў. Пад бляшанымі капелюшамі на слупах там-сям сляпіліся лямпачкі, весялей ззяла вітрына крамы, дзе-нідзе вокны былі заліты блакітам — глядзелі тэлевізар. Астывалі маторы машын, пастаўленых ля хат, прымярзалі да лавак вёдры ля калодзежаў — сяло драмала, і толькі на адным поплаве, нібы жывыя, тлелі вугельчыкі ў попеле, што руплівая гаспадыня вычысціла з печы, загадзя, на раніцу, налаштаваўшы туды дроў. Ваўкі чуйна лавілі нязначныя, патаемныя гукі вячэрняга жыцця. Скрыпнулі веснікі, бразнула клямка, чмыхнула недзе карова, зашастала сена на вышках — нешта лазіць: кот? пацук? Недзе далей парохквае свіння, не можа ніяк умасціцца нанач, і зусім блізка — чык-чык-чык і зноў чык-чык. Гэта мышы салому точаць. Засыналі людзі, засыналі ўсе жывыя істоты. Была такая пара сутак, што кот скача з печы на ўслон і просіцца перад дзвярамі на двор, каб пайсці ў свае начныя блуканні. Калі дзяўчына, намёрзшыся з хлопцам, што прымчаў

да яе з другой вёскі, вядзе яго крадком у сені, думаючы, што бацька не пачуе, але бацька з мацеркай чуюць, ды сон і нейкая літасць да гэтых вартавых кахання робяць сваю справу.

Ваўкі вызбірвалі на сметніках тое, што не раздзяўблі вароны і не расцягалі сарокі, нюшкавалі праз шчыліны паветра з хлявоў, абыходзілі тыя хаты, у якіх яшчэ свяціліся вокны. Услед ім сунулася чорная постаць. На другім канцы сяла раптам забрахаў сабака, і па ўсім сяле тыя, каторыя грэлі насы ля голых, абезвалошаных брухаў у сваіх дашчаных халупках, павыскоквалі, раззяпіліся і ўзнялі страшэнны лямант, бо гэтак баяліся сваіх лясных родзічаў.

Ваўкі пабеглі ад вёскі. Натрапілі на сядзібу, што стаяла крыху наводшыбе. Падбеглі да хлява, шукалі курасадню. Дзверы былі дбайна пазачыняны. Ды вычулі ваўкі, што стаіць у хлеву шку раннняе цялятка, пагнала сліну з рота, скрабліся пад дзверцы, і ўзнікла чорная постаць, дзвіньгнула засаўка, ад'ехалі дзверы, і пачуўся шоргат саломы, стрыманае гірчанне, раз'ятранае гіркатанне ўсчынілася... Пачвара тым часам дастала з цялячага закутка, у якім ваўкі ўжо валтузілі здабычу, вядро з недапітым пойлам і прагна прыгубілася... Карова за сценкай ярасна грымела рагамі ў сцяну... Нечакана пачуўся выразны шум аўтамабільнага матора, і пад самы хлеў пад'ехаў малакавоз. З хаты выскачыў гаспадар, з кабіны вылез яго сынвадзіцель. Заўсёды так позна вяртаўся з раённага маслазавода і калі-нікалі прывозіў флягу перагону. Толькі сын з бацькам згрузілі гэтую флягу, як раптам з прачыненых дзвярэй хлява адзін за адным выскачылі тры здаравенныя сабакі!

— Трымай! — пpаграмеў гаспадар і кінуўся да дзвярэй, бо адтуль скакаў чацвёрты звер, а сын ухапіў паляняку і шпурнуў у цемру за ваўкамі.

— Бяжы ў сені па сякеру! — лямантаваў бацька

на сына, налёгшы целам на дзверы, на якія з сярэдзіны здорава налягала нешта. Але пачуў, як затрашчала акенца ў супрацьлеглай сцяне, пачуў, як выдзіралі дошчачкі, якім было яно забіта.

— Хутчэй, сыне, сякеру!

Ваўкі павыскачылі ў прабітую дзірку, а ваўкалак пасунуўся ў адтуліну галавою і плячом і адчуў, што не пралезе. Крычалі людзі па надворку, вялікі жах апанаваў істоту, усё ж памкнуўся ў адтуліну... Храп пачуўся з хлява, лопат лапамі па сцяне, шоргат выпручвання...

У сціснутых грудзях не хапала паветра, цвікі з рамы ўпіліся ў цела... наперад дарогі не было, але ззаду была смерць.

## VI

У тую ноч школьны качагар Сямён Піліпавіч вярнуўся дахаты а палове другой і, як звычайна, крышку перакусіў, папіў чаю. Лёг спаць, сіліўся задрамаць, але без канца варочаўся з боку на бок, уздыхаў, прыслухоўваўся да скулення свайго ганчака. Мярэсціліся нейкія гукі, падазроны шоргат. Потым сабака заліўся ярасным брэхам. «Звер мо які да сяла падышоў»,— падумалася, і гэтая думка аблягчыла Сямёна, і ён заснуў. Прахапіўся Сямён ад таго, што нехта часта і гулка лупіў у шыбу.

— Сямён, га Сямён, адчыніся!

— Хто там? — адазвалася спалоханая Сямёнава жонка. Ачомалася, адшчапіла дзверы. Яшчэ з сеняў, выдаючы сваё хваляванне, ранні госць глуха загаварыў:

— Што ж гэта на свеце робіцца? Ваўкі цяля разарвалі!

Сямён апранаўся не спяшаючыся. Такая навіна не была для яго нечаканасцю.

— Ваўкі, кажаш?

— А няўжо ж! — узмахнуў рукою чалавек. Гэта быў Пятрук, гаспадар той самай хаты, што стаяла ад сяла наводшыбе.

— Гэта ж прыязджае Валера пад ноч, флягу перагону прывёз,— крыху цішэй дабавіў Пятрук,— а тут — шарах, шарах з хлява, вот такія доўгія, як гэтая лава... А ў рукі ж няма што ўзяць. Я тады плячом дзверы прыціснуў, ды чую, праламілі акенца ды выскокваюць. Адзін, мусіць, ушчаміўся, пнецца, стогне. Ну, думаю, папаўся. Кінуў дзверы ды да дзіркі, а ён выпрышчваецца, касматы такі, пакуль ухапіў я нейкі дрын, ён назад ды праз дзверы і выскачыў.

— А чаго ж ты дзверы не замкнуў? — спытаўся Сямён, ловячы рукаў ватоўкі.

— Чым? Засаўку нехта спёр! Я ж кажу, дзверы былі адчынены, калі з сынам я флягу...

— Можа, нанач не зачынілі дзверы? — уставіла слова Сямёнава кабета.

— Ды жонка памятае, пойла насіла, дык была яшчэ засаўка. А каб іх чума ды халера пабрала... Як зайшлі ж да цяляці, а яно яшчэ цёпленькае пасярэдзіне...

Сямён узяў з паліцы шапку, мыркнуў:

— Пайшлі! — і накіраваўся да дзвярэй, але Пятрук перахапіў яго за руку:

— А гэта... ну, стрэльбу?!

— Так яны Сямёна са стрэльбай чакаюць,— адазвалася Сямёнава жонка, і мужчыны выйшлі.

Неба толькі-толькі прасвятлела. Сямён навязаў на раменьчык ганчака. Пятрук не мог ніяк супакоіцца:

— Як падсвяцілі ліхтаром, колькі ж там крыві і на сценах, і на дзвярах, нават на століі Але ж хто гэта засаўку дастаў, вот што цікава?

— Зараз глянем, як там яна зачынялася, могуць і ваўкі самі выцягнуць...

— А яшчэ на цвіку ў вакенцы поўсці шматокаставілі, вось яна!

— Каб я што бачыў, але навобмацкі быццам воўна авечая.

— Зроду авечак не трымаў. Ты лепш панюхай, панюхай, ці будзе авечка такі смурод даваць?

З хаты выскачыла, пакрываючы галаву хусткай, Петручыха. Яна адразу загаласіла:

— Такое харошанькае, так выбрыквала надоечы! І на табе, на табе,— усплясквала гаспадыня рукамі,— адным малаком паілі амаль што, трэба было ж яму такому раннеькаму зарадзіцца. Раптам было, і раптам і няма...— Кабета змянілася ў рухах, сціснула пальцы шчопцем, паднесла гэты шчопаць да мужавага твару: — А казала ж табе: здамо адразу, каб без клопату, хлеў халодны, наскрозь ветрам прадзімае. Дык не! Забіў дошчачкай акенца, і ён гаспадар...

Зайшлі ўсе разам у хлеў.

— Свяці сюды, Пятрук, я зараз Сямёну пакажу... Во, Сямён, паглядзі на лысінку, народзістая цялушачка выйшла б, во, зараз я кроў абатру, бач, лысінка! — кабета абгладжвала нежывую галоўку жывёліны.

Чакаючы, пакуль добра развіднее, Сямён стрымліваў сабаку, які чмыхаў носам, нецярпліва пакручваўся. Якое было здзіўленне, калі на цвіках аконнага праёма знялі яшчэ некалькі шматкоў поўсці і пагадзіліся на тым, што гэта была авечая воўна.

— Ніяк з аўчыны, ці што? — сумеўся Пятрук.

— А ты не хадзіў па агародзе? Што гэта за сляды... Што тут за злодзей лазіў, не пайму. Ці званіць у раён, можа, няхай следчы выязджае? Га?!

Па дарозе на калгасны пляц, дзе знаходзіўся тэлефон у чырвоным кутку, Сямён перастрэў калгаснага вартаўніка Ёсаля. Той, памагаючы рукамі і нагамі, расказаў пра начныя атакі ваўкоў. Пад канец спытаўся:

— А ў сяле ўсё ціха?

— Цяля парвалі ў Петрука... А вот, дзядзьку Есаль, вы кажаце, што дзверы нехта парасчыняў, дык хто ж?..

— А што я ведаю? Можа, хто камбікорм краў...

Сямён моўчкі павярнуўся ад разгубленага вартаўніка і, моцна задумаўшыся, пайшоў да тэлефона.

VII Здавалася, гэта быў канец, але раптам з-за вугла паказаўся чалавек, і ваўкалак усунуўся назад у хлеў, кінуўся на дзверы, штурхнуў з усёй моцы і памчаў праз снег у цемень, адчуваючы незвычайную палёгку ва ўсім целе, і гэта надавала яму большай сілы, і нёсся па цаліку на волю... Добра адбегся... азірнуўся. Цьмяна вызначаліся відарысы яблынь, забудоў. Недзе наперадзе зніклі ваўкі, пакінулі пасля сябе ледзь бачны зер слядоў. Ох, якое лёгкае паветра для грудзей! І было такое некалі?! Можа, сотні, тысячы дзён назад, бясконцы лік начэй прайшло, як гэтак жа радасна выбраўся на палявую дарогу, ступаў басанож па хрупасткай скарыначцы нечапанага пасля дожджыку пяску. Помняцца вусатыя каласы паабапал гэтай дарогі, а ён усё азіраецца і азіраецца, не верачы, што ён уцёк ад тых страшных людзей, што былі заехалі да іх у двор на сытых конях, не злазілі з коней датуль, пакуль бацька не выскачыў з хаты і не адагнаў ад коней сабаку.

— Пане паліцыянце, не штрафуйце...— прасіўся бацька ў гэтых людзей, але адзін з іх пачаў выпісваць квіток на сабаку, што быў не навязаны. Покуль бацька панура схадзіў у хату па злоты, паліцыянты спрытна агледзелі надворак, заглянулі ў пуньку, ласкава спыталіся ў яго самога:

— А дзе брэзент, цо ойцец пшынес?

— У с...— доўга не думаў хлопчык, і разам з бацька-

кам яго забралі ў пастарунак у старым царскім вакзале. Бацьку вывелі, а потым, калі на хвіліну прачыніліся дзверы, хлопчык пачуў, як страшна, нема раве бацька. Хлопчык кінуўся туды і нешта страшнае ўбачыў... натапырчыліся валасы на галаве, скура ў бубачкі пабралася. Падвешаны нагамі да крука ў сцяне, уніз галавой вісеў бацька, з вялікай конаўкі яму ў ноздры залівалі газу... З крыкам наляцеў хлопчык на гэтых людзей, драпаўся, кусаўся, а яго штырхалі па зубах, нарэшце звязалі папружкай і занеслі назад у пакойчык. Праз нейкі час хлопчыка перастала калаціць, ён пачуў, як бацька прашлэпаў босымі нагамі па калідоры, доўга, пакутліва панавала цішыня, потым затпрукалі на коней і ў калідоры зашамацелі цяжкім скруткам брызенту, і шумнае дыханне бацькі пачулася, потым голас яго:

— Дзіця хоць адпусціце...

— Такі збуй, як і ты, нех седзі!

Сцямнела. Выразна захроп у калідоры ля стала паліцыянт, і хлопчык, якога нанач развязалі, узлез на закратаванае акно, дзе ў самым версе была крыху большая, чым астатнія, адтуліна. Сілком праціснуўся праз яе, пралез праз фортку... Пазногцямі чапляўся за шалёўку, каб не ўпасці, перабег дарогу, па бульбяной разоры выбег на поплаў і што духу памчаў па мокрай траве, адчуваючы, як з начным халадком урываецца ў грудзі радасць волі, п'янкая лёгкасць... У тую даўнюю ноч праблукаў па хмызах, баючыся і блізка падысці да роднай сядзібы,— а раптам чакаюць тыя людзі?.. На досвітку выйшаў на палявую дарогу ў жыта, нацёр зерня з каласоў, вырашыў ніколі дахаты не вяртацца... Ці ж не пражыве ў лесе адзін, далей ад тых страшных людзей у форменнай вопратцы?

VIII Сямён вяртаўся з калгаснага пляца. Яму як паляўнічаму здавалася больш верагодным, што ваўкі былі ва ўсім вінаваты. Зіма выдалася халодная і галодная, вось і выйшлі да людзей. А тым бы толькі і прычапіцца да ўсялякай няяснасці — такога наплятуць! Яйкі прападаюць з-пад курыцы — балацянік з балота прыходзіць ласавацца. А каб пашукаць вужаку пад калодай або вожыка падпільнаваць у хляве — навошта?! Вунь і сароку на жэрдку пачэпяць, каб ліхі мінаў, або ў некаторых перад хатай слуп такі ладны ўкапаны. Гэта пад слупком такім дзядок хатні жыве, той, што да спагады ў хаце прыводзіць.

Ля крамы здалёк была відаць купа людзей, пасярод якой стаяў Ёсаль і зацята расказваў.

— Ну, дык, кажаце, адзін з іх — ваўкалак? — перапытвалі Ёсаля механізатары.

— Ну, хлопцы, не расказаць,— бажыўся Ёсаль,— самлець можна, на яго глянуўшы. Чорны такі, касматы, рукі расставіў, і як я на яго з віламі, дык ён кулік-кулік у ваўка...

— А з кім вы, дзядзьку, учора пілі?

— Мабыць, ты малады яшчэ такое на мяне казаць,— з дакорам гаварыў Ёсаль,— а вунь Сёма ідзе, не дасць збрахаць.

— Ну, давай,— маладыя пераміргваліся, цмыгаючы кароценькія цыгарэткі. Усім была вядома паляўнічая фантазія Сямёна.

— А хто яго ведае,— пачаў Сямён,— рознае на свеце бывае. Раней было так, што сусед насуне вывернуты кажух ды і падыдзе да хаты. Падцікуе загадзя, дзе ў свайго ж суседа сцягенца вісіць, заткне дзверы калочкам, ціхенька лесвіцу да страхі прыставіць, прадзярэ саламяны верх ды і свісне мяса. Паспрабуй упільнуй. Як баба якая ўгледзіць — чорт па страсе лазіць...

— Мабыць, ты пра Грыца расказваеш? — адазвалася раптам бабулька, што таксама падышла да крамы з бутляю з-пад алею. Гэта была сагнёная да зямлі, ссівелая Маланка, якая мела славу шаптухі.— О-о-о. Той быў майстар украсці, нездарма яго дыфізіва цягала. Як хто што ўкрадзе, адразу да Грыца. Б'юць, пакуль не прызнаецца. Ён хворы на гэта быў. А выходзіць ад каго з хаты, дык цап рукою ў сенях, што пападзецца — батог, лапату дзераўляную або проста дзяркач які накрые крысом ды нясе.

Маладыя ўважліва слухалі старую, некаторыя крывілі вусны ва ўсмешцы.

— А ў іх уся сям'я была такая ненармальная,— адазваўся Сямён,— сядзеў дурань на печы ў хаце іхняй. Як ні зайдзеш — дзежку абнімае. Поўная рошчына ў нас, гаворыць...

— Яго ж потым немцы застрэлілі,— уставіў Ёсаль,— думалі, партызан пад дурня прыкідваецца. Пад бок аўтаматам штырхнулі, маўляў, злезь з печы, а ён як вызверыцца...

— Звераватыя ўсе яны былі,— загаварыла зноў Маланка, хлопчык іхні ў лес раз уцёк ад пераляку, насілу вышукалі. А ён здурнеў, ці што, хто ведае гэта... Пад кустом нару выграб сабе, верашчыць, што тая лісіца, не падпускае, кусаецца, драпаецца. Зацягнуў яго бацька дахаты, а ён і не есць нічога, крадком, як нікога няма ў хаце,— са сподачка з катамі хлебча...

— І вас пазвалі з яго нячысціка выганяць?

— Зараз жа дактары ёсць, а тады? Небарака дайшоў да таго, што посцілку зубамі цягае, ваўчаня, дый годзе... Ды доўга я не думала, зайшла ў хату ды да яго падушачкі. Мац-мац, давай нажнічкі, пароць будзем, на маці кажу. У рагах падушкі гэтай каўтун выстрыжаны, нітачкі з вузельчыкамі, костачкі тонэнькія, кручочкі і вілачкі, усё кручочкі і вілачкі. Панесла маці хлопчыка гэтага тую падушку на скрыжаванне

чатырох дарог ды пачала яе паліць, а яго курчы як узялі, пену пагнала...

— Гэта яго нячысцік пакідаў,— з прыхаванай хітрынкай сказаў адзін з хлопцаў.

— Не. Гляджу я на яго, адкуль узяўся, вот такесенькі ваўчучок маленечкі. Крычу Грыцу, адчыняй дзверы. Яго пагонім!

— Трэба было яго злавіць, ды ў скрынку якую, ды...

— От табе ўсё зубы скаліць... От праз вас такіх і не абмінае сяла Ён...

— Мы яго хутка ў карчах вылавім. Вот асушым яшчэ Дзікае, куды яму дзецца? Уловім, пасадзім у клетку, па тэлевізары паказваць будуць.

Бабулька махнула на маладых рукой ды адвярнулася.

Да вечара хадзілі па сяле ўстрывожаныя чуткі. На другі дзень да Сямёна збіраліся паляўнічыя, ля яго падворка стаяў «уазік», на якім прыехалі з раёна — прывезлі чырвоныя сцяжкі. У хаце гаспадыня ўстаўляла стол талеркамі, на кухні на патэльнях апетытна скварчэла.

— Каня я ўпрог у сані,— звярнуўся Сямён да старшыні таварыства паляўнічых,— пераабедаем крыху ды пойдзем.

— Наконт перакускі ці не лішне? — пачаў адгаворвацца старшыня.

— Не-не-не! Няможна так, першы раз у хаце ды адмаўляецеся,— запярэчыла гаспадыня.— Давайце падсмыкайце лаву, каб усе паселі. Крышку цеснавата, але нічога, нічога...

Праз нейкі час у хаце добра-такі гуло.

— Добра зрабілі,— хваліў старшыня Сямёна,— што пазванілі. Мы, бачыш, як хутка арганізаваліся?

Сямёну ж было на думцы, што дзень падышоў пад палавіну, што трэба спяшацца, ды маглі падумаць,

што вытурвае з хаты, таму нерухома сядзеў на лаве, падтакваў гасцям. Нарэшце выпхаліся з хаты, гуртом задымілі цыгарэтамі, загрузілі на каня сцяжкі, паселі самі. Сямён на лыжах стаў на ўчора зробленую лыжню, калі высачыў звяроў.

## IX

Ваўкі і не думалі вылазіць з асочанага лясочку. Тут, недалёка ад рэчкі, было зацішна. Не ўпудзіліся звяры і тады, калі да лёжкі прыцёгся па іхніх слядах ваўчыны павадыр. Важак, якога яны не заўсёды слухалі. Абраслы густым валоссем, пакрыты заміж шапкі дзіравай анучай чалавек апусціўся на калені ў снег. У роце заставаўся смак выпітага цялячага пойла. Зараз дзе б зашыцца ў стог, пакуль не галодны. Што б ні зрабіў дзеля сыткасці. Цяпер звычайная справа падцікаваць, калі гаспадыня выльс мешанку свінням, і залезці ў свінушнік. Там ён гаспадар над карытам. Які дзівак быў тады, калі саромеўся сябе самога, грэбаваў такім сілкаваннем. Яму здавалася, што гонар яго застанецца нечапаны. Ён вырас з зямлі, сілкаваўся з зямлі. Але свіное карыта ўратавала яго ад смерці. Даходзіў з галадухі сцюдзёнай зімой, калі падтапіла нечаканая паводка яго сховішча. Выпала так, што быў гэта адзіны выхад: упаўзці да свіней, адагнаць ад карыта, зачарпнуць лапай... Чаму яго тады так сутаргава сцінала, выварочвала? Ці не тады ж выплакаў у закутку ўвесь свой гонар? Свінні доўга прыглядваліся, бачачы яго бясшкоднасць, падыходзілі да сваёй ежы і ціхенька цмокалі...

Горай было з сабакамі. З усіх жывёл яны былі найбаязлівейшымі. Каб якога ўлавіў, дык раздзёр бы за лапы. Абарона ад іх была адна — каменні. Каменні прыходзілася насіць з сабою, набіраючы іх на чыгунцы. Колькі разоў сярод ночы сустракаў хуткі цягнік.

Ахоплены снежным пылам экспрэс налятаў, і яму даводзілася на скрут галавы кідацца пад адхон. Мільгалі асветленыя вокны з беленькімі фіраначкамі; ён паспяваў выгледзець мужчын і жанчын, якія сядзелі за столікамі, або стаялі і курылі ў тамбурах ці праходах, або правілі свае прычоскі, або вячэралі... Закрываў твар рукамі, хацеў на большы час затрымаць гэтыя зрокавыя ўражанні ў вачах. Але ўсё знікала, растваралася ў цемрадзі, як чырвонае святло ліхтара апошняга вагона. Яму заставалася ягоная цемрадзь, у якой ён шукаў сваю волю. Свет, усё людскае: сама чыгунка, вакзалы, пераезды, тэлеграфныя слупы, чалавечыя сляды, і больш за ўсё людзі ў форменнай вопратцы — раджалі пакутлівы страх, які знікаў у цемнаце або ў лесе, на адзіноце. З цягам часу заўважыў, што ад цягнікоў бяды няма. Баяўся толькі, каб яго не ўбачылі з акна. Прыходзіў на чыгунку ў адпаведны час, чакаў экспрэса, чакаў салодкага для вачэй блакітнаватага ззяння вокнаў, чакаў, што хто-небудзь убачыць яго і ўсміхнецца яму... Нехта з тых, што сядзелі па ўтульных вагонах і пілі гарбату. І вось экспрэс налятаў, холадна бліскаў ззяннем, чадзіў мазутай, і патыхаў саладжавым смуродам, і знікаў. Асеплены нечаканым святлом, доўга разглядваўся, спускаўся ў лес, валокся па снезе. Нападала невыносная туга, падаў ніц, тузаў пераблытаную, напоўненую паразітамі бараду, качаўся па снезе. Стаміўшыся, выў на ўсё горла. Прыслухоўваўся да водгалосся і зноў роў і скуголіў...

Каб перабіць смак пойла, чалавек выпрастаўся і падышоў да шыпшынавага куста з памёрзлымі ягадамі. Той-сёй з ваўкоў падняўся з лёжак... Адзін падбег да другога боку куста і пачаў лавіць мордай шыпшыніны... Чалавек замахнуўся — звер адскочыў, доўга глядзеў на чалавека, вярнуўся на сваю лёжку і скруціўся баранкам. Шыпшынавая мякаць была кіслава-

тая, з няўежнымі валосікамі. Чаго яму толькі не прыходзілася паспрабаваць на смак! Горкія і пякучыя пупышкі розных дрэў, салодкія валокны маладых соснаў, кісліну леташніх журавін... Адна частка яго істоты была запоўнена страхам, другая — імкненнем выжыць, не прапасці без ядунку. Горкі вопыт навучыў яго рабіць запасы, пастаянна клапаціцца пра заўтрашні дзень, адкладваць нешта ў схованкі, якія былі параблены ў дуплах дрэў, пад пнямі, у падмурках вывезеных хутароў. Прырода выштукавала з яго адмысловага паляўнічага і рыбалова. Памяць утрымлівала сотні ручаёў, выжарын, капанак і сажалак, на якіх можна было пасвіцца. Летам было лягчэй. Ведаў карчы, пад якія заходзіла ў спёку рыба, залазіў з галавою, вылазіў заўсёды са здабычай. Шчасцем было натрапіць на дзікую качку з выводкам і, калі быць уважлівым, вылавіць усіх качанят. А задыміць жоўтым пухам вербалоз, і ён будзе дзерці кару, вязаць акуратныя вярчы, каб навязаць іх многа-многа. Потым трэба нешта рабіць з травою. Ён жа будзе касіць! Якая радасць касіць на далёкім Змяіным востраве, дзе нікога ніколі няма, куды вядзе патаемная кладка праз дрыгву, а сена можна забраць толькі зімою, калі стукнуць маразы. Недзе ж там на востраве ляжаць каса, малаток і бабка... Там зусім нікога няма. Там на купінах гнёзды качак і чапляў, там дзікія козы прыводзяць малюсенькіх казлянятак, туды, як у самае глухое і бяспечнае месца, збіваюцца ліняць качары. Але мільгае раптам белая хустка між бярозак зялёных... нехта знаёмы падыходзіць усё бліжэй і бліжэй. Гэта жанчына, але нельга распазнаць яе рысы... Хто гэта такі, хто гэта такі?..

Звяры то сцішана ляжалі ў снезе, то раптам пачыналі старанна вылізваць лапы, выкусваць блох, прыемна пацягвацца ў сваіх качавілах, натапырваць вушы на які падазроны гук, але потым зноў прытырка-

ліся заспакоеным прыжмурам да лапаў. Толькі чалавек, калі гэтую істоту можна было яшчэ назваць чалавекам, ляжаў нерухома, як спілаванае, пачарнелае дрэва.

Пасыпаў зверху драбнюсенькі сняжок.

**X** Сямён упэўнена выходзіў на воўчую лёжку. Ваўкі астаўлялі пасля сябе добра прыкметны равок слядоў. Метраў пад трыста ззаду парыпвалі гужамі сані з паляўнічымі. Сямён уязджаў у равы, прадзіраўся праз ажыннік, губляў след на балоце, дзе ваўкі пайшлі па мокрадзі, ішоў напрасткі, кіруючыся ўчарашнім сваім следам. То супадаючы, то перасякаючы ваўчыныя сляды, значыліся нечыя ступакі, як быццам ад валёнкаў. «Хто б гэта мог тут хадзіць?» — думалася Сямёну. Ён здорава ўпацеў, але марудзіць было ніяк нельга, і так затрымка выйшла. Неўзабаве Сямён выйшаў да невялікіх асінак. У гэтым ляску яны і спыніліся. Паляўнічы пачаў абходзіць лясок, даўшы знак людзям на санях, каб спыніліся і сцішыліся. Абышоўшы кругом лясок, Сямён махнуў рукою, каб злазілі. Сляды з ляска не выходзілі.

— Сцяжкамі адрэжам ад канавы і ад лесу, а стралкі пастануць на балоце,— шаптаў Сямён і пачаў памагаць разблытваць катушкі...

**XI** Цьмяна-шэрае неба цяжка вісела над зямлёй. Ваўкі драмалі ў сваіх заглыбленых ложах у снезе. Варушыўся побач і чалавек, мабыць, прачнуўшыся. Ён з хруптам ва ўсім целе пацягваўся, пазяхаў, паказваючы ў зблытанай барадзе ружовы равок рота. Потым шчыльней захінуўся ў свой месцамі аблезлы, вывернуты

аўчынай наверх кажух, скуксіўся, пачаў кімарыць. Зверху ўсё церушыў і церушыў дробненькі сняжочак. Гэта добра, снег схавае след. Сваіх слядоў ён асабліва баяўся, яны былі яму ворагам, калі выпадаў снег. Тады прыходзілася тыдзень сядзець на адным месцы, а гэта было страшна. А не дай бог паляванне. Калі вычуваў брэх ганчака, чым хутчэй падаваўся ў гушчэчу прырэчнай пушчы. Там былі сякія-такія схованкі, выкапаны пад каранямі дуба берлаг. Ды голад гнаў цягацца ля людскіх паселішчаў. Хадзіў па людскіх дарогах, сцежках. Выходзіў на выжары, на якіх былі нанач пастаўлены кашалкі. Разбіраў салому, напіханую ў ваду, каб не замерзла, выцягваў кашалку на лёд і вытрэсваў уюноў. Пасля апускаў кашалку, замаскіроўваў яе саломай, як было. Уюны нейкі час юхляліся па лёдзе, потым касцянелі. Ён зграбаў рыбіны і ішоў па той жа сцяжынцы, па якой прыйшоў, каб не было слядоў. Ад прыгуменнага стажка пераходзіў на дзіцячую коўзалку. Адсюль не страх падацца на ўсе чатыры бакі.

Можна было накласці ў пушчы агню. Для гэтага трэба высачыць, калі якая гаспадыня вынесе попел з вугельчыкамі. Пакуль ён тоіцца на сваім гледзішчы, з усяго сяла сцякаюцца сабакі. Пасеўшы на агародах, яны чакаюць, пакуль ён з'явіцца з-за вербаў. Бразгаюць дзверы, кабета перакульвае вядро, бліскаюць такія жаданыя жарынкі. Цяпер застаецца адваяваць агонь у сабак. У руках — добры кій, у кішэнях — камені. Выходзіць з-за вярбы, сабакі ўздымаюць такі страшэнны лямант, заліваюцца многагалосым брэхам, што робіцца боязна, каб не выйшаў чалавек паглядзець: чаго гэта сабакі непакояцца? Трэба счакаць, але нядоўга, бо вугалёчкі згараць, зікнуць у цемры. І застаецца адно — атакаваць. Раскідаць па сабаках камені, пакуль яны разбягаюцца, памчаць на агарод, набраць вугельчыкаў у загадзя нарыхтаваную бляшанку і імчаць назад. Сабакі ачомаліся, даганяюць.

Ага, вот табе так, вот табе гэтак! Кіем па чым папала... А зараз глыбей у нетры, у самую глушэчу развесці цяпельца...

Чалавек перакруціўся на снезе. Тая прырэчная вёска, дзе ён часта краў ад людзей агонь, недзе недалёка адсюль. Дзесьці побач, у высокім лесе, здабыў ён сабе і новы кажух, які зараз, праўда, ператварыўся ў ашмоцце, перавязанае анучамі. А тады быў ладным кажушком. Паўстаў перад вачамі сцюдзёны бясснежны лес, чуўся грукат калёс па замёрзлых грудках зямлі. Чалавеку на возе трэба было высечы добры слупок, бо ён спыніўся, прывязаў каня і пайшоў з сякерай па лесе, прыглядаючыся да дрэў. Нарэшце ён упадабаў ладны дубок і пачаў завіхацца ля яго, скінуўшы кажух. Ссекшы яго, павалок на плячы да воза, пакінуўшы ля пянька сякеру. Калі ён вярнуўся, ні сякеры, ні кажуха не было. Дрывасек зазіраў пад кусты, кратаў счарнелае лісце на зямлі, вяртаўся да воза, перакідаў там усё, але дарэмна. Потым падазрона пачаў глядзець у лес, адвязаў лейцы, асцярожна азіраючыся, пагнаў каня з лесу.

## XII

Сцяжкамі адрэзалі ваўкоў ад лесу і ад берага рэчкі. Толькі адзін выхад — на паляўнічых. Сямён папярэджваў маладых:

— Толькі не шумець і не спяшацца, а то пойдуць на сцяжкі...

Між тым паляўнічыя азяблі, ад лёгкага марозлівага ветрыку слязіліся вочы...

А ваўкі даўно вычулі і шэпт, і шолах адзення, і пасморкванне. Некаторы час ляжалі ў сваіх снежных пасцелях і баяліся кранацца з месца, бо здавалася, што гэтыя гукі прынеслі страшную расплату за тую пагулянку на чалавечай сядзібе. Кінуліся ваўкі да ле-

су, але чырвонымі плямамі смерці вісела ў тым баку на кустах чалавечае ашмоцце... У маленькіх, цвердакосных чарапках мроіліся вобразы гнеўнага чалавека... Цяпер тая кроў, што нядаўна абмывала страўнік, адліла ад бруха і перапоўніла цягліцы па ўсім целе, насычаючы іх сілаю і энергіяй. Трэба было ратавацца ад людзей, якія паселі навакол з цяжкімі стрэльбамі і задаволена пачмыхвалі. Нібы незвычайная сіла размяла ваўкоў па лясочку, але яны зноў збіраліся ў лагчынку. Кожная частачка звярынага цела патрабавала дзеяння, бо толькі дзеянне магло прывесці да збавення. За любую цану, за кроў пралітую, за выбітае вока, прастрэленую лапу, але выратаваць жыццё!

Сёй-той з паляўнічых заўважыў, як з-за тоненькіх асінак то з'яўляюцца, то знікаюць шэрыя цені. Але страляць было далекавата.

Нестрымана насіліся сэрцы, пампавалі ясна-чырвоную кроў, звярыныя вочы, здавалася, у апошні раз бачаць дробязі жорсткага свету. Заставалася яшчэ жывой пашча, напоўненая моцнымі ікламі, язык адчуваў вільготнасць, глыбока ў грудзі ўлятала свежае паветра. Што было за яго саладчэйшым?..

Сямён даў каманду. Паляўнічыя пачалі прачэсваць абкладзены лажок. Але чым глыбей заходзілі паляўнічыя ў асінкі, пераступаючы цераз паваленыя дрэўцы, заглядваючы пад кожны куст, тым большы рабіўся выраз недаўмення на твары. З таго і з гэтага бакоў сышліся паляўнічыя да сцяжкоў — няма нічога!

— Шукай сляды, мо праз сцяжкі пайшлі...

— Сцяжкі ўсюды цэлыя, каля сцяжкоў слядоў няма,— адгукнуліся тыя, што ішлі па лініі сцяжкоў. Сямён пабег праз сплеценае голле ў гушчар, дзе павінны быць ваўчыныя качавілы... Вострыя пупіхі асін колюць у твар, вось і цёмныя праяміны ў снезе. Куды павядзе след?

**XIII** Санлівасць як рукой зняло, калі ўбачыў мітусню ваўкоў. Самае страшнае было тое, што ваўкі бездапаможна носяцца па хмызняку, нікуды не ўцякаюць. Колькі разоў яму прыходзілася ўцякаць ад паляўнічых! Колькі разоў быў на валаску ад выкрыцця, што было горш, чым пагібель...

Тулячыся за кусты, ён споўз у самае нізкае месца лагчынкі. Што рабіць? Выглядзеў здалёк нейкія чырвоныя анучкі на шнурку. Побач з ім поўзалі ашалелыя ад страху ваўкі. Ён нялоўка накалоўся на вострых пянёк, што застаўся ад згрызенай бабрамі асінкі. Вокамгненная здагадка працяла наскрозь. Недзе тут ён бачыў калісьці праваліны бабровага падзем'я. Так і ёсць, недалёка чарнее праяміна. Трэба разграбці нару шырэй і ўціснуцца ў гэты праход. Каб не цягаць асінавыя дрэўцы паверсе, бабры пракапалі ад ракі сюды, у гэты лясок, падземны ход. Такія збудаванні называюцца бабровымі метро. У тарфяністай зямлі зяркі выкапалі шматпавярховыя лабірынты, схаваныя ад людскіх воч. Пад зямлёй змяшчаліся залыспальні, прасторныя сталовыя, бакоўкі для адпачынку, закуткі-кладоўкі з асінавымі галінамі, адноркі для смецця, пералазы з ходу ў ход, запасныя выхады на паверхню. Не адно пакаленне баброў вывелася ў гэтай вольніцы, таму і тунель, што вёў з лажка, быў такі раз'езджаны, разшорганы. Цяжка было паўзці чалавеку па гэтай нары: то зверху асыпалася тарфяная крошка, то ўлазіў рукамі ў сцюдзёную лепятоху. Калі знерухомеў, каб перавесці дыханне, пачуў адзаду знаёмае хаканне. У нос ударыў смярдзючы выдых — то паўзлі за ім ваўкі. На дне падземнага калідора забулькала вада. Гэта сведчыла пра блізкасць ракі. Чалавек чуў саладжавы пах бабрынага памёту. Убіўся ў нішу. Ваўкі пашпарылі далей, гучна ляскочучы лапамі па вадкай гразі. Яны няўрымсныя, пад

зямлёй не праседзяць. Але хто яго можа дастаць з-пад зямлі? Ён зараз сцішыўся. Ён заўсёды, калі перамагаў, быў зларадны і заўсёды даваў знаць гэта людзям. Гэта пачалося з той нешчаслівай пары, калі пачалі яго турбаваць летам, ганяць [redacted] наседжаных патаемных месцаў. Спачатку яго пагналі з Куналавага балота трактарамі. Ён перасяліўся на Зарэчку. Але бульдозеры вытурылі яго і адтуль. Перайшоў жыць на Берашчаны, глухое месца — густыя альховыя кусты пасярод гнілой вады,— ды і тут заракатаў бульдозер, зафурычыў экскаватар і вясёлыя маладыя людзі з шумам цягаліся па балоце, ставілі палікі, адмервалі нешта рабой дошкай. Асабліва страшным было тое, што гэтыя хлопцы ставілі на трох нагах бліскучую штучку і па чарзе глядзелі ў яе. Падумалася, што, можа, гэта той інструмент, у які відно яго, самага патаемнага ўцекача. Ні трактароў, ні бульдозераў, нават вялізарных экскаватараў так не баяўся, як гэтай д'ябальскай аздобы на трох нагах. Здавалася, яму прыходзіць канец, вышукваюць яго пры дапамозе гэтай штучкі... Гэта яго шчасце, што хлопцы не заўсёды добра сцераглі гэты апарат, і аднойчы, калі людзі здарава адышліся ад таго месца, дзе стаяў ён на трох нагах, блішчэў сваімі фіялетавымі шкельцамі, ён выпаўз з-пад куста, зняў з сябе брудную світку і накінуў на верх апарата, звёў яго павучыныя ногі і памчаў у гушчэчу... Як соладка было здзекавацца з гэтай прылады... У рэшце рэшт зайшоў на глушэц — затхлае, глыбокае старарэчышча — і закінуў яго на сярэдзіну... Людзі дні са тры лазілі па балоце, шукалі, а ён адбягаўся чым далей і гучна пачынаў рагатаць! Кідаліся маладыя на гэты рогат, ды ён уцякаў патаемнымі грэблямі ды пералазамі ў другія месцы... Усё роўна людзі выгналі яго з наседжаных месцаў. Яны зруйнавалі кусты, пазасыпалі выжары, накапалі канаў, балота сцякло, сплыло вадой і засохла. На ім за-

раз пасвяцца рабыя танкаскурыя каровы. Даводзілася адыходзіць далей ад людскіх паселішчаў, ладзіць новыя схованкі, прызвычайвацца і да таго, што нават у самую глушэчу забрыдалі людзі.

У гэтай нары — вольна, у гэтым сховішчы — лёгка.

**XIV** Сямён ажно схапіўся за шапку, настолькі ён здзівіўся, калі ўбачыў, што ваўчыныя сляды сплываліся ў адно месца і знікалі ў чорнай дзірцы пад зямлёй. Спачатку падумалі, што гэта воўчае лагва, наставіўшы стрэльбы, падышлі бліжэй...

— Дык гэта ж бабровы пралаз! — усклікнуў Сямён.— Яны да рэчкі выпаўзуць, хутчэй туды!

Але было позна. Пакуль паляўнічыя дабеглі да рэчкі, ваўкі выкараскаліся з падзем'я і імчалі па замёрзламу рэчышчу. Перад імі была адкрыта ўся прастора. Чырвоныя, як кроў, сцяжкі засталіся ззаду. Але нечаканасць ішла за нечаканасцю. Не паспелі паляўнічыя згубіць ваўкоў са свайго зроку, не паспелі ў адчаі, што паляванне прайшло марна, як след вылаяцца, але над галовамі гулка зазвінеў верталёт, які даўно недзе туркатаў над лесам.

— Гэта геолагі! — закрычаў старшыня таварыства паляўнічых.— Пэўна, бачаць зверху!

Зверху сапраўды бачылі ваўкоў, якія адзін за адным ускоквалі з замёрзлай ракі ў яловы падлесак, выляталі адтуль і імчалі далей на поле. Вінтакрылая птушка знізілася над ваўкамі наколькі змагла. Ваўкі разбягаліся ад гудзення турбін у розныя бакі. Лётчык выбірае аднаго са звяроў і пачынае яго гнаць. Воўк ускочыў у густыя кусты, стаіўся там. Верталёт насеў ніжэй над маладняком, ажно зацерабіліся ад струменяў паветра адна аб адну галіны. Ашалелы ад гуду звер выскачыў на ўезджаную трактарамі дарогу...

Раптам унізе пад лётчыкам прамільгнулі коні, што ўспуджана асядалі ў аглоблях саней, паляцела, закружыла сена са стажкоў, на якіх стаялі людзі, што пазадзіралі галовы ўверх і трымаліся за шапкі. Між стажкоў, каля коней, каля людзей прамчаў воўк. Ён пёр па дарозе, па якой расцягнуліся цугам некалькі саней, нагружаных сенам. Ад свісту верталётных лопасцей коні вылузваліся з аглобель, адна пара кінулася з дарогі на цалік... Воўк імчаў па дарозе, якая ўлягалася ў сяло. Магчыма, там быў яго паратунак, але толькі не на снезе, дзе адразу ўгруз бы... Дрэвы, кусты, нарэшце, плот! Людзі, дамы, куры, бярвенні... Верталёт рэзка ўзлятае над высакавольтнай лініяй, а пакуль далятае да сяла, воўк губляецца сярод хат, пунек, платоў, дрэў... Паветраны дракон над самымі камінамі праехаўся, разляцеліся свойскія птушкі з двароў, каровы ў хлявах на сцены нагамі палезлі, а воўк знік, як кавалак цукру ў кіпені. Верталёт зрабіў адзін круг над сялом, другі... Потым застракатаў высока, аддаляючыся ў бок лесу...

А ў гэты час у сяле адзін дзядуля, што праляжаў паўзімы на печы і нічога не здарылася цікавага, раптам пачуў праз адчынены комін незвычайнае гудзенне і рокат, не вытрываў, споўз з печы нагамі ў валёнкі, выскачыў на вуліцу... а тут здаравенны шэры сабака — шась у незачыненыя сені... Схапіўся дзед за тычку, зазірнуў туды: хадуном хадзілі паўсцістыя бакі загнанага ваўчугі, раскрытай пашчай хапаў у распаленыя грудзі паветра, быццам асцой гнала ваўку сліну, і чорнымі плямамі расплывалася яна на падлозе каля вёдзер, мяхоў з мукой, скрынь і скрынак, панавешанай адзежы, старых ботаў і нейкіх клункаў, што бывае звычайна ў сельскіх сенях. Дзед з нейкай замілаванасцю глядзеў на ляснога звера, што зірка лыпаў вачыма, нібы прасіў літасці ва ўсіх гэтых чалавечых рэчаў, што акружалі яго. Вочы, што нядаў-

на ажно вылупіліся ад страху, цяпер сп'янелі, заслязіліся, воўк пачаў ачомвацца... І пачуўся голас чалавечы:

— Э-э-э, мусіць, добра табе прыперла, калі ўскочыў сюды, паратунку шукаючы. Загналі бедалагу, язык з рота вывальваецца...

А воўк паварочваў галаву так, каб не сустрэцца з чалавечымі вачамі, хаваў свой позірк, нібы нешта самае каштоўнае, нібы тое, што было даражэй нават за жыццё, якое перадаў у рукі людзей, калі ўскочыў ад страшнага клёкату зверху ў гэтыя драўляныя сені.

Дзед не стаў больш журыць ваўка, адступіўся ад дзвярэй, звер баязліва вызірнуў за парог, высока пераскочыў яго і пабег на агарод, на поплаў, за якім разлягалася парослае негустою лазой балота.

## XV

У падземным ходзе быў чуцен гул, але чалавек перачакаў яго. Трэба было стаіцца да вечара, паляжаць у тарфяной пасцелі. Прайшло некалькі часу, асклізла, холадна і няўтульна зрабілася ў гэтым логвішчы. Падступаўся і холад. Адразу акалелі ногі, потым рукі. Ад холаду, ад прымусовай нерухомасці заныла ў грудзях. Здавалася, быццам нехта забірае сэрца ў ледзяныя далоні і цісне, цісне... Гэтак балела і гэтак жа рабілася прыкра, як тады, калі яго ўлавілі ў свінушніку. Застала яго гаспадыня, калі сілкаваўся з карыта. У такіх выпадках можна, як заўсёды, было зараўці дзіка, і чалавек ляцеў прэч на скрут галавы, але гэтая кабета выхапіла з кутка кол і так пачала біць яго, лупіць па руках, якія ён выстаўляў, бароніячыся, а яна бязлітасна лупцавала, парыла ў карак, цэлілася ў галаву. Ён тады думаў, што яна заб'е яго, але раптам яна кінула кол, выскачыла на двор, зага-

ласіла дзікім голасам: «Ваўкалак, ваўкалак! Памажэце!» — і хацела зашчапіць яго ў хляве, але ён з разгону ўдарыў плячом у дзверы, кабета адхіснулася, ён вырваўся і даў цягу. Так было тады прыкра, так балелі пабітыя пальцы на руках... і так захацелася, каб нехта пашкадаваў яго, каб хто хоць слоўца адно суцяшэння сказаў... Тады ішоў па лесе і моцна-моцна плакаў... І не заўважыў, як ногі вынеслі да знаёмых мясцін, да роднай агароджы, да мілага відарыса хаты. Звыкла, як рабіў гэта калісьці, прайшоўся па надворку і палажыў руку на клямку, выткнуў калочак з зашчапкі... Знаёмы пах у сенях гаркаватага збожжа з вялізнай бочкі ў кутку, з застрэшша льецца струмяны водар назапашаных зёлкаў... З кутка нясе смуродам ад вялізнай каністры, у якую наліта газа... Чаму гэты пах такі непрыемны, такі смярдзючы, чаму гэтая каністра так паслужліва для памяці цямнее, неяк нават падстаўляецца для позірку? Што ты хочаш сказаць, каністра? Чаму ад цябе грызе душу смутак, пячэ ўсярэдзіне? Ну, што ты хочаш сказаць?

І як толькі ён кранае каністру, яе жалезнае вечка, удыхае смуродны чад газы, нібы прасвятляльны струмень абмывае галаву, ачышчаецца ў ёй усё, з'яўляюцца знаёмыя постаці, шумяць, гавораць свае людзі і злыя чужынцы. І чыста-чыста ўспамінаецца, што ўтварылася тады...

Спачатку на дарозе пачуліся гукі гармоніка, рогат хлопцаў і смех дзяўчат. На падводах, акружаная немцамі і паліцаямі, ехала з сяла набраная для Германіі моладзь... Праз смех і музыку чуўся плач і енк. Загрукалі ў дзверы і да іх. Сярожа, які звыкла сядзеў на печы, лупаў сваімі светлымі вачамі, поўнымі лагоднасці і дабрыні, адно што ў іх не свяціўся розум, абняў дзяжу з расчыненым хлебам, ласкава кранаўся шчакою вечка, што сядзела на пульхным цесце, і, гледзячы немцам у вочы, сказаў:

— А ў нас — поўная рошчына! — І тут пачалося твaрыцца нешта страшнае, пачалі вытурваць маладых з хаты, адзін немец прычапіўся да Сярожы, і бацька, і паліцаі з тутэйшых крычалі немцу, што ён — небарака, дурань, вар'ят, а немец вырашыў, мабыць, праверыць, ці хлопец не прыкідваецца, штырхаў яго дулам пад рэбры і паказваў свае рэдкія, крывыя карані зубоў. І тады нешта брыдкае, здзеклівае вычварылася... Нешта неразумнае, неспасцігальнае розумам... Памятаецца дзікі голас, потым паляцела дзяжа з печы... расплывалася на падлозе цеста пухірамі, бацька стаяў ля дзвярэй босы, ускудлачаны і з жудаснымі вачамі, а хата напоўнілася сінім, пахучым, як у царкве, дымам пасля таго жалезнага скіргату, пасля якога залажыла вушы... Здаецца, тады яшчэ ён драпаўся і біўся, і білі яго і выбілі, скрышылі пярэднія зубы... І каністра тады з'явілася, і маці вырывала каністру з рук... А што далей было? Што далей было? Ага, яшчэ саскочыў з падводы, і ціўкала пранізліва над галавой, і трэскі, што кулі адсякалі ад дрэў, колвалі ў шыю... Усё. Больш нічога няма ў памяці. Цемра. Такая, як у гэтых сенцах. Цемра ў галаве і цішыня. І не вызавеш больш вобраз бацькі. Не заві, не прыйдзе. Недзе застаўся там, не ў гэтай, а ў той, мінулай хаце, абпляcканай па прызбе бензінам... Больш нічога не раскажа і гэтая каністра... Дзе ж тут клямка ў пакоі, яе варта крануцца ледзь-ледзь, і яна адразу падскочыць, нібыта абрадаваная, што гаспадар прыйшоў.

Хата... Вокны бледныя. Пахнуць лугавою вадою дарожкі, панасланыя да стала, да ложкаў... Падлога свежамытая, не прасохла яшчэ. Як заўсёды, па ўсёй хаце — вышываныя сурвэткі, на падушках, вялікая — на куфэрку, на шафе, на люстры. На стале — шэры палатняны настольнік. Увайшоў у пакой, залез за стол, узгрувасціў локці на настольнік. Сядзеў у пры-

цемках і пазіраў на сцены, на рамкі з фотакарткамі, на лаву ўздоўж сцяны. Пазнаваў самую дробку роднага кутка, у якім калісьці спаў, еў, хадзіў босымі нагамі па падлозе. Боль у пакалечаных пальцах знік, не садніла на спіне, плячах. Рукі намацалі пасярод стала рабрыстую сальнічку, укінуў шчопаць солі ў рот і ажно зажмурыўся, голасна цмокнуў. І тут нехта стукнуў за дзвярыма ў сенях, нехта асцярожна прачыніў дзверы ў пакой, прагучалі ціхія, здзіўленыя словы:

— Леўка?! — І раптам вострым святлом ударыла зверху ў вочы, ад нясцерпнага бляску яны заплюшчыліся, але сілай разамкнуў іх, і... Пасярод нябачанага электрычнага бляску, ля ўвахода ў заліты святлом пакой, пасярод бліскавак, што скакалі ад жалезак куфэрка, кідаліся ад рамак з фотакарткамі, выліваліся напружаным струменем з касых граняў люстра, стаяла з бярэмем дроў, прыціснутых да грудзей, яго маці.

## XVI

Раптоўнае здзіўленне, раптоўны страх прайшлі, і зараз Сямён, на ўсякі выпадак наставіўшы рулю стрэльбы на пачвару, набліжаўся да яе як мага бліжэй, каб разгледзець яе хоць крышку. Гэта быў страхотлівы, працудны звер. Сямён адчуў нечаканую адказнасць перад усімі людзьмі ў тым, каб данесці ім весць пра гэтае стварэнне. Істота распластана ляжала на лёдзе і раз-пораз уздымала галаву, калматую і чорную, як абсмаленую паходню. Нечакана пад Сямёнам праламаўся прыбярэжны лядок, налілося вады ў чобат. Сямён распластаўся на лёдзе, задраў нагу ўверх, каб выцекла вада, потым, каб не рызыкаваць і не правальвацца, папоўз да пачвары, якая была зусім блізка, азіралася, паказвала чорны, запалены рот, крыві-

лася, плямкала губамі, упіралася ў лёд рукамі, спрабавала падняцца.

— Ваўкалак! — выгукнуў сваю здагадку паляўнічы і прыўзняўся на калені. Не верыў ніколі ва ўсякія байкі, не верыў у тое, што на свае вочы бачылі некаторыя людзі, але зараз перад ім навідоку, як на далоні, ляжаў не воўк, не мядзведзь, не лось і не рысь, а самы сапраўдны, з цела і плоці, жывы лесабалотны ваўкалак... Сямёну пёк лёд у калені; лёг на грудзі, папоўз бліжэй. Цяпер мацнейшым пачуццём яго была цікавасць.

— Дык гэта ж ваўкалак! — гаварыў ён гучна, нібы не верачы вачам, але між тым бачыў, што гэта ляжыць ля праламанага лёду нешта адзетае ў вывернуты кажух, падкурчвае пад жывот ногі, якія абуты ў валёнкі, але вельмі панішчаныя: разам з чырвонымі ад холаду пальцамі з дзірак тырчэлі мох, сена, анучкі. Праз дзіркі на каленях паляўнічы бачыў напёклае на холадзе цела істоты, бачыў, што з-пад кажуха тырчыць, выпаўзла страшэнна зашмальцаваная, амаль чорная сарочка. Не ваўкалак гэта быў, чалавек, і, старанна ўглядваючыся ў яго, Сямён, здаецца, пачынаў пазнаваць гэтага чалавека. І чым бліжэй падпаўзаў да яго, чым выразней бачыў высунуты з дзіркі ў валёнку вялікі палец на назе з пляскатым няроўным пазногцем, тым больш шчымлівае пачуццё жальбы ахоплівала Сямёна. І страх незразумелы ўвайшоў у паляўнічага, бо быццам жывое паўстала пазаўчарашняе кіно, амерыканскі ці італьянскі фільм, у якім паказвалі, як з лагера валасатых маладых людзей — хіпі неслі памерлага, і з насілак звешвалася нага, невялікая і вузкая, і між гэтым было быццам незнарок паказана, што вялікі пазногаць, адзін усяго вялікі пазногаць быў уфарбаваны чырвоным лакам... Зарагаталі хлопцы ў глядзельнай зале, а яго сутаргі ўхапілі за горла ад шкадобы таго невядомага валасатага

хіпі, які недзе там, немаведама дзе далёка, з дурноты жыцця не захацеў, таблетак наеўся... Дрыжала нешта ў горле, тлумна ў галаве зрабілася, але Сямён абароў свой страх і сваю слабасць, падаўся наперад, каб заглянуць у твар чалавеку. Што за чалавек гэта? Хто ён? Чаму локцем твар закрывае, чаму туліцца да лёду, вочы чаму хавае?.. Трэба абпаўзці з другога боку, каб паглядзець добра. Сямён перакачаўся праз лёд, выпаўз на другі бок... Зараз глянем на цябе, хто з'яўляўся прычынай непрыемных для людзей выпадкаў, незразумелых здарэнняў. Вось, мабыць, каго кабета з Берашчан улавіла ў свінушніку, падняла такі гвалт, а як прыбеглі людзі — няма нікога, а яна да людзей біцца папусцілася, калі ёй не паверылі, дый мянушку за тое далі — Ваўкалачыха. Вось хто, можа, бульдозеры меліяратарам нішчыў штоноч, хто ўкраў і закінуў тэадаліт у глушэц-старарэчышча, і толькі праз некалькі гадоў, калі асушалі і гэты кавалак балота, дзеці, што латашылі ў гразі ўюноў, выцягнулі з дна раскарачаны, счарнелы тэадаліт. Ды і не прыпамятаць усіх тых здарэнняў, калі спасылаліся на цябе як на ваўкалака. А які ж ты ваўкалак, чалавеча? Істота між тым затузалася, выпрасталася, і на вызваленым з-пад яе лёдзе Сямён заўважыў вялізную ружова-пеністую пляму.

— Паранены! — вохнуў Сямён, і ад гэтага крыку істота затузалася, не азіраючыся на паляўнічага, папаўзла прэч ад яго, проста на край палонкі, з якой нядаўна выкараскалася...

## XVII

Адтуркацеў верталёт, і расчараваныя паляўнічыя пацягліся дахаты. Незадаволены быў і Сямён, хоць яго вельмі дзівіла ваўчыная хітрасць. Уцячы праз бабровыя норы! Ды чалавек да гэткага не дапетрае, а то

жывёліна. Справадзіўшы як мае быць начальніка, стаяў, добра сугрэты выпітым ля зачыненай крамы, гутарыў з аднавяскоўцамі. Пачало змяркацца, і ў гэтых змроках раптам пачуўся далёкі глухі стогн. Людзі пераглянуліся. І зноў недзе з-за лесу вылецеў нізкі жудасны гук, нібы карову рэзалі. Ён нёсся аднекуль з ракі, шастаў у лазе, выносіўся на заснежаныя палеткі і, знямоглы, прылятаў у сяло. «Ці то ваўкі выюць»,— перашэптваліся людзі. Але не воўк гэта выў, а, здавалася, нехта страшны дудзеў у рог самой жудасці. Хіба ж маглі ведаць людзі пра той боль, што жалезнымі клямарамі сціскаў сэрца, што яно балела невыносна, прасілася літасці, шкадавання! Яно прасіла аб нечым такім, пра што ён ніяк не мог успомніць, як ні натужваў сваю галаву, як ні засільваў сваю памяць. Усе ўспаміны даходзілі да таго моманту, як ён чуў раптам словы:

— Леўка! — І раптам бачыў, як нейкая жанчына падала на парог, рассыпаўшы паленні дроў па ўсёй хаце. І ён нахіляўся над ёй, над яе светлым маршчыністым тварам, яна расплюшчвае вочы і ўскрыквае, затульваючыся рукою, і зноў яе галава безжыццёва стукаецца аб парожак. «Чаго яна так баіцца,— думаў Леўка.— Можа, хто яшчэ ў хаце?» Ён азірнуўся і ўбачыў насупраць сябе ў люстры незвычайнае страшыдла, пакрытае бруднай, злямцаванай поўсцю, з чырвонымі карослівымі рукамі і русай валасатай мордай. А самае страшнае было ў вачах, жудасных, праніклівых вачах страшыдлы. Леўка скалануўся і адвёў вочы ад люстра, пераскочыў праз цела на парозе, кінуўся ўцякаць ад гэтага страшыдлы, ад гэтай страшнай хаты, уцякаць ад людзей, якіх так баяўся, якіх так горача ненавідзеў, а калісьці любіў з той нясцерпнай сілай, якая вырастае, калі немагчыма выказаць гэтую любоў. І пачуццё такое светлае, быццам празрыстая вясна, кукуюць навакол зязюлькі, а ён, што ўскуд-

лачаная брыдкая пачвара, зарослая поўсцю па вочы, па залітых веснавой вадой кустах алешын хадзіў ад аднаго сарочынага гнязда да другога. З'ядаў яечкі з мяккім шалупіннечкам. На агародзе, на яблыні, чарнела сарочынае гняздо са стрэшкай. Трэба і тут яйкі пабраць, у каторы гэта раз. Пакінеш поклад, а дурная сарока знясе зноў тры-чатыры яйкі... Чутно, як у вёсцы людзі гавораць, як спяваюць, як плачуць, як «мама» крычаць, там так проста ўсё і замілавана... Але нехта ідзе сюды, на поплаў, трэба назад у ваду, за кусты. Гэта хлопчык і дзяўчынка. Якая ў яе чысценькая, беленькая сукеначка, якія малесенечкія сандалеткі на ножках... А хлопчык паважна вядзе ровар. Яны пачынаюць рваць аер, гаркаваты пах ажно сюды далятае ад фіялетава-чырвоных шыек аеру... Дзяўчынка перадае пукі травы хлопчыку, з рук у рукі, пры гэтым пальцы іхнія сукранаюцца... Як яна яму ўсміхаецца, маленькая, а які ён роблена няўважлівы, злёгку, крышку звысака ківае дзяўчынцы, як бы толькі крышку падтрымлівае тую тайну, што існуе толькі між імі. Хлопчык завіхаецца, увязвае аер на багажнік, а яна стаіць на падставе, не баіцца нікога і звонка, чыста смяецца! «Чаму я не магу так звонка смяяцца? Чаму я падглядваю толькі жыццё, а не жыву сам? Нашто мне стаяць па калені ў вадзе за кустом, от выйду зараз з лазы, падыду да людзей гэтых. Не тхор жа я, не буду яйкі больш вылізваць... Не-е! Выйду, выйду. Пагляджу зблізку на сандалеткі гэтыя, з дзірачкамі-кветачкамі. Але куды ж яны ўцякаюць, куды ж ровар кінулі, куды ж вы? Куды ж вы?!»

— Куды ж вы? — раптам праз сон закрычаў чалавек у тарфяной нары, прачнуўся і ад наплыву пачуццяў не мог стрымацца, заплакаў, захрыпеў горлам, і не маглі слязьмі пакуты выйсці, зароў гучна і пранізліва, і бабровы тунель шматразова ўзмацніў гук адчаю і перанёс яго ў прастору над лесам і бало-

там. І пачулі людзі незвычайныя гукі, перахрысціліся, калі хто ўмеў, скалануліся целам, хто не ўмеў. І адчуў палёгку Леўка, і што было сілы задудзеў у тунель, у гэты рог Адзіноты задзьмухаў што было моцы, у гэтую валторну Смутку, выганяў паветра з схаладзелых грудзей у гэтую арганную трубу Адчаю, і труба гэтая магутна дуднела, выносіла з-пад зямлі настоены на болю басавіты гук Жудасці.

## XVIII

Міхал зачыніўся ў школьнай лабараторыі і быццам рыхтаваў лабараторную работу, якую яму трэба было правесці ў дзесятым класе. Але на самой справе ён схаваўся ад хлопцаў і дзяўчат і думаў. Нядаўна прачытаў сёе-тое, і кнігі гэтыя былі для яго сапраўдным адкрыццём. Міхал нават не падазраваў, што могуць быць на свеце такія магутныя асобы, якія крышаць усе жыццёвыя перашкоды і дабіваюцца свайго. Даўно Міхал пакутаваў пытаннем: якім быць? Аказваецца, не трэба далёка хадзіць, тут гэты чалавек недалёка жыў, недалёка, ля Кобрына, расце яго дуб. Як цудоўна быць такім, як Аляксандр Суворац! Або такім, як Воўк Ларсен з «Марскога воўка» Лондана, або такім, як Пётр І. Якія цудоўныя словы: «...народжаны з цяжкасцю шкілет. Ты трасешся ад страху — але што б ты зрабіў, калі б даведаўся, куды я зараз цябе павяду!»

Нехта пастукаў у пакой. Міхал спахапіўся, крыкнуў: «Уваходзьце!» Увайшлі дзве дзяўчыны. Пышна ўвабраная Тамарка і сціпла, але з густам Зося — худаватая дзяўчына з круглаватымі вачамі і са стрыманай усмешкай.

— Заходзьце, заходзьце ў мае апартаменты. Сядайце, не бойцеся, кіслатой сукенкі вашы прыгожыя не прапалю...

— Не, Міхал,— адказала Тамарка, нечага ўсміхаючыся,— мы прыйшлі звацъ цябе ўніз, на танцы.

— А што, пачаліся? — спахапіўся Міхал.

— Зараз скончацца, а ты ўсё хімічыш тут. Ну, я пайшла,— раптам сказала Тамарка і выскачыла з пакоя, пакідаючы Міхала і Зосю між сабою. Дзяўчына блымала вачамі на хлопца, зусім разгубіўшыся ад выхадкі сваёй сяброўкі. Міхал маўчаў некаторы час, пазіраў на Зосю, перастаўляючы на стале штатыўчыкі з прабіркамі.

— Я ведаю, ты чакаеш, што скажу на тваё пісьмо,— раптам хутка пачала гаварыць Зося,— ты там многае напісаў, але чаму так усё ў цябе складана. Я ведаю, што сорамна дзяўчыне першай прызнавацца... але ў мяне не было выхаду, ты ж так зацяты ў свае кніжкі, такі нелюдзімы. Ты б ніколі не звярнуў бы на мяне ўвагі.

— Чаму ты так гаворыш! Ты мне спадабалася з таго вечара, як тады ішлі пасля кіно. І наогул усё глупства, што пісаў у тым пісьме. Навыдумляў так многа ў ім, што зараз самому прыкра.

Зося дастала з маленькай кішэнькі згорненую паперу і перадала Міхалу. Міхал запаліў спіртоўку, занёс паперу над сінім агнём...

— Ты ж паліш свае духоўныя ідэалы! — адазвалася Зося.— Ты мне ж таму і падабаешся, што ты такі! — падскочыла яна да хлопца і выхапіла з самага агню паперку, канцы якой счарнелі.

— Аддай! — падышоў да яе Міхал.— Аддай, прашу цябе.

— Мне хоць гэта ад цябе застанецца,— адказала дзяўчына, гулліва хаваючы паперу ў кішэньку, і сагнулася, каб Міхал не мог адабраць сваё пісьмо.

— Раз так, тады... тады яшчэ скажу што. Я лічу, што вышэй за ўсё — жалезная сіла волі! І розум. Адзінае, чым трэба кіравацца ў жыцці,— гэта мэтазгод-

насць. Ніякіх пачуццяў! Якая карысць з таго, што буду гуляць з табой? Ніякай!

— А якая карысць, калі ты кідаешся на навенькіх, якія з'яўляюцца? Які толк з гэтага?

— Як які толк?! Мне ж можна! Я ж не дзеля чаго, я ж дзеля знаёмства з людзьмі, якія выхаваліся ў другім асяродку... Ты не забывай, што я ж незвычайны чалавек. Мне ўсё можна. Магу парушыць любы закон. Я не тое што звышчалавек, але мэта ў мяне такая, што дзеля яе можна пайсці на любы ўчынак.

— Няможна пераступаць чалавечыя законы! Якая б мэта ні была...

— От зараз я табе руку заламну, каб пісьмо забраць, і не пабаюся...

— Не заламаеш! — Але пачуўся ў плячы хруст, Міхал разгублена выпусціў дзяўчыну з рук, тая з пакорлівым выразам твару выйшла з пакоя, трымаючыся рукой за плячо, слёзкі бліснулі на яе вачах, але, як толькі яна выйшла з пакоя, весела крыкнула:

— А вот і не забраў, вот і не забраў! — І пастукацела сваімі абцасамі па калідоры.

— Ідзі-ідзі! Усё роўна ты мне не пара. Шукай сабе якога Васю або Федзю! Каб прыціскалі крапчэй да плота... Я жыву не для гэтага. І напляваць мне на ўсе чалавечыя законы, я сам сабе ствару законы, таму што я даўно падазраваў, што я — унікум, што я — незвычайны і што мне тады людзі. Тым больш гэтыя, што мяне акружаюць: гэтая Вярбіцкая — настаўніца хіміі, называецца, каэфіцыентаў да ўраўнення на хаду падабраць не можа, гэты Макарчук, які на ўроках працы гадзінамі змушае запісваць у сшытках, як правільна трэба малаток трымаць. Або Маслякоўскі — стары ўзяўся інтэгральныя ўраўненні рашаць пад старасць год... І ні ў каго няма элемента звышмэты, звышзадачы, якая ашчаслівіць зараз адным махам чалавецтва... І я пайду на любое, каб да-

сягнуць гэтай мэты. Праўда, я не ведаю канкрэтна, у чым гэтая мэта, але мне трэба даказаць, што я здольны на такія ўчынкі, якія варты гэтай мэты. Але як смярдзіць паленай паперай. Але што гэта за выццё такое праз выцяжную калонку чутна, што гэта за гул такі? Во... Паслухай! Людзі кажуць, ваўкалак. Вот раве, аж страшна. Недзе з-за балота. Быццам у трубу вялізарную дудніць... Ваўкалак — гэта чалавек з павадзінамі звера. Гэта ідэал для пераймання. Зараз я павінен такім быць. Толькі так я дасягну нечага для людзей.

## XIX

А ён роў у бабровым тунелі, бо ў яго вушах стаялі галасы падлеткаў, спрачаліся жанчыны, плакала, залівалася немаўля, і хацелася выскачыць, пабегчы да людзей, шчыра-шчыра пра ўсё прызнацца, расказаць, праклясці сваю волю, якую стварыў сам сабе і ад якой мае гэтулькі пакуты. «Ой, як усё праяснілася, памятаю, памятаю, як учора было. Маладзічку сваю памятаю, толькі імя не ўспомню... Жыў тады на востраве сярод балота, не баяўся будан ладзіць. Тады яна прыйшла ў самую залеву, струмені прасякалі дах, цурбоніла з кожнай дзіркі, грымела так, што дрыгва траслася, бурбалкі згаралі мігатлівымі агеньчыкамі. А яна ў гэтым цэдзе гэтак шаптала на вуха... Але што ж яна шаптала?» Ён толькі памятае, што сціскаў ад злосці зубы ды адварочваўся ад яе. Яна трасла яго за плечы і пра нешта пыталася, прасіла пра нешта, плакала, гладзіла па галаве і зноў пачынала чагось калаціць... А мігатлівыя маланкі высвечвалі сінявую празрыстасць бясконцых струменяў, што рассякаліся па галінах дрэў блакітнымі няроўнымі кроплямі... і раптам з суцэльнай цемрадзі бабровай нары загучалі словы былой яго каханкі, быццам яна сядзела ў другім канцы гэтай бабровай нары.

— Вярніся,— шаптала яна,— колькі год прайшло, даруюць. Ты не адварочвайся, ты мне скажы, калі ты мяне хоць крышачку любіш, што ты вытварыў, што людзей так баішся? Глядзі мне ў вочы, пайшлі да людзей! Дакуль маці пакутаваць твая будзе, ці ж яна не чалавек?!

Леўка спалохана глядзеў у цемнату бабровага тунеля. Голас змоўк. Ды ці быў ён? Але як толькі ён так падумаў, пачуўся глухі гром, заплюскаталі кроплі дажджу і зноў пачуўся голас:

— Ці ж гэта ёсць твая воля, твая свабода? Што ты значыш без людзей! Я пагавару са старшынёй сельсавета, ён сваяк, ён паспрабуе ўсё ўладкаваць... Ты ж не забіваў, не рабаваў, не згвалтаваў нікога. Ты ж нічога не зрабіў!

— Як гэта не зрабіў! — запярэчыў Леўка са сваёй нішы.— Я ж на фронт не пайшоў ваяваць...

— Ты сам сябе пакараў. Тыя, каго пасадзілі, паадседжваюць і вернуцца, а ты ж навек тут...

— А тут мая зямля!

Усё залілося зіхотлівым святлом безупынных маланак, страшная віхура зрывала лісце, прастора напоўнілася фіялетавым свячэннем...

— Ой, што гэта,— раптам ускрыкнула Леўкава дзяўчына,— што гэта скача там такое, глянь, цэлая чарада! — Яны выглянулі з будана. Недалёка ад іх скакалі па траве незвычайныя птушкі... Яны мелі доўгія хвасты, выцягнутыя шыі і на ляту нешта клявалі.

— Гэта яны так ваду п'юць,— сказаў Леўка.

— А што ж гэта за птушкі?

— Рабок, такая птушка ёсць. Дзікая, як я, людзям не паказваецца,— Леўка ўсміхнуўся, і ў гэты момант мігнула і высвеціла чорную пустату паміж Леўкавых зубоў. Іх выбілі, як забіралі ў Германію яго, калі застрэлілі Сярожу-дурня, які кінуўся на немца.

— Я гэтых рабкоў добра ведаю, яны на востраве

па кустах гнёздаў нарабілі. Да мяне яны прывучаны...

Грукатаў гром, трашчала над галавой навальніца. Леўка панура сядзеў, вочы яго згаслі, ён выпусціў маладзіцу з рук...

— Ну, дык пойдзеш ты за мной? — улавіла яна яго руку.

Ён тузануў руку да сябе.

— Тады бывай. Навекі...— сказала яна і нагамі ўперад выпаўзла з будана.

— Ярынка! — закрычаў Леўка, але гэта быў крык адчаю, бо нічагусенькі не мог ёй прапанаваць. А яна, відно было, прабегла да кладак, выцягнула з куста тычку, з дапамогай якой толькі і можна было выйсці адсюль.

— Тады — хана! — выцягнуў Леўка з-пад радна сякеру і таксама выскачыў з будана... Па вяршалінах дрэў паскакалі вогненныя іскры, побач лапаталі крыллем рабкі, а Ярынка ўбачыла, як да яе імчаў з сякерай аброслы свіным шчаціннем вар'ят.

Пачуўся ў цемры нары плёхкат і гучнае сапенне, і Леўка ўвесь напяўся, бо ў тунелі нешта ішло проста да таго месца, дзе залёг ён. І Леўка задаволена чмыхнуў носам, здагадваючыся, хто гэта поўз па нары. І ад гэтага чмыху нешта гучна брохнула — гэта страпянуўся бабёр, выкруціўся ў пераходзе і паплёхкатаў па нары назад да ракі.

Вылез Леўка са схові́шча, размінаў задубянелыя рукі-ногі, глядзеў на праясненыя зоры, прыслухоўваўся да музыкі, што далятала праз балота ад асветленай будыніны школы. Трэба было кудысьці падацца, і, як заўсёды, Леўка перасільваў у сабе жаданне пайсці да роднай хаты. Трэба было аддаляцца ад яе як мага далей, бо там магла быць засада. Даўным-даўно было, многа часу мінула, як пралетаваў на балоце, а пад зіму прывалокся, згаладалы, з застуджанымі бакамі, да мацеры. Адлежваўся на печы, грэў нутро напара-

ным малаком... На дзень залазіў на гарышча, прытуляўся спіной да цёплага коміна, накрываўся з галавой кажухом, затыкаўся ручніком, каб не было чутно кашлю. Вярталіся з фронту мужчыны, гучна гаварылі на вуліцы пра перамогу, а ён вырашыў чым далей зашыцца ў балота, каб ні пра што не чуць і нічога не бачыць. Павяснела — знік з хаты. Змовіліся: на балоце, у адметных месцах, будзе касіць траву, мацеры застанецца яе толькі забіраць. Маці, у сваю чаргу, будзе прыносіць на рышт, на якім раней стаяла калода пчол, вузельчык з сякім-такім наедкам. Але прыйшоў і такі час, такое лета надышло, што пачаў баяцца шоргату касы, не кажучы пра кляпанне. Надыходзілі такія хвіліны часам, што ўяўлялася аблава, і тады ўцякаў, быццам зацкуты звер, зашываўся ў густы чарот, выганяючы адтуль раззлаваныя вушатыя чомгі. Але ціха было, здавалася, цішыня не парушалася чалавечымі галасамі цэлыя стагоддзі. Супакойваўся, сяк-так адклёпваў касу, нервова мянташыў, азіраючыся — касіў. Мабыць, пасля такіх страхоццяў у самім балоце больш чым калі баяўся засады ў сяле. Ён верыў, што яна будзе, і вера яго спраўдзілася. Ён памятае толькі тое, што сядзеў ён [illegible] ночы ў родным лёху ля бодні з салам. Месяц, два ці тры, а можа, і ўсе паўгода не бачыўся з мацерай, і яна павінна ж была зайсці ў лёх за дзень. Але раптам па прыступках затупаў нехта цяжкі і, засланіўшы сабой свет з дзвярэй, ухапіў накрыўку ад бочкі з бярозавым сокам, развярнуўся і так трахнуў ёю па галаве, што галава нібы раскалолася на белыя асколкі, якія так і разляцеліся ў паўзмроку. З гнюсятлівым яркатам кінуўся Леўка на гэтага чалавека ў вайсковай форме, быццам загрызці яго хацеў, той адкінуўся ў куток, а Леўка рвануў да выхаду, на ясны свет выскачыў, да лазы памчаўся, а там — вольнаму воля.

**XX** Нарэшце Сямён здолеў як мага блізка падпаўзці да гэтага ці чалавека, ці звера і зблізку зірнуць істоце ў вочы. Сямён чакаў убачыць нешта незвычайнае, ён падрыхтаваўся да гэтага моманту, чакаў нейкай нечуванай пранізлівасці, звярынай злосці... Але ў вачах была адна жудасць! Раптоўна нагадалася Сямёну даўняе здарэнне, пра каторае ён не хацеў успамінаць і якое, здавалася, даўно выветрылася з галавы, але нечакана з'явілася зноў. А можа, гэтага і не было, толькі ўзнікла як ліхаманкавае летуценне? Ён хадзіў не раз і не два ў хату, счакаўшы, калі старая Грыцыха пойдзе куды. Ярынка ўсяго баялася... Пяць разоў пасылала яго правяраць, ці замкнёны дзверы... Потым парцалянавы кубачак у руцэ — схадзі па сок бярозавы ў лёх. А ён лунае яшчэ, зямля вагаецца, быццам на шалях. А потым страшнае нешта, чорнае, жудаснае, быццам сама помста... Калі ачомаўся — указальны палец сціскаў вушка ад кубка, беленькія кавалачкі парцаляны ляжалі сярод бульбяных храсткоў. А зараз перад ім ляжыць тая істота, якая тады накінулася на яго! Сямёна кідала то ў жар, то ў холад. Нечакана зрабілася так усё ясна і зразумела, што быццам сярод мораку заззяла сонца. Толькі боязна было да канца ва ўсім прызнацца і самому сабе, і гэтай пачвары, якая каўзанулася на лёдзе...

— Так чалавек ты ці хто? — крыкнуў роспачна Сямён, істота ж пакутліва ўтуліла галаву ў плечы, пакорліва міргала, глядзела на Сямёна пільней і пільней, быццам нешта выглядвала, і раптам скамечаная барада і вусы захадзілі, затрасліся, у шырока расплюшчаных вачах набегла поўна-поўна слёз...

— Чалавек ты! — крыкнуў Сямён, не ведаючы, што яму рабіць, ці хапаць істоту і выцягваць на бераг, ці не.

— Людзі, сюды! — нарэшце знайшоўся Сямён, вы-

гукваючы ўбок, дзе былі астатнія паляўнічыя, крык аб дапамозе.— Людзі-і!

Істота напялася, услухоўваючыся ў гукі, яе білі дрыжыкі, яна зноў коўзалася на лёдзе, пасоўваючыся да чорнай вады...

— Куды ж ты паўзеш? Ты ж правалішся... Я ж цябе ратую! Хапай за рэмень! — і паляўнічы падкідаў, падсоўваў істоце расперазаны з сябе рэмень. Істота з грымасай болю і пакуты перакруцілася на лёдзе тварам да Сямёна, нейкі больш-менш асэнсаваны позірк вылучыў зарослы твар, і тыя слёзы, што напаўнялі вочы, пырснулі, як бярозавы сок з-пад сякеры. Істота ўсхліпнула і раптам затрэслася ў нястрымным плачы...

— Чалавек! — галасней і радасней ускрыкнуў Сямён.— Чалавек! — І калі істота невыразна праз сліну прамычэла ў адказ, нешта накшталт слоў вырвалася з яе вуснаў, Сямён заўважыў два роўненька адбітыя пярэднія зубкі.

— Леўка! — скалануўся паляўнічы і застыў, ухапіў паветра і яшчэ раз вымавіў: «Леўка!» Імя замацоўвала тое, што размывалася, было неакрэсленым. Нарэшце прызнаўся сам сабе, што пачвара гэтая — Леўка! Грыцаў сын — Леўка. Ваўкалак, балацянік, лесавік, тая страшная істота, што наскочыла на яго ў склепе. Гэта той Леўка, што тады ўцёк са шпаланарыхтовак, каб потым падацца да рабаўнікоў, хадзіў разам з імі начамі, церабіў людзей, а потым прапаў. Ой, Леўка-Леўка, у той сонечны зімовы дзень сядзеў на кажусе пад ялінай і вастрыў напільнікам пілу — чырк, чырк, чырк. Якраз Лаўрым падышоў да іх, сказаў Сямёну, што са шпаланарыхтовак забіраюць два чалавекі на фронт і няхай яны дагаворацца з Леўкам, каму пайсці...

— Мы вырашылі, адзін з вас, маладзейшых, ну, і адзін з нас, пнёў старых... дык вы,— гаварыў Лаў-

рым,— жэрабя выкіньце, ці як...— І раптам і Сямён і Лаўрым звярнулі ўвагу, што рытмічнае пачыркванне спынілася, зайшлі, глянулі — а там на снезе піла паблісквае палавінкамі навостраных зубкоў, на піле — напільнічак... Гукнулі, не адзываецца. Пайшлі па следу, хутка заўважылі, што чалавек рабіў шалёныя скачкі... Вярнуліся да лесанарыхтоўшчыкаў. «Точна ўцёк!» — гаварылі старэйшыя, раілі Сямёну пашукаць. «Як пачуў пра фронт,— і знік»,— даводзіў Лаўрым. «Шукай, бо пойдзеш ты!» Але не шукаў Сямён нікога, сабраў манаткі і...

— Ты — Леўка! Ты — Леўка! — гаварыў Сямён чалавеку на лёдзе, а той мармытаў нешта, і выходзіла нешта падобнае на «Ліўка», як быццам у дзіцяці малога. Сямён працягнуў сваю руку з адбітымі на фронце мезеным і безыменным пальцамі да заскарузлых Леўкавых пальцаў, якія тыркаліся ў паветра, бо хацелі дацягнуцца да сапраўднага чалавечага твару, крануць яго, пераканацца, што гэта не мроя, не хваробны чмур, а рэальнасць, ява!

## XXI

Леўка памятае, як наструніўся ён, калі прывяла яго дзяўчына да людзей на сходку. Перад усімі людзьмі стаяў стол, пакрыты чырвоным настольнікам, за гэтым сталом сядзелі чужыя людзі. Тых людзей, што сядзелі па ўсёй хаце на цесна састаўленых лаўках, Леўка больш-менш ведаў, а гэтых, чужых, баяўся. Каб не гарачыя Ярынчыны рукі, што стрымлівалі яго, пяшчотна паціскалі счэпленыя кулакі, даўно б уцёк. Мала-памалу заўважыў, што на яго ніхто наогул не звяртае ўвагі. Чужынцы нечага аж распінаюцца перад сялянамі. Што яму было да той волі, што прынеслі іншыя? Была ў яго свая воля, і больш за ўсё хвалявалі яго тыя гарачыя рукі дзяўчыны, якая сядзела по-

бач і рабіла выгляд, што ўважліва слухае прамоўцаў, а сама прыціснулася нагой да яго нагі. Нечакана лопнула лямпа ад моцнага агню, і ў раптоўнай цемры яны прыліплі адно да аднаго і, калі пачулі, што чыркаюць запалкай, адарваліся, стоена пераводзячы дых...

Для Леўкі тады здавалася, што варта толькі працаваць, больш-менш слухацца бацькоў і ўсё будзе добра. Пачалася вайна. Бамбілі чыгуначную станцыю, згарэла хата Ярынчыных бацькоў, яны туляліся па розных хатах, і Ярынка перайшла жыць да іх як нявестка. У пасаг далі цялушачку, якую адразу пераправілі на балота, на патаемную выспу, якую насыпалі яшчэ прапрадзеды, каб хавацца ад ворагаў. Зараз некалькі сем'яў хавалі там сваю жывёлу. Прайшоў на ўсход фронт, сяк-так наладжвалася жыццё пры новым парадку. Наехала бандэраўцаў з поўдня, адкрылі школу на ўкраінскай мове, зганялі дзяцей вучыцца. Вучням даказвалі: «Вам бараніць «самостийность». І цвярдзела ў Леўкі сваё паняцце свайго. І ён збег. У навакольныя мясціны, дзе стаяць нізенькія хацінкі, бяскрайнія нізкарослыя хмызы, неабсяжныя балоты, непралазныя прырэчныя нетры. Ён верыў толькі ў свае ногі, вочы, у свой страх. Разграмілі немца пад Масквой — пачаў ён тут сёлы паліць, прыціснуў сталінградскі холад — разгаралася па ўсім гэтым краі жорсткая, страшная барацьба... Як ненавідзелі разам з чужынцамі і сваіх праклятых, што паначаплялі на рукавы павязкі, ездзілі, рабавалі па сёлах палешукоў. А потым немцы пачалі адпраўляць моладзь у Германію. Памятае, як тады і яны калываліся на падводах, як раптам ён, Леўка, заўважыў: паліцай, што ішоў недалёка, прыпыніўся, каб злавіць цыгарэтай агеньчык з запальнічкі, і тады ён гоцнуў з воза ў лес...

— Стой! — пачуўся адразу стрэл, і трэска, адсечаная ад дзеравіны, укалола ў шыю, а ён скакаў праз

раўкі, забягаў за хмызы, ды пачуў раптам, як верашчыць Ярынка, што сядзела на другой падводзе:

— Леўка! Ой, Левачка!

Ён вярнуўся, выйшаў на дарогу перад фурманкай, на яго наставілі стрэльбы, адзін з паліцаяў зарагатаў:

— Ну што, уцёк?

Потым памятаецца страшэнная духата ў вагоне, адусюль смярдзела, а яны раскручвалі забранае калючым дротам акно, па чарзе да крыві, цэлых тры ночы. Пад раніцу адзін вылез праз дзірку.

— Ярынка, лезь першая, ратуйся...— І гэта былі апошнія словы, словы развітання, бо ніколі больш не сустрэўся з ёю, маладою, жывою, вясёлаю, бо пабіты, акрываўлены блукаў ля чыгуначнага палатна, хаваўся ад дрэзін з кулямётчыкамі, а яе ні жывой, ні забітай так і не знайшоў. Пайшоў наўгады да родных мясцін, не распытваючы дарогу, проста ішоў у выбраным кірунку дзень і ноч, доўгія ночы, цэлымі тыднямі ішоў, і раптам пачалі з'яўляцца знаёмыя мясціны, знаёмыя абрысы дальняга лесу, радасна забілася сэрца, ноччу ціхенька пашкрабаў у акно. Маці адчыніла, прайшлі ў хату, яна стомлена апусцілася на лаву.

— Ты...— Доўга маўчала, пакуль ён хадзіў узрушана па хаце, высмыкаў з печы гаршкі, прагна еў, піў малако са збанкоў.

— Бацьку ж забралі...— у голасе мацеры пачулася дрыготлівая нотка.

— Як забралі?

— Прыйшла папера, што паўцякалі і што ты ўцёк...

— Мамо, там жа смерць... За тры дні вады не далі напіцца, пад сябе гадзілі...

— Сказалі, як не заявішся — бацьку закатуюць. А яму ж кожную раніцу гарадчукі канчукамі дзесяць раз па спіне б'юць.

Як ні быў стомлены Леўка, спаць не мог, маці на

печы цяжка ўздыхала. Пад раніцу Леўка папрасіў цэлыя порткі. Яму не было выхаду. Маці завіхалася ля куфэрка, дастаючы порткі, гаварыла:

— Як Сярожу застрэлілі, бацька зусім аслаб, толькі ачухаўся, а яны і прыехалі... Ты ж, Левачка, хоць другарад не ўцякай, цярпі, пакуль можаш...

На Леўку ніхто не звяртаў увагі, калі ён падышоў да самай агароджы з калючага дроту. Увагу вартавых прыцягвала тое, што рабілася перад клуняй, а рабілася яно кожную раніцу. Чалавек з шаснаццаць былі пастаўлены ў шэраг. Загадалі скінуць порткі, сагнуцца і стаць уроскарач. Старыя, маладыя, худыя, таўсматыя людзі агаліліся і марудна апіраліся на рукі, хто не мог, стаяў на каленях, выстаўляючы свой востры зад.

— Гэтаму карову выбіваць! — з'явіўся з закасанымі рукавамі даўгарукі паліцай-гарадчук, паляпваючы кароткім канчучком па далоні.

— Афармляй, афармляй! — загадаў паліцай у новых ботах.— Як не сваю выведзе з балота, дык сваякоў папросіць...

— Вось табе за рогі,— бэмкнулі два ўдары, адзін па спіне, другі ніжэй,— вось табе за вушы,— лупнулі яшчэ два ўдары. Селянін упаў на калені, доўгая вузкая спіна яго згорбілася. На яго глядзелі, пазіралі пятнаццаць чалавек, каторыя чакалі сваё. Навокал купкамі стаялі паліцаі.

— Вось табе за адну, другую, трэцюю, чацвёртую нагу,— нібы град, пасыпаліся ўдары на чалавека, і ён заенчыў, перакуліўся на спіну, выставіў рукі наперад, баронячыся. Даўгарукі пачаў раптам прасіцца:

— Ну, разочак адзін застаўся, за хвосцік. Адзін разок, ну падстаўляй зад.— Паліцаі аж даходзілі са смеху. Стары баязліва перакуліўся на калені. Як толькі моцны ўдар апёк яго, ён усхапіўся, падцягнуў свае штаны і бегам кінуўся ў клуню, якая была за шталаг.

Гэта вызвала выбух рогату сярод паліцаяў. Даўгарукі крычаў начальніку ў бліскучых ботах:

— Гэтаму сына выбіваць?

— Рабі гэтаму сына! Рабі...— указальным пальцам ківаў, быццам адсякаў начальнік.

— Гэта мой бацька,— закрычаў Леўка што меў сілы.

— Гляньце — і зрабіў! І выбіў сына! — рагаталі паліцаі, тыцкаючы пальцамі ў Леўку, які расціснуў далоні з калючага дроту — далоні былі з чырвонымі крывянымі кропелькамі... А праз нейкі час Леўка стаяў на мосце праз Гарынь разам з паліцаямі, са стрэльбай у руках. Падыходзіў бліжэй да будкі, ля якой жанчына прасілася праз мост пайсці на станцыю прадаць яйкі і самагонку. Хлопцы гурбай палезлі ў кошык рукамі...

— Ідзі, Леўка, ахмелімся...— І раптам жанчына, на якую ніхто не звяртаў увагі, засунула рукі за пазуху і выцягнула адтуль наган і гранату.

— Ні з месца! Ні з месца! — крычала кабета, спрытна расставіўшы ногі, і ўсе раптам заўважылі, што гэта зусім не кабета, а малады мужчына.

— Разарву! Стаяць! Стаяць! — крычаў гэты чалавек, а з кустоў выскачылі хуткарухія чубатыя хлопцы з савецкімі аўтаматамі.

Леўка вылажыў усю праўду перад чалавекам, які дапытваў яго. Як уцёк з поезда, як прывалокся дамоў, што забралі і білі бацьку, каб вярнуўся ён, сын. Вярнуўся, а там сказалі, што павінен ісці ў паліцыю, і няхай што толькі ўчварыць, разлічацца з бацькам, разлічацца з маткай. І ўзяў стрэльбу, начапіў павязку.

Леўку даравалі, і ён застаўся пры партызанах і, як толькі адышоў крыху на захад фронт, уладкаваўся на лесанарыхтоўкі. Тут жа, на месцы, пілавалі лес на шпалы. Цяжка было тады працаваць, коўзацца па лесе ў глыбокім снезе, днямі цягаць пілу з маўклівым Лаў-

рымам. Адной раніцы, калі ясна свяціла сонца, Леўка вастрыў пад ялінай пілу. Раптам пачуў, як Лаўрым шэпчацца з маладым хлопцам яго гадоў, і шэпт гэты быў страшны і пагрозлівы. Леўка ўтаропіўся ў зялёныя лапікі, параскіданыя на наздраватым снезе, расшыраныя ноздры ўдзімалі паветра. «Нашто я ім? — падумаў.— Што яны ад мяне хочуць? Бацька памёр, матка ледзь жывая, братоў пазаганялі ў Германію, Ярынка загінула ў дарозе... Нашто я ім. Няхай хоць заб'юць — нікуды не пайду!»

Леўка пабег.

«От зайду за гэтую яліну, за другую. Няхай паспрабуюць мяне знойдуць».

Ён падзыгаў па лесе, робячы крокі шырэйшымі, потым пабег так, што вецер свістаў у вушах.

«Я сам сабе гаспадар, я сам сабе волю дам!» — думаў і заходзіў глыбей і глыбей у заснежаны лес, у серабрыстую выстуджаную пушчу, у якой думаў вышукаць сваю волю, але гэта былі крокі, якія аддзялялі яго ад чалавечага звання.

## XXII

Прайшло некалькі тыдняў, як Леўка вылежваўся ў бабровай нары. Пасля таго вандраваў па ўсім шырокім краі, вышукваючы сляды сваіх сабраццяў, і ў рэшце рэшт дапяў іх, злучыўся з імі. Выйшлі на калгасныя забудовы, прачасалі вузкія прамежкі між гіганцкіх малочных ферм, аббеглі магутную сіласную вежу, мінулі старыя, скасабочаныя вагі... Нечакана наткнуліся на здабычу. Ля капца караняплодаў панура грызла салодкі бурак нікому не патрэбная, а ўдзень усімі памыканая сівая кабыла. Пужанулі ваўкі кабылу так, што галопам панеслася яна ў чыстае поле, задраўшы астаткі свайго хваста. Намервалася яна абагнуць круг ды зноў апынуцца ля бяспечнага кароўніка, ля свят-

ла. Вунь ад кароўніка і чалавек бяжыць з даўжэзным прутом у руках... Але чалавек улупіў кабыле прутом гэтым у міжвочча, што, бедная, паляцела ад чалавека на ўсе чатыры капыты, а ваўкі ззаду пагналі яе роўным паўмесяцам. Здалёк гігатала яшчэ, спрабавала бараніцца. Высока ўзняла галаву, раздзімала храпу, пырхала ноздрамі, выстаўлялася, расшырвалася грудзьмі, каб запужаць драпежнікаў, што ўвіваліся ля яе. Вось ашчэрыўся адзін з ваўкоў і скокнуў да шыі... і рынулі ўсе. Кабыла прыняла крывасмока на шыю, амаль села, выкрутнулася і выкінула з асабліва гнюсятлівым скавытам і ржаннем заднія ногі — трапіць хацела жалезнай падковай у цела драпежніка. Адскочыў Леўка — быдла, а як бароніцца! Праз каторы час ваўкі выцягвалі цёплыя вантробы, хрупалі храсткамі вушэй... Гэтае чвяканне, лыканне крыві было невыносным для слыху, але самому хацелася есці, трэба было адваяваць і сабе кавалак. І ён падступіўся да здабычы.

**XXIII** Калі Міхал дамыў апошнюю прабірку, у лабараторыю ціхенька пастукалі і адразу адчынілі. Увайшоў, нават убег Сямён, школьны качагар, без слоў кінуўся мацаць батарэі ацяплення.

— Не холадна? — звярнуўся ён да Міхала, між тым вочкі яго скакалі па сталах, па бутэльках, колбах, мензурках.

— Быццам не холадна,— адказаў Міхал, выціраючы ручнікам рукі. Сямён завярнуўся ісці, стаяў бокам, не адразу вырашаючы для сябе нейкае пытанне, а потым раскрыўся ўвесь перад Міхалам.

— Можа, крышачку спірту ёсць? — Вочы яго былі зараз ласкавенькія, але яны яшчэ больш смела бегалі па полачках шафаў, на якіх стаялі ўкупораныя бутлі з рознымі хімічнымі рэчывамі.

— Дзе ж,— адказаў Міхал, задобраны тым, што да яго звяртаюцца з такой патаемнай просьбай,— Філіпаўна чысты так захавала, што сабака не нойдзе. Дэнатурат толькі вот...— і Міхал пабулькаў паўбутэлькай сіняй вадкасці.

— Яна чысты спірт дома хавае,— цмакнуў Сямён,— але ты... Дай хоць дэнатурат гэты...

— А як атруціцеся? Лепш давайце я вам яго пераганю. У мяне во які куб перагонны. За паўгадзіны ачышчу. І ў качагарку прынясу...

— Добра,— згадзіўся Сямён, яшчэ раз глянуў на Міхала,— а то аддаў бы і дэнатурат, каб без валтузні.

Праз гадзіну часу Міхал сапраўды прыбег у качагарку, дастаў з-пад крыса колбу з празрыстай, ажно бліскучай вадкасцю. У цаглянай качагарцы, з добра задымленымі сценамі, на варштаце была разгорнена газета, на якой ляжаў кавалак хлеба з наскрыляным салам. За варштатам сядзелі Сямён і школьны сантэхнік Валочка.

— Ну, ты маладзец! — узрадаваўся Сямён.— Піць будзем чысты, стопрацэнтовы!

— Сто не сто, а працэнтаў пад дзевяноста дзевяць...

— Загарымся,— прамармытаў Валочка.

Запівалі вадой з-пад бліскучага меднага крана. Сядзелі. Ашаломлены спіртам, Міхал баяўся сказаць слова. Валочка нечакана паглядзеў на яго, сказаў:

— Ты, Пячорын, дзявок крыху да плота прыціскаеш?

Міхалаў твар выявіў грымасу прыемную і разам з тым масляністую.

— Ты, брат, вельмі шчыра да гэтага ўзяўся,— гаварыў Валочка,— бедным, прадыхнуць не даеш. А яны ж табе людзі, а не тыя жабы, што Базараў рэзаў! — Валочка быў мужам настаўніцы рускай літа-

ратуры, настаўніца была заўзятая да літаратуры, як яе муж да гарэлкі.

— Ты на хлопца не нападай,— заступіўся Сямён,— што такога ён зрабіў, што ты так нападаеш?

— Думаеш, не зрабіў? Вунь Зосьцы з сяла гіпс на плячо налажылі, што ты думаеш, хто руку выкруціў?

Міхалу зрабілася надзвычай непрыемна, ён паволі наліваўся чырванню. Але самае непрыемнае чакала яго наперадзе. Знаёмыя толькі здагадваліся, што менавіта ён вінаваты ў тым, што ўвярэдзіў руку Зосьцы, калі забіраў сваё ж пісьмо. А тут Валочка выпрастаўся, мармытнуў:

— Я прылягу,— і выпрастаўся на варштаце, дастаў з кішэні згорненую ў чатыры разы паперку, на якой Міхал угледзеў свой почырк! Не гледзячы на Міхала, Валочка падаў лісток хлопцу ў рукі. Той быў чырвоны, як вараны рак, рукавіцаю ўхапіў гарачую клямку катлавой топкі і шпурнуў туды сваю пісаніну...

— То-та, Раскольнікаў. Мы тут памаленьку жывём, працуем, як хто кахаемся, а ён, глядзі, намерыцца на каго і зарэжа...

— Ну, ты не кажы так,— запярэчыў Сямён,— на куфайку пад галаву, табе зараз толькі і паспаць, пакуль Аляксандраўна цябе не знайшла. Але адкуль ты ўзяў паперку гэту?

— А з батарэі ацяпляльнай выцягнуў. Капала з яе вада, у прамежку паперка запхана. Парты ж побач стаяць, а хто ж сядзіць — Зоська сядзіць!

Праз некаторы час Валочка супакоіўся, Міхал працверазіўся, а Сямён цмакаў — каб яшчэ што выпіць. І пайшоў Міхал назад у лабараторыю, пазліваў са спіртовак засінены спірт, прапусціў праз перагонны куб, памераў у мензурцы — пад сто грамулек.

— Настаўніцы скажаш, што выпарыўся,— пашуткаваў Сямён,— ты не чуў, як у тым баку, за лесам,

учора страляла? Быццам зямля лопалася. Эх, да чаго толькі не дадумаюцца...

— Трэба ж бараніцца,— пачаў гаварыць Міхал, калі апёк ад спірту ў роце прайшоў і зубы зноў пачалі скрыгітаць пры націсканні адзін на адзін.

— Падумаеш, дык страх бярэ — могуць спаліць усё начыста: малых і вялікіх, добрых і злых...— Сямён дагрызаў скарыначку хлеба.— Ну от мы на свет з'явіліся, пабылі крышку — і на гэтым дзякуй. А тыя, што толькі-толькі на свет з'явіліся, ну што яны вінаваты, што пагараць? А ці вінаваты тыя, каторыя яшчэ не паспелі на свет заявіцца? Што яны каму зрабілі, калі на іх гэтулькі зброі нарыхтавалі?

— Гэта ўсё праз імперыялізм! — растлумачыў Міхал.— Усё зводзіцца да формы ўласнасці на асноўныя сродкі вытворчасці...

— Я ведаю, што ты разумны, навучаны хлопец,— згаджаўся Сямён.— Але пры чым тут малое дзіця? Ну такое, як на вобразе ў руках мацеры божай намалявана? Дзе яно саграшыла?

— Бачыце, вы зблытваеце паняцці. Вашага маленькага чалавечка можна прывесці ў сферу разважанняў пра нейкі абсалютны гуманізм. Між тым гуманізм толькі адзін сапраўдны — класавы, пралетарскі, балючы, можна сказаць, хірургічны...

— Такі хірургічны, як у цябе? — спытаў Сямён, ківаючы галавой, намякаючы на Зоську.— Не, мілы. Ёсць жа такія законы, што ніхто не мае права парушаць. Гэта чалавечыя законы — і для мяне, і для цябе, і для яго,— тыцнуў качагар пальцам на Валочку, які заграбаў рукамі ватоўку праз сон.

— А што мне чалавечыя законы, калі я...— Міхал быў чырвоны, разгарачаны,— калі, можа, я пераступлю праз гэты закон і адразу многіх, усіх ашчаслівлю...

— Бандыт! — пырхнуў у стружку Валочка, які пракінуўся са сну і пачуў апошнія словы Міхала.

— Ай, якая каша ў цябе ў галаве! — пакруціў галавою Сямён.— Але... Ведаеш, Міхалка, я вот не магу нікому пажурыцца... Пераступі такі закон. Пасля гэтага ёсць такое за душою, ніхто не разумее. Быццам нешта вісіць нада мной, як сякера, ну, быццам некага загубіў, ці што. А ўсё чаму? Бо малады быў, такі, як і ты, фанабэрны, на людзей не зважаў. Што мне былі людзі?! Бывае так, зачэпіш каго, нават не глянеш, а чалавек пакрыўдзіўся, ды так, што і здароўкацца перастаў. Ну от, што прыкрае зрабіў я старой Грыцысе? Старая, ледзь ходзіць, а ганіць і ганіць мяне на ўсё сяло. Чым перад ёй вінаваты — не вазьму ў толк...

Забразгалі ў дзверы, і ўвайшоў зменны качагар. Убачыўшы, што яны падпітыя, прыстрашыў:

— Загрызуць вас ваўкі!

— Дзе зараз тыя ваўкі? — мармытнуў Сямён.

— Як дзе? Бегаюць, на дварэ такая цемра, самая пара бегаць. Сястра з Крушына прыязджала, казала: такога каня зарэзалі ваўкі, што...

— У Крушыне? — спахапіўся Сямён.— Гэта ж праз балота, ды побач! Можа быць, заўтра зацкую каторага...— з робленай самаўпэўненасцю зірнуў Сямён на Міхала.

## XXIV

І зноў у прыцемках ваўкі знікалі і знікалі наперадзе, а Леўка даганяў іх і даганяў. Трэба было здагадацца, куды ваўкі кіруюцца, а потым не збівацца з гэтага кірунку. Калі збіваўся, прыходзілася падаваць голас. Ішоў ён па бясконцых палях, перабрыдаў заснежаныя канаўкі, пералазіў праз балотцы, перасякаў лагі. Расхінаючы рукамі жоўты чарот, увайшоў у прырэчныя заraснікі. Святлей рабілася ў небе. Ваўкі далей не пайшлі, чутно было, як яны трашчалі ў чароце, робячы логвы. Леўка ўлез у густы куст лазы, падабраў ле-

вае і правае крысо кажуха і зваліўся ў знямозе. Скрозь густыя галінкі лазняку прасвечвалася крывяна-бледнае неба на ўсходзе. Часам даносіўся ад блізкай ракі крэкт лёду. Гэта быў магутны і патаемны гук, але Леўку — вядомы і нечым блізкі. Пад гэты гук чалавек сцішыўся, дыханне яго зрабілася лёгкім, перад вачамі пабеглі розныя відовішчы з мінулага жыцця. Успомніліся цёплыя, вільготныя ночы, калі жабкі кракталі пад зорным небам — заслухацца. Ён яшчэ прыходзіў на сядзібу, маці выходзіла на вуліцу слухаць, каб ніхто не прыйшоў, а яны сядзелі на прызбе з Ярынкай. Ад яе пахла печаным хлебам, новым крэмам і ледзь улоўным духам нянавісці пасля той, рабковай ночы... Ад яго несла брудам, балотам, звярамі, травою, у якой водзяцца вужакі — гады паўзучыя, але і вольныя. Ярынка асцярожна выпытвала: «Прызнайся, змардаваў каго, забіў?» А ён маўчаў, па-звярынаму хітры і асцярожлівы пасля самотнага блукання па лесе, пасля туляння ў сціртах, стажках, паляўнічых шалашах. І кожны раз баяўся, каб знянацку не засталі, як засталі тады, адразу пасля вайны, калі блукалі па лясах такія, як і ён, валацугі-беззаконнікі. Ён тады смачна спаў у чоўне сярод кустоў. Умёрзлы ў раку човен накрыў зверху стрэшкай — хоць такі прытулак. Яны разбурылі гэтую стрэшку, тыцнулі руляй чорнай абрэзанай стрэльбы...

— Што ляжыш, уставай!

Леўка не паспеў усхапіцца на ногі, як яго таўханулі ў плечы, прыкрыкнулі: «Сядзі!» Абшукалі і яго, і човен, вытрыбушылі торбачку на снег, адразу ўхапіліся за пласточак сала. Было іх двое. Адзін аброслы, чорны, злосны, другога Леўка пазнаў. Гэта быў даўгарукі кат-прыслугач з гарадоцкіх паліцаяў. Не пыталі яны ў яго, чаму хаваецца, чым вінаваты. Ноччу прывялі ў сяло. Страшылі: «Не здумай уцякаць — куля дагоніць!»

Леўка перaступiў невысокi плот, намацаў клямку дзвярэй. Дзверы былi зашчэплены. Пагрымеў у шыбу. З акна доўга выглядваў мужчына, нешта бубнеў, засвяцiлася ў хаце газовачка...

— Чаго табе трэба? — нарэшце пачулася ў сенцах.

— Адчыняй,— пагрозлiвым голасам гаварыў Леўка.

— Што трэба, я пытаю? — не адчыняў мужчына. Пранiзлiвы шэпт ззаду даносiўся да Леўкi:

— Не стой i не прасiся! Грукай, ды ўсё!

Ад гэтага змяiнага шэпту Леўка пачынаў грукаць нагамi ў дзверы, надаючы сабе большай рашучасцi.

— Стой, стой, разагнаўся. Не бi, кажу. Развалiш дзверы! Чорт, клямку заела... Ну, чаго табе? — паказалася ў шчылiне шырокае мужчынскае аблiчча. Леўка напёр рукою на дзверы, каб шчылiна зрабiлася шырэйшая, але мужчына падпiраў iх плячом. Некаторы момант яны нiбы дужалiся...

— Сала давай, а то... хат-ту спалiм,— выдыхнуў Леўка чалавеку ў твар. Леўка хацеў сказаць, што хату «спаляць», што ён тут нi пры чым, але сказаў якраз так — спалiм — мiжволi, каб было ўнушальней, каб яго хутчэй паслухалiся. Мужчына адпусцiў дзверы, але не да канца. Вызiрнуўшы добра на двор, ён угледзеў за Леўкавай спiной дзве масiўныя постацi.

— Няма сала. Вот табе iсцiнны бог кажу, няма сала. Зайдзi ў хату — дзяцей як прусакоў, i свае i братавы...— загаварыў селянiн, тым не менш не пускаючы Леўку ў хату.

Зарыпеў ззаду снег, падыходзiлi чорныя постацi. Пачуўся гарачы шэпт:

— Ах ты, смярдзюх! Ты ж ранкам свiнню калоў — на ўсю ваколiцу вiшчэла. Хавацца надумаў?

— Дык паpаздаваў! Чыста ўсё паpаздаваў людзям, вiнен людзям быў! — у роспачы хапаўся за грудзi

мужчына, бо бачыў, як у руцэ аднаго рабаўнікоў з'явілася зброя.

— Ад дзяцей забіраеце...— здаўся селянін, бо адступіўся ўглыб сяней.

— А ты ў хату!..— загадалі Леўку, і ён увайшоў у сені, наткнуўся на дзверы. Паветра ў хаце было цяжкае. Варушыліся на палатках дзеці, кашлянуў на печы стары. Не паспела гаспадыня ўлезці ў спадніцу, як Леўка змахнуў са стала хлеб.

— А божачкі...

Была такая не адна хата, быў страшны найвялікшы сорам пасля такіх рэйдаў. Сала набралася поўная торба, і Леўка адчуваў, што хутка ён гэтым набродам будзе лішні, гэта яго турбавала. Ён пачынаў баяцца, што яны яго пакінуць, як непатрэбную рэч, хоць бывала і так, што лупілі кулаком у патыліцу:

— Вось табе, гадзе, вось табе! Чаму не адчынілі? Чаму слаба ў дзверы лупіў? — Леўка нават чакаў смерці, бо не раз здавалася, яны пра гэта і шэпчуцца між сабою. Ды выйшла так, што ў адной хаце падштурхнулі яго да драбіны:

— Лезь на гарышча. На табе запалкі, падсвяці — сцягно мо вісіць! — Пакуль Леўка лазіў па гарышчы, бліскаў запалкамі, у хаце пачалася валтузня, загрымелі з сярэдзіны ў дзверы. Леўка натыцнуўся на сцягно — пахучы кумпяк, пачаў адкручваць ад жэрдкі дрот. Тут выглядзеў ён светлую просінь у даху. Зманліва свяцілася начное неба, свяцілася так, як сама свабода. Кінуў раскручваць дрот, працісн уўся між лацін, саслізнуў з даху, мякка ўваліўся ў снег, што намяло пад страхой, пабег па агародзе, чакаючы кулю між лапатак, але дамчаў да поплаву, пералез вялікія снягі ля дарогі, выскачыў на яе следавішча, на абледзянелы санны натапт, і памчаў што меў духу. Цяпер-то не ўловяць.

— Ты думаеш, людзі не ведаюць, што ты ёсць, што ты хаваешся ў кустах? — гаварыла між тым Ярынка.— Каб памёр, дык памёр, а так — ні жывы ні мёртвы.

— Я памру,— мыркнуў Леўка.— Я даўно памёр, даўно не жывы, ні для цябе, ні для мацеры...

Горкія былі гэта словы, і пасля слоў такіх Леўка пайшоў далёка-далёка ў нетры, у самыя непралазныя лясы, дзе наўкруга не было ніводнага чалавечка. Зладзіў сабе будыніну, тут вырашыў дачакацца сваіх дзён апошніх, хоць чаканне гэта было цяжкім, у пастаянным пошуку, што б з'есці. Колькі лет прабыў там, у дзікаватым нерушы, колькі перакачаўся зім?! І аднойчы ўбачыў у небе нешта дзіўнае, бліскучае. Гэтае нешта было вестуном новага, якога ў жыцці Леўка не сустракаў. Адной раніцай спаў на лясным ложку пад дубком і пракінуўся ад пранізлівага рокату і свісту, які напоўніў усю пушчу. Выскачыў на лужок, азіраўся: дзе, што гудзе? І раптам мільганула ўверсе, у небе, бліскуча-срабрыстая рыбіна з чырвонымі кончыкамі пёркаў, з празрыстым вялізным вокам. Рыбіна нясцерпна ззяла на сонцы, са страшным гудзеннем пранеслася над палянай, і паспеў разгледзець Леўка, што чырвонымі пёркамі былі строга-чырвоныя зоркі на металічна-блакітных крылах. Гэта было падобнае на самалёт. Леўка ад здзіўлення нават не паспеў схавацца. І тут жа над палянай пранёсся цэлы гурт дзівосных лятучых машын. Леўка ніяк не мог зразумець, як яны ляцяць без прапелера. Самалёты з'яўляліся і знікалі так хутка, што Леўка не пасляваў кідацца ўцякаць. Доўга думаў Леўка і вырашыў, што гэта шукаюць яго. Трэба як мага глыбей зашыцца ў непралазь. Ды самалёты лёталі і над непралаззю, якраз над самім Леўкам. І Леўка вырашыў, што прыйшоў яму канец і гэтыя самалёты, што быццам лунаюць у паветры проста так, самі па сабе, толькі выгляд робяць,

што не заўважаюць яго. А яны лёталі па вызначаных кругах, зрэдку парамі, тройкамі, запаўзалі высока-высока ў неба, рабілі там розныя выкрунтасы, потым са страшэнным грукатам звальваліся з вышыні, імчалі над лясамі. Леўка назіраў праз густыя вяршыні дрэў за палётамі, мала-памалу прывыкаў да грукату.

Надышла восень, улілі дажджы. Леўку здавалася, што раз яго выкрылі — чаму цяпер хавацца? І выйшаў ■ гушчару. Цяпер ён, нібы той мядзведзь, жыраваў, перад тым як залегчы ў спячку, латашыў агароды лясных вёсачак, наносіў сабе на балотныя астравы бульбы. Прыйшла зіма, быццам тысяча зім прыйшло, бясконцы, пакутлівы лік дзён і начэй, і нібыта прачнуўся напрадвесні, з абмарожанымі вушамі, і зноў на лета зашыўся ў нетры, чакаў, што наляцяць зноў на яго самалёты, але прайшло цэлае лета, і ніводнага самалёта так і не ўбачыў. Быў гэтым пастаянна прыгнечаны. Як Леўка чакаў убачыць у блакітнай вышыні самалёт!.. Смутны сядзеў на адметнай паляне з дубком, што паспеў вырасці, угусцець вяршыняй, і пачуў страшны грукат, але не спужаўся, а незвычайна ўзрадаваўся. Выскачыў на прасвет сонечны, задраў галаву і... Ён чакаў тых самых самалётаў, што лёталі раней. Але тое, што ляцела проста ў вочы, наўрад ці можна было лічыць за самалёт. Значна хутчэй, чым ранейшыя, стрэлападобныя, з насамі, завостранымі і шкляна-празрыстымі, гэтыя вокамгненна мільгалі над галавой. Збянтэжаны хуткасцю самалётаў, Леўка ўзлез на самае высокае дрэва, каб наглядзецца ўдосталь. І не прыйшлося доўга чакаць — здалёк, з поўначы, з'явіўся россып цёмненькіх штрышкоў на небакраі, над паўшар'ямі блакітнаватых лясоў. Рысачкі незвычайна хутка набліжаліся, і вось яны тут! Грукат ірваў вушы, агонь скакаў ад хваста — адзін за другім пранесліся самалёты паўз Леўку. У сярэдзіне іглападобнага носа кожнага самалёта сядзела па чалавеку! Нават было

відаць, як яны пакручваюць галовамі, як гэта робіць варона, калі ляціць. Леўку быццам скінула з вяршыні дрэва. Там сядзелі людзі! І што выраблялі гэтыя самалёты ў небе! Леўка жахаўся, кідаўся вобзем, бо здавалася, самалёт вось-вось рэзнецца ў зямлю, проста ў яго... Але грукат як нажом зразала, самалёт плаўна выкручваўся над альховымі і бярозавымі вяршынямі і, нібы бусел над родным краем, рабіў круг і хутка набіраў вышыню, каб зноў зваліцца з-пад аблокаў. Леўка пераставаў дыхаць, не мог воч адарваць ад неба. Мабыць, тыя, што сядзелі па кабінках, заўважылі яго і, калі ляцелі не асабліва хутка, крышку збоку, важна і плаўна адзін за адным пакалыхвалі яму крыллем. Леўка радасна замахаў рукамі, пачаў падскокваць, але раптоўна асекся, прысеў, азірнуўся... Нікога не было навокал, і тых людзей, у небе, таксама не павінна для Леўкі быць. Але яны былі! Леўка нечакана заплакаў, размазваючы слёзы па валасатым твары. Каб хоць на якую капяліначку ён быў саўдзельны гэтым цудоўным лятальным машынам, каб хоць у адным рагу ад зоркі была і яго частачка, была і яго кропелька крыві... Але ж не, не... Быў ён чужы гэтаму цудоўнаму, бо яно належала ўсім астатнім, акрамя яго. Яго было балота, дрэвы, птушша, зверына, рыбныя закоты, на якіх памайстраваў езы з лазы, наплёў сіляговых сажаў, у якіх трымаў жывую рыбу. Яго былі гнечышчы, горбы, выспы, катловішчы, прырэчныя кнеі, у якіх на дзіковых купайлах паляваў парасятак. Тут было летавішча, тут змайстраваў перавесішча з сетак лавіць птушак... Тут ён залазіў рукамі ў хлуды, дзе хаваліся рыба і ракі, нырцы і выдры. Тут было яго трызнішча, на якім ён змагаўся сам-насам са сваім страхам. Але над гэтым панавала нешта вышэйшае, чым мог ён сабе ўявіць. А ён, Леўка, не захацеў быць з гэтым вышэйшым, пашукаць сабе хацеў вышэйшага ў самім сабе і жыццё на пошукі страчваў, а не зна-

ходзіў. Не мог выйсці да людзей, да новага свету, але той сам дайшоў да яго...

Адбылося гэта ў асенні час, калі вечарам пачалі ўспыхваць у небе бліскучыя, рознакалёрныя вісячыя ракеты, што асляпілі лес сваім магніевым бляскам... І раней такія ракеты запускалі над палігонам, але па адной, па дзве. А ў гэты вечар яны дзесяткамі вылятлі з-за лесу, адкуль вылятлі і самалёты, групаваліся ў пэўныя чароды, узводзілі ў небе не бачныя Леўкам сілуэты. І каб ахапіць адзіным зірам увесь гэты бліскучы прывід у небе зараз, Леўка кінуўся бегчы ў супрацьлеглы бок... Калі ж нарэшце ён азірнуўся, ажно закрычаў ад усведамлення таго, што бачыў. У небе блішчэў агнямі знаёмы па кніжным малюнку маскоўскі будынак, рубінавым агнём зіхацела на цэнтральнай вежы найвышэй падвешаная ракета... Як ён ні ўцякаў ад гэтай зубчатай сцяны, яна сама завітала да яго сюды, і ён кінуўся ў гразь і плакаў, што ён не чалавек, а быдла нейкае. Леўка прасіў літасці ў гэтага зорнага сілуэта, прасіў вярнуць яму жыццё і волю... але агонь ілюмінацыі пачынаў згасаць, будынак знікаў, сыпаліся іскры з ракет, яны дагаралі... Цемра, страшная цемра насунулася на Леўку, і ён нема завыў у гэтай суцэльнай цемрадзі, губляючы рэшткі розуму... І ў адказ пачуў выццё ваўкоў, якіх не баяўся, бо сам зрабіўся ваўком.

**XXV** Сямён падрабязна распытаўся пра ваўчыны заціск у суседнім калгасе. Пасля спірту крыху шумела ў галаве. Быў таксама растрывожаны тлумнай размовай з маладым лабарантам, які ж вельмі набраў сабе ў галаву. Якраз было збіць гурт паляўнічых, падмануць хлопцаў лёгкасцю здабычы, гайсануць пад раку, пад самы палігон, палазіць па кустах са стрэльбай.

Калі слізгаліся на лыжах па бліскучым снезе і хутка натрапілі на ваўчыны след, Сямён зноў быў непрыемна ўражаны нечымі слядамі, якія перасякаліся з ваўчынымі. Ажыў, нібы прачнуўся ўчарашні неспакой. Хутка ваўчыныя сляды разлезліся ў бакі — можна было чакаць ваўчынай лёжкі. Паляўнічыя акальцавалі частку балота каля ракі з густымі лазовымі кустамі і высокім чаротам. Сямён часцей і часцей пазіраў на незразумелы след. Успомнілася, што гэткі ж след быў і на першай аблаве, і цяпер праяснілася, увесь час пасля таго няўдалага палявання след гэты стаяў перад вачамі. Сляды выразна былі падобныя да чалавечых, але свядомасць упарта перайначвала іх, рабіла іх меншымі, вастрэйшымі, нібы былі яны не ад чалавека. Іменна нейкага звера, а не ваўка намерваўся ўпаляваць Сямён. І калі ён упалюе звера — Сямёну зрабілася аж соладка,— тады само сабою развяжацца пакутлівае пытанне, якое не магло праясніцца, смактала чарвяком сярэдзіну.

Паляўнічы выбраў сабе зручную пазіцыю. Лепш за ўсё было ісці ўздоўж канавы, якая цякла ў балоце. Каля канавы рос сцяною лазняк. Звяры могуць выскачыць з кустоў і апынуцца на адкрытай прасторы. Толькі трэба асцярожненька падысці бліжэй да гэтай канавы і гэтак жа ціхутка пайсці ўздоўж сцяны, пакуль хлопцы яшчэ не зайшлі справа, з лазы. І тут нешта мільгнула ў зарасніку, і проста перад Сямёнам выскачыў пушысты ад марозу воўк, але тут жа вывернуўся і ўскочыў назад у чарот. Паляўнічы толькі паспеў узвесці брамку на стрэльбе...

— Вось табе і гацаца! Разява! — паціху вылаяўся і толькі зараз заўважыў, што стаіць ля тых незвычайных слядоў, што хвалявалі яго, і што не ваўкі яго трывожаць, а нешта іншае. Сямён угледзеўся ў кусты, куды вёў след, душою, усім целам адчуў, як цяжка прабіваецца з падсвядомага страшная тайна.

**XXVI** Леўка ўчуў: усхапіліся ваўкі, зашоргаліся праз чарот. Небяспека! Прыслухаўся, ці не было сабак. Куды бегчы? Кінуўся ўслед ваўкам, пралазіў праз лазовыя кусты, каб было хутчэй, выскачыў за міжкустоўе. Убачыў здалёк высакаватую постаць, што стаілася за кустамі. Чалавек! Вывернуўся назад у кусты... Гучны стрэл скалануў паветра... Заматлялася перад вачыма перабітая галінка... Ашалелы, выскачыў на прагаліну, перакінуцца вырашыў праз чорную прамыіну рэчкі, але не паспеў прыйсці да памяці, як апынуўся ў вадзе. Учапіўся за лёд — ногі ледзь даставалі гразкае дно. Узвальваючыся на закраіну лёду, Леўка толькі зараз адчуў востры боль у баку... Карычневая вада выпінала з глыбіні неспакойнымі выверчамі. Убачыў: з-пад кажуха выплывае на лёд кроў. Паранены?! Усхапіўся, войкнуў ад болю і ўехаў назад у палонку па шыю... Да палонкі асцярожна падыходзіў чалавек. Што з ім будзе рабіць? Ён не дасца датыркнуцца да сябе, ён абароніць сваё звярынае права на недатыкальнасць. Леўка аскаліўся і заеркатаў на чалавека. Чалавек спыніўся, прыпаў на адно калена і навёў на яго стрэльбу, потым выцягнуў шыю і заглянуў у палонку...

Далёка за лазовым балотцам крычалі людзі, разы са два там стрэльнула... Чалавек выпрастаўся і падыходзіў бліжэй, нешта балбочучы... Раптам лёд праламаўся пад ім, і ён угруз ля берага ў гразь па калені. Чалавек выцягся з багна, на колешках папоўз па лёдзе, нешта гаворачы, нават нешта крыкнуў. Ля самай палонкі ён лёг на лёд і падпоўз блізка-блізка. Леўка адварочваўся, плаваючы ў палонцы, хапаўся за лёд з процілеглага боку. Чалавечы голас звяртаўся да яго ласкава, настойліва, і ў гэтым голасе праяснілася нешта запаветнае, якога ніяк раней не мог зразумець. Леўка хапаў паветра ротам, нязвыклыя пачуцці нарадзіліся ў яго збалелай душы. І як толькі зрабілася

лёгка-лёгка ад гэтых новых пачуццяў, адчуўся востры боль параненага бока — не паварушыцца. Леўка пакорліва прытуліўся галавою да лёду, ашклянелымі ад болю вачамі глядзеў на паляўнічага, быццам чакаў, што той дасць збавенне. Чалавек быў нечым знаёмы. Ён падкідваў яму пасак, але пасак спужаў Леўку. Ён зноў завалтузіўся ў прамыіне... Нешта накшталт плачу вытварылася з ягоных грудзей, усхліпваў, адчуваў, што ногі не знаходзяць апірышча ў выбаўтанай гразі і вада адносіла ногі пад лёд. Да балючасці ясна ўбачыў нарэшце Леўка сваю волю і працягнуў сваю брудную лапу да чалавека, які дацягваўся да яго сваёю рукою, і памкнуўся Леўка да сваёй волі, да свабоды, але пачуўся трэск лёду і хлынула вада...

## XXVII

Пачуўся трэск лёду, хлынула вада — Сямён не паспеў ухапіць працягненую руку звера-чалавека, бо сам апынуўся б у вадзе... Што меў сілы выкрутнуўся і накінуўся целам на абламаны край, шкрабучыся пазногцямі, хапаючыся за кавалкі лёду, адпіхваючыся нагамі. Абачліва перакаціўся на цэлы лёд, і ў гэтым радасным, самазахаваўчым руху раптам усвядомілася ўсё чыста. Гэты звер у палонцы — яго былы сябрук Леўка Грыцаў! З таго моманту, як Леўка ўцёк з лесанарыхтовак, з памяці Сямёна быццам выкраслілі яго імя. Хто б яму падказаў пашкадаваць гэтага чалавека, якога зацкаваў і загнаў у чорную тхлань, у якой той боўтаецца? Каб мог разгадаць раней сваю незразумелую крыўду на чалавека за мінулае, за Ярынку ды ці мала за што!

— Людзі, ратуйце! — закрычаў Сямён, бо Леўку зацягвала пад лёд. У кустах трашчала ламачча. Недзе блізка стрэльнулі...

— Людзі! — нема раўнуў Сямён і папоўз назад да

палонкі і раптам скалатнуўся ад жудасці таго, што ўбачыў... На краёчак палонкі выкараскаўся... маленькі голенькі хлопчык. Ён быў зусім голенькі, расчырванелы і мокранькі, быццам яго толькі дасталі з ночваў. Хлопчык выпрастаўся, абапіраючыся ручачкамі аб кавалак лёду, і папраставаў басячком на Сямёна. Сямён закрыўся рукамі, зажмурыўся. Ён не чуў, як шоргаліся ў палонцы вада і лёд, як трашчалі голлем паляўнічыя, што выскачылі на пачуты лямант... Чалавек прыслухоўваўся, скурчыўшыся на месцы ад жаху, ці не чуваць шлэпання босенькіх маленькіх ног...

## XXVIII

Сямён расплюшчыў вочы, у праломіне разыходзіліся кавалкі лёду. На супрацьлеглым ад Сямёна баку, апусціўшы заднія лапы ў ваду, ляжаў здаравезны аблезлы ваўчуга. Малады паляўнічы выцягваў мёртвага ваўка за пярэднюю лапу. Сямён адчуў, што і яго тоpгаюць за нагу.

— Але і заўзяты вы, дзядзька! — радасна загаварыў падаспелы таўсматы хлопец з перапоўненым патранташам на жываце.— Гэта ж каб мне сказалі ў ваду па ваўка лезці — нізавошта не палез бы. Было б па што, а то паскудны, стары, мусіць, з блохамі...

— А вы б-бачылі? Бачылі?! — не зводзіў вачэй з ваўка Сямён...

— А што тут бачыць, мы на вас нагналі...

— А што тут было, тут! Гэта не воўк! — узбуджана загаварыў Сямён, прыходзячы да памяці, але змоўк, бо ледзь не сказаў слова «ваўкалак». Ён паглядзеў на ваўка, з задніх ног якога сцякала карычнева-жоўтая вада, галава завярнулася набок, і з зяпы тырчэў прыкушаны чырвоны язык. Паляўнічы збянтэжана перавёў позірк на ваду, што супакоена чарнела ў праломіне, назаўсёды схаваўшы ў сабе тайну.

# Забівец

Аповесць

## I

Святочнай ранічкай, калі пачынаем нядзелькаваць, засцілаць прыгожымі капамі ложкі, апранаць новае адзенне, узрушана чакаем прыходу маці, якая звечара пайшла на ўсяночную ў царкву, або, як у нас кажуць,— «всюночню».

Уваходзіць маці, цалуе кожнага мяккімі стомленымі вуснамі, а мы, як падвучыў нас бацька, адказваем:

— Ваісціну ўваскрэс!

Мы не ведаем, хто там уваскрэс, чаму мацеры не было ноччу, але нам весела глядзець на мацерын фартушок, на якім вышыты чырвоныя пеўнікі, весела чакаць, калі маці з вузельчыка развяжа «святую соль», а пакуль яна гэта не зробіць, есці няможна. Спачатку трэба з'есці пасвенчаныя яйкі, але пазнаю чужыя, бо поп, мабыць, пераблытаў з нашымі. Каторыя дзюбатыя, тыя свае, самыя лепшыя мацакі. Трэба пару выбраць і бегчы біцца ў біткі. На вуліцы чакаюць хлопцы.

— Хрыстос васкрэс! — крычаць малыя.

— Ваісціну ўваскрэс! — адказваюць сябры, а потым, агледзеўшыся, ці няма дарослых, дабаўляюць некалькі слоў, якія так зняважылі б таго Хрыста, каб ён чуў, што не захацеў бы і ўваскрасаць. Мацакі аказаліся нямоцнымі, адзін з хлопцаў аддае пабіткі другому, а сам пайшоў на поплаў, азалочаны квітненнем лотаці. Над поплавам вісіць лёгкая пара, якая запаўзае, здаецца, ад сонца ў алешыны. Трава радасна прабіваецца наверх, пупіхі набрынялі і палопалі, сербрацца на лазе пушыстыя каткі, а на вярбовых галінках, нібы сініцы паселі,— да таго ж буйны квет.

Лёгкі ветрык лашчыць твар, патыхае сырасцю ад вільготнай зямлі. Ад лашчыння — радасць ідзе па скуры. Здаецца, што нехта вельмі далікатна казыча скуру.

Хлопец нечакана задумоўваецца, але рэзка мяняецца ў твары. Зараз жа выбягае на кладачку праз залітую вадой меліярацыйную канаўку. Кладачка ўгінаецца настолькі, што якраз мочацца чаравікі. Што ж рабіць? Здаецца, і разлічыў, а вымачыўся. Здымае чаравікі, шкарпэткі і белымі, яшчэ не агрубелымі басаходдзем нагамі выходзіць да цэнтральнай меліярацыйнай стрэлкі. Здаецца, што сонца ссыпае ў ваду свае бліскучыя промні. На самай справе пасярод русла калыхаюцца хвалі, сонечныя промні бліскаюць на іх вяршынях і гранях. Ад гэткіх зіхоткіх пераліваў на хвалях робіцца неяк радасней, утульней, марыцца пра вялікае мора, вялікія марскія шляхі, марыцца будучыня, якой павінен дабіцца ў чым бы то ні было. Над блізкімі палямі кігікаюць кнігаўкі, грэе чырвоныя ногі ў лужыне бусел, і ўсё наваколле такое светлае, чыстае, так бліпічыць, і здаецца, што ніякі там не Хрыстос уваскрэс, а ўваскрэсла ад зімняй спячкі зямля...

Хлопец спудзіў і падняў на крыло некалькі кулікаў, якія зачылікалі сваю незадаволеную песню... Залапаталі рыллем качар і шэрая качка... На другім беразе, на сухіх буграх, распушылі свае каўнерыкі і б'юцца дробныя турухтанчыкі...

А вось і шлюзы. Бетонныя пліты ўтрымваюць напор вясенняй вады. Металічныя застаўкі высока падняты, каб чым больш захаваць вады. Але гэтага дабра так многа, што ўтвараецца добры вадаспад. Вада шугае ўніз, таму, калі падыходзіш да шлюза, здалёк чуваць не аднастайны шум, цэлая музыка! Тысячу разоў прыбягаў сюды, тысячу разоў бачыў музыкальны перакат... І звон гэты ўсмактаўся ў яго, стаў неаддзельнай часткай яго. І тут, у гэтым месцы, хлопец ніколі не адчуваў паталогію сваёй асабістай складанасці, усё

было проста, як цурчанне во гэтай вады. Яно стала песняю ягонай душы. Але набліжаўся ён да вады, і плёскат вады нарастаў, пераходзячы ў грукат; яна хвалявалася, быццам то было хваляванне сустрэчы. Але гледзячы, як вада нізвяргалася з чатырохметровай вышыні і знікала ў чорна-кавяныя бездані, хацелася ўскочыць у гэту паводкавую ваду... І здавалася, быццам бы спеў жаўрука, чысты звон у халодным сінім небе, пераўтвараецца ў нешта магутнае, страшнае і, ператварыўшы энергію спеву ў энергію шуму, грукату, кідае яе ўніз, гукі знікаюць пад вадой, а потым магутна выплёхваюцца з струменямі і жоўта-лімоннай пенай, што шыпіць, бы тая бездапаможная гадзюка, зашчэпленая рагатуляй за карак. Так, здаецца, адыходзяць пуды і тоны вады ў страшны вір, тоны гукаў, вадзянога смеху, тысячы сарваных лотацей чыімісьці закаханымі рукамі і пушчанымі па гуляй-вадзе. Але ўздымі ад чорнай вады свой позірк, хлопча, глянь — колькі мільёнаў іх, жоўтых радасных лотацей, квітнее там на паўзалітым поплаве, і да іх прыбіла нават адзін цюльпан, крывяна-ясны цюльпан, што зіхаціць здалёк невыгаральнай фарбай... Яго ўпусціла ў ваду дужа закаханая дзявочая рука... няйнакш з сельскага моста, можа, нават той самай рукой, якой захапляецца ён сам... І ўсё можа быць, той самы цюльпан, якім зрабіў прэзент. Ёй, перад гэтым залезшы ў адзіны на сто кіламетраў вакол цюльпанарый, і сарваў шкадлівай рукой той самы бутон... Намацаў нагамі па слізкіх камянях буйную прыбярэжную ваду паўз мост, пайшоў, і нечакана хлапец апынуўся яшчэ ў адным казачным свеце... Гэта быў цуд! Мільён пралесак малочнай пенай заліло паўвыспу, абліло наўсцяж пагоркі... А там, сярод мноства вадзяных веснавых траў, што былі ўсе заглушаны буйна квітнеючай лотаццю, там коцікі беразлозу — жоўтай лазы, густа абсыпалі прагрэтую сонцам ваду, там сярод згрызенага ўшчэнт капытніку і

сіту, цягалі вярбовае голле бабры. Яны клапатліва плюскаталі ў неглыбокай вадзе, грызлі кару, абхапіўшы сцяблы лапкамі. Іх, мабыць, было штук з шэсць. І ў незвычайным захапленні падглядваў на гэты свет хлапчына. І назаўсёды ўвайшлі ў свядомасць хлапца — веснавая чаша з лотаццю і чырвоным цюльпанам, брохаючыя ў ёй бабры, чысты звон з старажытнага сяла.

II. Тыдзень удаўся на работу. Паперш садзілі бульбу, патрэбна было яе вынесці з лёху, а потым з капца. Міхал так нацягаўся кашалёў, што балелі рукі. Заняты гаспадарскімі клопатамі, ён вельмі зайздросціў Гуцю, які амаль кожны дзень бадзяўся па канавах і пералесках, страляючы нейкую птушку. Сустракаліся яны ў школе. На перапынках Гуць зацята расказваў, як ён палюе, колькі качак падбіў, колькі андатраў «узяў» і г. д. Міхал толькі загараўся жаданнем. І вось, калі нечакана надвор'е сапсавалася — пачалі сеяцца дробненькія дожджыкі, разам з даждамі вярнуліся веснавая слата і халадэча. Вада зноўку затапіла лугі, і дзе-нідзе палі забяліла напарошаным снегам. Зноў была нядзеля, ранак... У сельсавеце былі нейкія выбары, там натоўпіўся народ. Ля гэтага ж будынка стаяла некалькі матацыклаў, сярод якіх Міхал угледзеў Ахрэмаву машыну,— можна было ісці смела на паляванне, бо не стрэнешся з гэтым заўзятым змагаром супраць незаконных паляўнічых, хоць сам такі быў «законны», што які быў заўзяты барэц за прыроду, у такой мерцы і браў ад яе. Толькі Ахрэм у сяле хадзіў у добротнай андатравай шапцы, толькі жонка яго вышпацыроўвала ў футры з лісіных шкурак, а каму, як не Міхалу ведаць, што елі ў Ахрэмавай сям'і. Не пераводзілася ні ласінае мяса, ні дзіковае... І ўсё Ахрэм рабіў паціху, а ўголас крычаў: «Не чапайце прыроду! Прыроду трэба

ахоўваць!» Неба хмурылася неяк неспакойна, са злом. Было а шостай раніцы. Але светла, бо быў ужо май. Празяблы май. Нястрымана хлопца цягнула да вады... І хлопец выцягнуў з клочча сваю запаветную стрэльбу, прадзьмухаў ствол, падмазаў механізм, распароўшы сяннік, узяў адтуль схаваныя набоі — сярод іх адзін з маленькаю, абкатанаю дубовымі дошкамі свінцоваю куляю...

Доўга ішоў па сырых нярадасных палях. Кракаючы, пралятали качкі. Міхал баяўся, каб ніхто не злавіў, і ўсё аглядаўся на дарогу, потым звярнуў у бок Чэрнехава. Трапіў у тупік — разліўвада змыкалася з канавай і не было ніякае магчымасці ісці далей... Але чамусьці Міхал пайшоў — пабрыў па вадзе, заходзячы ўсё глыбей і глыбей, пакуль нарэшце не зачарпнуў чобатамі. Можа, і не зачарпнуў бы, ды пачуў нечаканы посвіст качыных крылаў, проста над галавой неслася чарада крыжанак, і ўскінуў ружжо — глянуў, на цаліку нічога не было — успелі падняцца. Такі не стрэльнуў. А качкі зрабілі круг і на гэткім другім залёце здзіўлена пракракалі нешта, мабыць, на іхняй мове абразлівае ці так, недарэчнае. І раптам далёка наперадзе ўбачыў галаву, лахматую і чорную, нейкага неверагоднага звера. Вушы тырчэлі нібы ў бегемота. Звер плыў уздоўж паўзатопленага берага. Міхал дастаў з-за пазухі самаробную падзорную трубу — углядзеўся. У вясёлкавых пералівах павелічальных шкельцаў заўважыў пысу нечаканага звера. Гэты страшны вусаты звер з вылупленымі, здзіўленымі, здавалася, на ўвесь свет вачыма быў стары-перастары, як тая самая старажытнасць,— здаравезны бабёр. І такі ж самы старажытны, як гэты бабёр, інстынкт шматануў хлопца вобземь, прама ў гнілую гразь. Міхал задам падаўся ад канавы. Потым дрыжачымі рукамі сарваў з сябе свой лахман, выграб з яго набоі, вылез з чобатаў і ў адных яркіх, аранжавых шкарпэтках пачвякаў па люта-ха-

лоднай гразі напераРэз да звера. У грудзях ныла шалёнае раздражненне — ён можа ўпаляваць гэтага звера, ці то бабра, а мо і выдру! А на самым донцы сваёй душы хлопец адчуваў халадок — што ён робіць? Толькі дзікая радасць паляўнічага, што бачыць сваю здабычу, адчувае яе пах і мацае яе зрокам, накінулася на яго. Дрыжэлі і ногі і рукі. У галаве зрабілася ясна і чыста — кемлівасць абвастрылася да неверагоднага. Ён мог бы ў гэты момант адказаць на любое пытанне, толькі спытай. Усё ў хлопцу выдавала першасны інстынкт паляўнічага... Ён прабег метраў пад пяцьдзесят і ўпаў каля берага. Далікатна трымаючы ружжо, на якім узвёў ужо брамку, прыпаў, літаральна ўціснуўся ў зямлю целам і, як вужака, як яшчарка, уцягнуўшы галаву ў плечы, падпоўз да вады... прасунуў галаву праз быльняк, што рос перад адхонам. Дзе звер? Вышэй і вышэй падымаў галаву, але не бачыў нічога. Галава задралася высока, гнуткасць пазваночніка скарыстана, апершыся на локці, соўгаў каленьмі, выцягваючы шыю як найвышэй, бы кот, што крадзецца пад вераб'і... Усё вышэй і вышэй галава падымаецца, хлопец углядваецца ў канаву... Носіцца ў грудзях сэрца, але дыханне супакоілася, і крута вішчыць нейкая цыркулярка пад дыхалам, ноздры раздзьмуты — быццам сабачыя, хапаюць паветра, ловяць пахі... На паверхні ж вады — пуста... Цяпер вада не была бясколерна шэрай, яна была сталёвай, каля берагоў чарнаватай, нават з колерам барвы. Зараснікі быльняку па берагах адліваліся сасновай, светлай карычняватасцю, неба ж усё разлівалася рознаколернымі нейкімі нафтавымі разводамі. Узбуджаныя вочы ўспрымалі свет так, як ён ёсць... І раптам з вады, леваруч, паказаліся лупатыя, здзіўленыя вочы, і бабёр тут жа заўважыў яго, бо застыў калодай... Трэба было павярнуць рулю і націснуць на курок. Але як толькі варухнешся — бабёр дасць нырца і там яго і бачылі...

І сапраўды, як толькі перакасіў вочы Міхал на бабра, бо дагэтуль глядзеў краечкам вока... бабёр пляснуў хвастом і перакуліўся ў ваду. Міхал ускочыў... Але звер нечакана высунуў галаву з-пад вады, каб пазнаць небяспеку, і... Перад ім стаяў чалавек з жалязякай у руках... Шабоўсь!!! Міхал не паспеў стрэліць. Ён толькі ўскрыкнуў ад нечаканасці і прысеў... Вялізныя бурбалкі вылятали на паверхню. Насцярожаны Міхал цікаваў за следам бурбалак. Справадзіў гэты след, пакуль ён не знік. Вада рабілася зноў спакойнаю. Неба стала такім, як і было,— шэрым і нахмураным... Ніводная красачка не радавала вока...

З паўгадзіны валачыўся хлопец па канаве... Звер больш не паказваўся. З нейкай злосцю, у адчаі стрэліў па вадзе — шрот адскочыў ад паверхні, заплескатаў па хвалях... Яшчэ гадзіну лазіў у лазовых карчах, шукаў, але бабра не было — толькі мноства нагрызенай лазы пукамі, кучамі ляжала і плавала там. Адчай, неспакой праходзіў, і хлопец ужо вырашыў ісці дамоў, бо позна — стаяў поўдзень недзе, хоць выдавала на шэры ранак. Каля бетоннага мастка Міхал нечакана чагосьці глянуў у ваду, калі пераходзіў, і заўважыў такое, што мурашкі пабеглі па спіне: нейкая аграмадзіна марудна праплыла ў трубы мастка пад вадой. Міхал угледзеўся, але нічога не заўважыў больш. «Здалося?!» — падумаў хлопец, але ўсё ж чакаў, пастаяў на мастку, можа, з'явіцца звяруга. Дарэмна... І ўжо дома перад вачыма ясна ўставаў малюнак — бурая грамадзіна марудна праплывае перад вачыма... Ён падумаў, што гэта была не мроя, а ява. І што яму патрэбна было ўсё ж пачакаць каля мастка, і здабыў бы ён гэтую бурую аграмадзіну. Было шкада нечага нерэалізаванага, быццам яму паказалі нейкую рэч, паабяцалі, а потым яна дасталася не яму, а другому. Было і радасна ад гэтага, што ён усё ж бачыў гэтага дзівоснага звера, але неяк і сумна.

III Подбегам хлопец імчаў да свайго ўлюбёнага месца адпачынку, дзе мог па-сапраўднаму лічыць сябе чалавекам, бо нечакана ў месцы гэтым у яго прачыналася нейкая ганаровая самасвядомасць, і тады хацелася, не кажу ўжо што, спяваць. Але юнак і спяваў, з захапленнем даставаў кніжачку самых кранаючых яго вершаў. Гэта быў Цютчаў, Блок, але потым усё часцей і часцей пачаў чытаць Міцкевіча, бо ў ім гучалі нейкія матывы, матывы ці пасмурных воблакаў над краем, ці родныя з'явы — лесуны, русалкі з возера. Навокал жа столькі азёр, з блакітнай сцюдзёнай вадой, а ў нізінах — з карычнева-мяккай. Сцверджана на ўвесь свет, што радзіма русалак — Беларусь. І Міхал чакаў сустрэчы з русалкай. Але нечакана яму прыйшлося сустрэцца з яшчэ больш прыцягальным і родным, чымсьці русалкі. Абыходзячы паўнюткую чашу става, на невялічкім пагорку ўбачыў яго, светлую думу, бабра. Той сядзеў да хлопца спіной, увесь ускудлачаны, сумна надзьмуты, чысціў і расчэсваў сваё карычневае густое футра. Звер смешна перабіраў лапкамі і вадзіў-торгаў галавой, калі вылізваў сваё брушка. Нават зусім па-сабачаму задраў нагу і пачухаў у сябе за вухам. Пры гэтым усё яго тулава дрыгала ў такт рухам нагі... Бабры на сушы — маруднаватыя жывёлы, іх стыхія — вада, і гэты бабёр памалу, велічна варочаў галавой, тулавам і не заўважаў Міхала, які, стаіўшыся за аксаміцістыя лісты жаўтаватага першацвету, цікаваў за зверам. А той усё чухаўся і чухаўся. Міхал пачаў падпаўзаць да бабра. Падпоўз так блізка — рукой працягнуць — кранешся. Стрымліваў дыханне, каб не спужаць... І тут бабёр нечакана азірнуўся і заўважыў хлопца. Не, ён не плюхнуў у ваду. Ён нават не скрануўся з месца, ён доўга і пранікліва, быццам хацеў пра нешта запытацца, глядзеў на хлопца, потым, не спяшаючыся, споўз у ваду і паплыў.

Міхал ускочыў ва ўвесь рост, і тады толькі бабёр ціха патануў, пайшоў пад ваду. Міхал тут жа схаваўся за куст. І добра, бо ў тую ж хвіліну бабёр вынырнуў і ўважліва агледзеў наваколле, паводзячы галавой, бы карова,— марудна. Доўга ляжаў на вадзе, выглядаючы ворагаў, але нікога не заўважыў і мірна нарэшце крануўся з месца і паплыў у напрамку да вялікай купіны светлай лазы, мабыць, каб згрызці якую.

Міхал краўся, бы кот, паўз бераг і глядзеў на звера, і нават забыў пра тое, што ён чалавек, тым больш заўзяты паляўнічы. Ніводная фібра яго душы не зварухнулася, каб узбунтаваць яго на паляўнічыя імкненні. А бабёр на другі бераг вылез, зваліў невялічкую тапольку, абчысціў яе, потым прыняўся за другую, таўсцейшую, і не змог яе згрызці, толькі выгрыз паясок. Плюхнуў у ваду, знік на нейкі час, потым Міхал заўважыў яго далёка-далёка ў другім канцы става... Міхалу было радасна, што з бабром ён зможа стрэцца і заўтра і паслязаўтра, каб ніхто толькі не напужаў асцярожную істоту.

І пачаў хлопец хадзіць да гэтага бабра і моцна пасябраваў з ім. Некалькі разоў бабёр пужаўся яго, але Міхал не праяўляў ніякіх ваяўнічых намераў. І малапамалу звер перастаў хавацца пад ваду і ляжаў на паверхні, разглядаў чалавека, і Міхал разглядаў яго, намагаючыся ўсё бліжэй і бліжэй падысці да вады. Яны абодва маўчалі, маўчалі так зацята, быццам гулялі ў маўчанку,— хто першы парушыць цішыню, той прайграе нешта неверагодна для сябе каштоўнае. Навокал была чутна бурлівая летне-веснавая калатня жыцця, а яны ўсё маўчалі, што здавалася, зараз ні адзін, ні другі не вытрымаюць і закрычаць кожны на сваёй мове. І зараўнуць, закрычаць кожны на сваёй мове не што іншае, як песню якую, радасць якую. Але стаялі яны, усё маўчалі, а Міхал быў побач з бабром, і бабёр не баяўся яго, і яны абодва былі, мабыць,

задаволены тым, што бачаць адзін аднаго. Бабёр вылазіў на сушу, сушыўся, міргаў вочкамі-пацеркамі, нават чмыхаў, нават кашляў зусім як чалавек... але заставаўся спакойны, прыглядаўся да Міхала, які сядзеў побач, не варушачыся. У сяле брахалі сабакі, спявалі пеўні, радасна галёкалі дзеці на выгане, увесь свет жыў у руху, крыках, гуках. І Міхал аднойчы не вытрымаў, пачаў шаптаць жывёліне словы, і бабёр пачаў слухаць, мабыць, зацікаўлены гэтым шыпеннем, што выцякала з чалавечых вуснаў:

— Бобрык ты мой, бабранятка. Ну чаго ты насюру сваю чэшаш, паглядзі на мяне, паглядзі!

І сапраўды, бабёр пераставаў часаць свой нос і, маргаючы вачанятамі, глядзеў на Міхала. А той працягваў:

— Зверык ты мой, жывёлінка, звярушка ты мая маленькая. Жывеш ты тут, грызеш ты сваю зялёную лазу і гора сабе не ведаеш, так добра тут табе, хоць ты мне самому да цябе вітай, у тваю, бабёр, стыхію. І ведаеш ты, бобрык,— Міхал падсоўваўся бліжэй да звера,— мне тут, ды і любому чалавеку, будзе добра. Ставок-то які прыгожы, што, братка мой, не кажы, добрае месцечка.

Доўга яшчэ так гаварыў хлопец, аж пакуль не стаміўся. Потым змоўк, і гэта некалькі насцярожыла бабра. Ён выразна ўцягнуў носам паветра і пачаў памалу спускацца да вады, быццам у Міхала скончыўся канцэрт і ён не можа больш заставацца тут, бо што ж новага ён пачуе. Тады Міхал дастаў з кішэнькі кніжачку і, перагартаўшы некалькі старонак, пачаў уголас чытаць. Бабёр быццам зацікавіўся гэтай рытмічнай гаворкай, спыніўся каля самай вады, стаяў, схіліўшы галаву крышку набок. Тады хлопец гартануў кніжачку і задэкламаваў: ясна, звонка і выразна. Апошнія словы верша ён амаль праспяваў:

Падымалі крыжы ў неба елі,—
І ў сіняй нябеснай купелі
Душу дзікую ён ахрысціў.

Бабёр аж пераміnуўся з нагі на нагу, паглядваў на чалавека, быццам пытаючы, ну дык што ты яшчэ мне скажаш, але Міхал ужо маўчаў. Тады бабёр палез у ваду.

— Ага, рыжы, плыві, калі я табе надакучыў...

* * * З таго часу прайшло некалькі тыдняў, амаль месяц, і ўвесь гэты час быў запалонены абаяннем пачатку лета.

Міхал расквітваўся са школай, здаваў экзамены, усё выбіраўся і выбіраўся выйсці да става, але не было як. То адзін экзамен, то другі, то трэба касіць. Калі ж нарэшце намерыўся падысці сюды, лета пачалося і жарыла сонца, а ў апошні тыдзень грымоты не давалі спаць. Пахла свежаю травою, адквітнеўшымі першацветамі, мядовы смак адыходзіў ад жаўцеючых парасоннікаў, жоўтапылковых ястрабкоў. Цэлую гадзіну хадзіў каля става. Бабра нідзе не было... Абшукаў усе берагі, падоўгу стаяў на кормных месцах, сярод каташкоў памёту і мноства пагрызеных голляў лазы і топаля. Стракатала сарока, якую Міхал сагнаў з цёплых яек. Хлопец выйшаў з карчоў, знайшоў у траве ўтульнае месцейка, сеў і задумаўся. Потым дастаў вершы і пачаў чытаць. Чытаў доўга, са смакам і раптам адчуў, што побач хтосьці ёсць. Міхал азірнуўся, і ўсмешка асвяціла твар: недалёка ад яго ў густой траве паглядваў стары знаёмы — той самы бабёр. Зараз, пад лета, ён крышку змяніўся — чорны волас пасвятлеў, ператварыўшыся ў цудоўны каштанавы. Бабёр павадзіў наздратым носам, быццам прывітаўся.

— Ну, здароў, здароў, бабраня. Як ты тут маешся, як твае лозы, травы? Дзе ты прападаў?

Бабёр, быццам у адказ, прыўзняўся на задніх лапах і ў свой чарод азірнуўся, быццам запрашаючы паглядзець і Міхала, што ж там? Міхал устаў і глянуў — там жа, каля вады, сядзела другая залацістая звярына, мабыць, абранніца гэтага бабра. Хваля пяшчоты заліла твар Міхала. І ён пачаў чытаць і чытаць вершы, каб прывабіць і залацістую. Але як ні намагаўся, нічога не выйшла. Толькі гэты каштанавы бабёр стаяў, слухаў, потым чмыхнуў, нечакана кульнуўся ў траву цераз галаву няўклюдна і смешна, натапырыў вусы, наблізіўся да самае нагі Міхала і, варушваючы ноздрамі, панюхаў Міхалаў кед. Асцярожна адступіўся, уздыхнуў шумна, а потым папраставаў, хаваючыся з галавою ў паднятай тройчанскай траве, да той бабрыхі, што чакала яго на беразе і, мабыць, смуткавала. З бабра таго Міхал ледзьве не засмяяўся, бо паперш ён скавытнуў, калі гэты доўга не ішоў, а калі падаспеў, то залацісты хацеў, мабыць, раўнуючы да чалавека, угрызнуць каштанавага, хоць гэта яму не ўдалося, бо каштанавы адскочыў. Каб не палохаць бброў, Міхал не пайшоў за імі. Перабрыў канаву ў другім месцы і задаволены, з перапоўненым ціхім адчуваннем роднасці з усім гэтым, што патаемнае для астатніх, брыў дахаты. Спяваў праз нос, час ад часу зрываў ружова-белыя кветкі ўсялякай травы, нюхаў іх, на момант п'янеў і пасияшаў, бо з захаду расла вялізная цёмная хмара. Травы пахлі незвычайна, быццам спаборнічалі, хто лепш, хто мацней. Густа цягнула маладым палыном, нёсся тонкі пах зялёнага крываўніку, і сярод гэтых пахаў адчуваўся гаркавамядовы прысмак ярка-ружовых парасоннікаў цвінтарэю. Бабка Філінка называла гэтую горкую траву магільніцай, і Міхал чамусьці думаў пра гэтую магільніцу, глядзеў на яе ружовыя трубчастыя вяночкі, якія

кроплямі крыві адсвечвалі ў паўзмроку, што нечакана ахінуў наваколле і асвятляўся раз-пораз бліскавіцай. Моцна мігала. Толькі гром глуха вурчэў дзесьці за Прыпяццю яшчэ, але гучней штораз бухаў бліжэй, падступаў да запрыпяцкіх сёл, і нечакана ён, гэты паганскі ўсемагутны весялун і волат, забіў у свой вялізны бубен над галавой, заляскатаў, выглядваючы з-за разарванай хмары,— яго вялікасць Пярун — гнеўны і вясёлы, аж у вушах загуло і зашапацела наперадзе, прымінаючы буйную траву ліўневай пошасцю. Міхал памчаў у гэтую вадзяную сцяну, каб схавацца ў густым арэшніку, і, калі дабег, быў мокры — ні аднной сухой ніткі; забіўся пад куст, вырашыў перачакаць навалу. Там жа не мог выседзець, бо нечым пахла патаемным і рэзкім, нават смярдзючым. Агледзеўшыся, здзіўлены, заўважыў жоўта-ружовую расліну, амаль на вачах пралезшую праз леташняе смецце і расставіўшую свае мясістыя, пакрытыя лусачкамі, сцяблiны-цыбукі. З гронак, яшчэ не распушчаных, ужо вытыркаліся чырвоныя губы будучых кветак. Расліна нібы свяцілася ў паўзмроку.

— Таемнік! — успомніў Міхал назву расліны.— Здароў, таемнік!..— прашаптаў ён, скурчыўшыся ад прахалоды, бліжэй падсаджваючыся да чырвона-бледнай у дажджы кветкі.

IV Але прыйшла пара і збіраць каменні. Сябруючы з гэтым каштанавым волатам, які разам са сваёй сяброўкай выграб у цвёрдай гліне пад стромкім абрывам за адну ноч нару, прычым патаемна, і толькі Міхал ведаў пра яе, бо бабры быццам давяралі яму і ў яго на вачах вазілі туды згрызенае голле. Астатнія, хто хадзіў або рыбу лавіць, або купацца, бачылі баброў, але не ведалі ні пра іх жытло, ні пра іх сустрэчу з Мі-

халам. Кожны ранак у канцы чэрвеня хлопец сустракаўся з бабрамі, сцягваў цяжкія асіны ў ваду, што бабры валілі, але давалачы да вады не маглі. А часцей за ўсё Міхал назіраў, як бабры грызлі-пілавалі дрэвы. На гэта ён мог глядзець бясконца. Цяпер у яго былі два любімыя сусветы: першы быў Леўкава Паўліна, а другі вось гэтыя во, бездакорна давяраючыя яму істоты. З адным сусветам ён сустракаўся вечарам і прысвячаў гэтаму сусвету вечар амаль да раніцы і раннім-раннім ранкам, а калі зусім не кладучыся спаць, адразу ішоў сюды да гэтага абросшага ракітай і таполямі става. З бабрамі было проста, неверагодна проста — паводзь сябе спакойна і ты будзеш з удзячнасцю прыняты. А ў першым сусвеце, сярод дзяўчат — сяброўак Паўлінкі, патрэбна было штомомант круціцца, вярцецца, калі зласловіць, калі каго падшчыкнуць, штурхануць. Бо калі сцішаўся, то на ім аб'езджвалі кашалі... І ўжо калі заставаўся сам-насам з сваёю дзяўчынай, хлопец змаўкаў, як і з бабрамі, уцешна глядзеў на яе вялізныя вочы і не мог наглядзецца. «Раскажы што-небудзь»,— прапанавала дзяўчына, але замест гэтага хлопец туліў яе да сябе і пачынаў нават пяшчотна цалаваць. Паўліна не супраціўлялася, але і не адказвала. Толькі потым, калі перадыхалі, гладзіла ягоныя валасы сваёй ласкавай рукой. Ім было хораша адным. Паводле прачытаных кніг Міхал уяўляў сабе каханне зусім не такім, хацелася нейкага змагання, нейкіх перашкод, а тут шчасце нібы само ішло ў рукі, лаві момант, напаўняй сябе гэтым шчасцем, і Міхал быў шчаслівы. Адна абставіна некалькі азмрочвала іх адносіны. Кожны раз хлопец непакоіўся пра тое, каб дзяўчыне было цікава з ім, але калі ён пачынаў нешта гаварыць — смешнае здарэнне расказваць ці наогул гаварыць пра сяброўак яе, пра сваіх таварышаў, яна гарнулася да яго пяшчотней, ласкавей і нібы засынала ў яго на руках. І як толькі

з'яўляліся хлопцы з прыгарада, дзёрзкія і некалькі нахабныя, яна адразу ажывала, нечага непакоілася, жвавела, і хоць Міхал перазнаёміўся з усімі гэтымі, як іх дражнілі, гарадчукамі, то ніводнага сабе нібы канкурэнта не знайшоў. Усе яны былі нават нейкія брыдкія, лаяліся, гаварылі нахабныя анекдоты, збіралі ля сябе натоўп цікавых... Паўліну таксама цягнула да іх, ды настолькі, што аднойчы, калі Міхал запазніўся на сустрэчу, то адшукаў яе глыбокаю ноччу разам з другімі дзяўчатамі ў глухім гарадскім парку. Ад Паўліны пахла вінам, яна, з выгляду шчаслівая, упала ў абдымкі Міхала, і ён павёў яе назад у сяло. Гучна рагаталі дзяўчаты і тыя гарадчукі... Ну, у яго былі мары да ўсяго — да кахання яе, да вучобы, мары пра паступленне. Былі яшчэ і бабры. А што было ў яе? Наогул, чым трызніць яна, гэтая дзяўчына? Часамсьці Міхал адчуваў сябе намнога сталейшым за яе, хоць яна была на паўгода за яго старэйшая. «Трэба яе прывесці да баброў»,— усё часцей думаў Міхал. Такія нязначныя непаладкі ў сардэчных справах не моцна хвалявалі яго. Яны сябравалі моцна-моцна — не чулі адно ў адным, як кажуць, душы. І, мабыць, усё часцей і часцей адчувалі Міхал і Паўліна, што ў іх даўно ўжо не сяброўства, а каханне, толькі баяліся ў гэтым прызнацца. І вось наступіў той час, той жыццяўказаны тэрмін, калі Міхал павінен быў прывесці Паўлінку да сваіх залюбёных баброў, каб адкрыцца і, мабыць, прызнацца ў каханні. Гэта здарылася, калі яны паздавалі ўсе свае экзамены, некалькі дзён бегалі ў пошуках посуду, цукерак, мэблі, музыкаў, каб сарганізаваць свой баль, апошні школьны баль. Дзяўчаты павар'яцелі на ўборах. Больш гаспадарлівыя гатавалі прысмакі... Паўлінка ўзялася дамаўляцца з гарадчуцкімі хлопцамі, каб тыя сваім ансамблем пайгралі на выпускным балі. І ўжо калі гэты сам баль пачаўся, калі былі сказаны самыя пяшчотныя словы

бацькоў і настаўнікаў, і ўжо калі старыя пачалі разыходзіцца, і калі з каморкі рабаватая весялуха Марыля пачала насіць бутэлькі віна, толькі тады пачаліся імпэтныя гулі. Ой, ліха гойсалі па гулкай спартыўнай зале, адламвалі каленцы, танцавалі, счапіўшыся парамі, коламі, карагодамі. Не, такое ж бывае раз у жыцці, і як яно пройдзе, так у душы кожнага выпускнікоў расквітаў у тую ноч папаратнікавы квет. Яго, дзіця, выпускалі ў свет, выкідвалі на дарогу жыцця, і як яно па гэтай дарозе пойдзе, ніхто сцвярджаць ні з настаўнікаў, ні з бацькоў не збіраўся. З нейкай запозненай роспачнасцю крычалі ў мікрафон да пап'янелых сваіх выхаванцаў настаўнікі:

— Не бойцеся жыццёвых перашкод, ой не бойцеся!

Яны ж, шаснаццаці-семнаццацігадовыя акселераты, пасмейваліся ў вочы сваіх ментараў, і кожны з іх лічыў сябе гарой, да якой павінен прыйсці Магамет, а не гара — жыццё, шчасце павінна прыйсці да іх, жыццёвых Магаметаў. Паўлінка танцавала з рыжавусым спеваком з ансамбля. Той увіхаўся каля яе, каля цудоўнага эфіраноснага квета, што ў поясе быў схоплены срабрыстай стужкай, а па ўсёй, адліваючай бледнай ружовасцю сукенкі, мабыць, ад наэлектрызаваных чароўных ног і лёгкіх рук, здаецца, сцякалі блакітныя струмені нейкай цудоўнай дзявочай прынаднасці. Воўкам глянуў Міхал на рыжавусага, і той, сустрэўшыся позіркам з ім, чамусьці кіўнуў галавой, існы маэстра, бо Міхал даваў яму задатак за гульню і астатнія грошы павінен аддаць у выпадку, калі будуць добра іграць, не махляваць. Міхал круціў вальс і з Паўлінкай, а яна намагалася пакласці яму галаву на грудзі, і з іншымі дзяўчатамі. Не п'янеў, хоць спецыяльна, каб крышку ахмялець, цішком выпрасіў у Марылі бутэльку і, выйшаўшы ў прасветленую бальную ноч, адпіў, астатняе схаваў у карчах. Бо нечаканым сваім позіркам ён адсек зухвальскія заляцан-

ні, і ўвага яе ўся скіравалася на яго... Бо ён некалькі разоў адмовіў ёй у танцы... Такая бясхітрасная жаночая дыпламатыя... Ён танцаваў з весялухай, і тая пачала падскокваць да яго ўсё бліжэй і бліжэй. Рыжавусы засяроджана глядзеў у свой мікрафон, і Паўлінка ацвярэзілася... Як ён увайшоў у залу, там сапраўды тварылася нешта неверагоднае. Гэта быў сапраўдны, на ўсю руку, размашысты, наш, чыста славянскі, на шырокую нагу, баль. Дым ад цыгарэт, якія хлопцы ўзялі ў губы першы раз у жыцці, бо рэдка хто [illegible] дзесяцікласнікаў у іх школе курыў, стаяў каромыслам. Пара стаяла пад столлю. Ансамблісты раўлі нейкі заходні рок. Пад нагамі трашчалі дошкі. Хто не напіўся, яшчэ пілі. Хто не наеўся — елі. Мноства малодшых школьнікаў, якія дачакаліся, што настаўнікі нарэшце паразыходзіліся, уваліліся ў залу і таксама балявалі. Трасліся сцены. Паўліна была цяжкая-цяжкая. Яна абвіла Міхалаву шыю аголенай рукой і цалавала яго, цалавала нягледзячы ні на што.

— Які ты халодны! Мой мілы, не верыш — цябе кахаю. Чуеш, кахаю,— смяялася яна.— Ты ж мой,— шаптала яна з нейкімі ашчаслівеўшымі вачыма.

— З надворку я, таму і халодны. Не цісні... задушыш,— лагодна адказваў ён і адчуваў, што хвалі шчымлівай радасці пачынаюць агортваць і яго, і ён пачаў таксама цалаваць Паўлінку, неяк яны расхінуліся ў танцы, і зноў сустрэўся вачыма з тым рыжавусым, і Міхал падміргнуў яму і вырашыў выпіць з ім на брудэршафт. Але аб'явілі дамскі танец, і зноў яго шыю абвілі Паўлінчыны рукі.

— Што ты сумны,— шаптала гарачымі вуснамі яна,— я напілася. Ой, якая я.

— Пойдзем мо на двор, прахалонімся?

Яны выйшлі на вуліцу, пра нешта гаварылі, смяяліся. Міхал адчуваў, што тыя хвалі трымцення перасталі біць, мабыць, астуджаныя начным чэрвеньскім

паветрам, і тады ён папрасіў прабачэння, на хвілiначку забег у гушчар і дапіў тую астатнюю палову, што было прыхаваў. І адразу ўдарыў у галаву туман. Яны стрэліся, горача прыціснуліся адзін да аднаго... І Міхалу захацелася зрабіць дзяўчыне прыемнае-прыемнае. Але дзе яго ўзяць, гэта прыемнае.

— Пойдзем, Паўлінка, пакажу нешта...

Вакол школы раўлі песні п'яныя выпускнікі. Міхал сігаў са сваім каханнем шчэ да аднаго кахання. Гэта не было далёка, але ён урасіўся сам і ўрасіў яе, калі хадзілі ў густой траве, на раннім-ранні праводзілі світанне, шукаючы баброў. Але ці было занадта рана, ці шумна — баброў не было. Ён, моцна ахмялеўшы, усё вадзіў яе, а яна, таксама нецвярозая, нікла да яго, стрымлівала яго імпэт хаджэння. І калі нарэшце яны, стомленыя і прадроглыя ў досвіткавай расе, прытуліліся адзін да аднаго, і незнарок Міхал крануўся халоднай рукой гарачага самага што ні на ёсць дзявоцкага калена, яна сказала, запытальна і патрабавальна, нават просячы:

— Ну?!

Ён хацеў запытаць: «Што ну?» Але раптам пачуў: «Так! Так!» Не верачы вушам, зляканы Міхал каўтнуў камяк у горле. І нечакана для сябе палез туды і потым пачаў спяшаючыся цалаваць яе ў скрыўленыя ад болю вусны...

— Перастань! — учапілася яму ў валасы, але потым сціснула галаву, прыпала да грудзей...

І пралупілася барвовае сонца, і гэтая барва зачырваніла цяжкі туман, і стылае паветра пачало награвацца, а Міхал ад нейкага сораму і агіды не ведаў, куды дзецца. А Паўліна, як ні ў чым не бывала, нейкая задаволеная, але таксама з адценнем агіды і страху на твары, не ведала, куды дзець вочы, згортвала бальную сукенку, а сама сядзела ў Міхалавым пінжаку.

— Бароў хацеў паказаць,— раптам праз слёзы прамовіла дзяўчына.

— Ты сама,— нерашуча прамармытаў ён і раптам адчуў, што яму сорамна на ўвесь свет, быццам ну нехта пазабіваў ягоных баброў. І ён пабег прэч.

## V

Яна была з незвычайнай, тонкай шыяй, вушкі як у кошкі. Ноздры яе варухаліся, як у трусяняткі. Але што вынюхваў гэты звер у начным паветры, што ён усчуў небяспечнага сярод гэтага пацягнутага раскай става, дзе тая небяспека хавалася ў прыбярэжным алешніку, сярод ракітных зараснікаў? Можа, нечага хацеў вышукаць-вынюхаць разумнага сярод гэтых пахаў цывілізацыі. А можа, жыццё сваё вынюхвала або сваю пагібель? Неслася музыка з-за канавы. Там гулялі нейкую гулянку. Бабрыха асцярожна панесла свой жывот бліжэй да вады, чула, нешта пагрозлівае ёсць у гэтых гуках ад вогнішча, ад зацятай цішыні ў ракітавых кустах. Жывот яна інстынктыўна берагла ўжо з паўмесяца; там нешта таўклося, варухалася. Бабрыха ўвалілася ў ваду глыбока і, паволі ўцягнуўшы паветра ў свае грудкі, паплыла...

А за некалькі гадзін да гэтага, калі сонца ўсё раздорвала не рассыпанае за дзень дабро, пыліла і жаўтаціла залацістасцю, стомлена брылі каровы, свяціліся струменьчыкі сытай сліны з іх крамяных пыс, гаўкаў у недалёкім сяле сабака. Сярод хмызнякоў, што ахіналі стаў з пазелянелай цвілою вадою, сядзеў са стрэльбаю чарнявы хлапчына. Ён паплёўваў на гравіраваны ўзор на ствалах стрэльбы і націраў яе, каб блішчэла. Чакаў, калі змеркне. Ён ведаў, чаго сюды прыйшоў, ведаў, што будзе рабіць забароненае, і не хацеў, каб хто-небудзь яго заўважыў тут. Сонца хавалася ў хмызняку.

— Ну, тронем! — выдыхнуў ён і паспрабаваў было выйсці з гушчарні, як пачуў нейкія галасы. Хлопец зноў рынуў назад, стаіўся пад кустом. Галасы ўзмацніліся, і калі занепакоены паляўнічы асцярожна выглянуў, каб дазнацца, хто ж тут, убачыў кампанію гуляк, учарашніх школьнікаў, з дзвюма сеткамі чарнаватых бутэлек з бліскучымі наклейкамі. Хлопцы размясціліся каля засохлага пянька, назбіралі ламачча, разлажылі агонь і пачалі. Паляўнічы дачакаўся, калі яны ап'янеюць, і вылез з карчоў, пайшоў у іх на вачах да става, пад канец подбегам унёсся ў ачарэцце. Пачаў красціся да вады... поўз-поўз, каб чуллівы звер не мог яго заўважыць. Поўз, пакуль не намачыў локці. Паляўнічы сцішыўся, дыхаў у ваду, і па ёй пабеглі невялічкія хвалінкі... Набоі закладзены ў дулы, брамкі ўзведзены — ціхае жаданне пальнуць... Але ж у што... Здабыча, здабыча... Задумліва глядзеў у ваду, аж расплывалася ў вачах. Нават захацелася ўздрамнуць... П'яныя крыкі даносіліся з-за канавы. Плёхалі-жыравалі чырыцы ў лазе... Толькі не было галоўнага — яго здабычы, з якой ён намерваўся атрымаць шыкоўнае футра, залацістае, бліскучае на сонцы. Толькі б не дазнаўся Міхал, бо пракляне... то ж так. Трэба ў жыцці неяк круціцца... Працуе, хто моцны, дзеля праўды... ён слабы... хударукі... ён не працаўнік, ён паляўнічы.

Люстэрка става раздрабілася, і пасярэдзіне з'явілася пысачка звера, нейкага чароўнага і незвычайнага. То была бабрыха... Яна лупатымі вачыма глядзела ўгару, на поўню... яе нешта ўжо вярэдзіла стуль, з сярэдзіны... Трэба было ў нару, туды, дзе ачарэцце, але нешта падказвала бабрысе пра нейкі цёплы ком, што пластом ляжаў ля вады, якраз там... Булькаць не хацелася... не хацелася паказваць дзетародную нару... Бабрыха ціха паплыла ўздоўж берага, намагаючыся дзе прыстаць і ўгрызці чаго... І тут жа ў яе бахнуў

залп, заплескатала карцеч... і цяжкай тушай пайшла на дно...

Паляўнічы ж, выскачыўшы да лазы, куды стрэльнуў у падплыўшага звера, бег-брохаў туды, чамусьці ўпэўнены... што пацэліў... Але з таго месца раптам вывернуўся фантан вады, і пайшла дарожка па вадзе.

— Пайшоў, пайшоў,— шаптаў паляўнічы і топаў па вадзе ўслед... мяняючы пустую гільзу на гільзу з набоем...

Але зрабілася так, дзікуны-паганцы, што падскоквалі, ацемраныя віном і ноччу вакол агню, пачуўшы стрэл, узраўлі нема... і побач з паляўнічым гопнула пустая бутэлька. Адскочыў за корч — у яго ляцела другая...

— Злодзей! Злодзей палескі...— крычалі там, штораз гупаючы бутэлькамі, і хлопец пабег праз карчы туды, на другі бок, зляканы, што яго апазналі... і калі знойдуць потым падранка... Бутэлька адна нават даляцела да става, тут і плёхнула...

— Колькі ў іх бутэлек, колькі? — шаптаў ён.— Не паспелі са школы выйсці, выжлукцілі, п'яніцы.

Глыбока за ноч, калі ўжо і зоркі пачалі дагараць, з густой мулістай гразі растрыбушылася бабрыха на больш вальнейшае месца... Але чула яна, быццам чарада, статак ласёў гойсаў па беразе, там, за канаўкай, чуліся дзікія крыкі, бы чэрці гагаталі... вакол вогнішча... бо здымалі з вуголляў дручочкі з нанізанымі кавалкамі мяса, елі яго і загрызалі чырвонымі струкамі перцу... з вяндліны рабілі шашлыкі. Ды не баялася гэтага рогату і свісту звярына, імкнула да сваёй радзільні.

Хто крадзецца, хто не любіць працаваць, той будзе нешта прадаваць, хто сіпіць, хто ходзіць нячутна і заўсёды нешта мае за пазухай, той вельмі дрэнны чалавек... Такіх нават змеі часцей кусаюць, не кажу ўжо

пра сабак, тыя і не радыя, калі прамінуць такога чалавека і не ўхвацяць за лытку...

І Лох-Нес Глушцовага Вока плюхала радасна хвастом, што ўжо стукае нешта ёй у ніз жывата і там, за вогнішчам, піруюць маладыя багі, ратуючыя жыццё.

І пахапліва напоўнілася паветрам і знікла ў чорнай вадзе, каб там, пад счэпішчам каранёў, улезці ў радзільню, падпаўзці пад сутарэнне вязавых ног-каранёў і акаціцца...

І ўжо праз колькі дзён, калі яна вылізвала па чарзе сваіх бабранятак, даносіліся ёй праз пласт зямны штуршкі ад крокаў... тупат, галёканне. То трэці тыдзень усё балявалі выпускнікі на сваім улюбёным месцы... сваю волю...

## VI

Як прынадна і непаўторна можа пахнуць карэнне валяр'яну, калі яго прамыць у ручаіне і паламаць, пакрышыць... Нават па вадзе бэзавымі пліскаўкамі расцякаецца гэты водар — валяр'янавае масла. А наогул на гэтым глінянічанскім лузе пахла і не мёдам, а такім густым вывараным варэннем, сунічным. І над гэтымі пахамі насіліся хмары вясёлкавых матылькоў і пстрыкалі туды-сюды зялёныя пстрыкухі. Сакаталі ва ўсе галасы шпакі, гарланілі... Гэтая песня то гучэла мацней, то замірала. Ніцма падаў хлопец у траву, круціўся і мяў гэты травяны дыван, але як песня ўсчыняла новае сваё гучанне, то рабілася радасна-шчымліва, і будзілася нейкае пачуццё. Міхал помніў тое пачуццё, што так шпурнула яго дастаць стрэльбу і выбегчы на поле, і, бы той хорт, занюшкаваў... Уздымаўся ў грудзях паляўнічы старажытны інстынкт... І нікуды ж яго не дзенеш, бо то функцыя часткі тваёй душы, і калі ты будзеш не задавальняць яе, то бу-

дзеш адчуваць не тое што дыскамфорт, а мала-памалу смяртэльную нуду, бы той самы хорт на ланцугу. І каб ажывіць такога сабаку ў сабе, то абарві ягоную прывязь, і тады які радасны, які жывучы становіцца, нават вочы граюць у яго... У той жароўні пазалочанага клёна наспела тая спрадвечная песня, ноты якой закладзены ў яго душы... Дух бадзянняў паляўніцкіх — дырыжор і так задырыжыраваў, што ён вось тут на паляванні, хоць і куляецца па травах.

— Ах, як пахне валяр'янавы чмур... Пфу, смурод паганскі. Не зважаючы, што побач знаходзіцца бабрылля, месца з бабровымі метро — падземнымі пераходамі, прарытымі ў торфе і замазанымі калкамі ў гліне гарадэнскай, што ператварылася на сонцы ў камень.

— Цвігляць да адурэння, ну і спевуны! — усклікнуў Міхал і кінуў у шпакоў жмут травы, ускочыў і вырашыў, хоць стылая вада была, пабрадзіць па мелкай, перасохшай за гарачы верасень канаве... Але, як выбрыў да вады, проста перад ім з вялікай адтуліны ў беразе выскачыла нейкае карычневае калматае страшыдла, і, гаўкаючы, паказваючы пляскатыя зубы, ускочыла ў ваду, і, не зважаючы на чалавека, паплыло супраць плыні. Ускідваючы ружжо, узводзячы брамку, піхаючы гільзу з набоем, з трымцячай душой ад радасці той, што чытаецца ў вачах драпежнай рысі, якая кідаецца з дубовага сука на казулю... Шалёны да адурэння гэтай радасцю, выскачыў на поле і, абвёўшы, бы той гепард, вокам саванну, не заўважыў нікога за тры-чатыры кіламетры, толькі далёка-далёка паўзла машына...

— Здабуду! Таўкану шротам... Такая скуравізна, такая здабыча...

— Ах! — нёсся Міхал наперарэз улукаткі да лукі, што выгібалася па лузе, глінянецкім хвайным лузе... Так... Ён выскачыў у роў, пабег і па мелкай вадзе, дзе

бабёр не мог ні боўтнуцца пад ваду, ні дзе заскочыць у нару, і проста набег на яго.

— То ты тут,— падскокваў ён да звера, які вырачыў вочы і, лапамі ўпіраючыся ў дно, паварочваўся назад... Упяўся ў мелкую ваду і сігануў — хоць і па мелкай вадзе, да ног хлопца, каб злякаць; і той палез пад адхон, і збялелы, і з чырвонымі, крывянога бляску плямамі на шчоках, каля крывой грушкі, абдзіраючы рукі аб іголкі. Цэлае лета не карыстаўся стрэльбай, навёў на чорны каўдобец, што плюхаўся ўсё па мелкатэчы, і абедзвюма рукамі націснуў на крук, і брамка ляснула, і ляснула глуха ў наваколлі... і на момант сціхлі шпакі, і конікі перасталі трашчаць, і матылькі ўзвіліся з кветак. Але бабёр паспеў даць нырца. Магутна залапатаў хвастом, тарпедаю нёсся туды, да вялікай вады, і, знепакоены пудлам, Міхал таксама пабег туды, каб перагарадзіць дарогу. Бег метраў пад сто і страшыўся, і ныла сэрца ў панявер-цы, што звер дасць драла... Калі выглянуў у канаву, то наўздзіў было ўжо вады.

— Уцёк...— вырвалася з грудзей.— Го, не ад-дам...— турзануў кішэнь і цопнуў рукою набой з куль-каю, той маленькаю кулькаю, якую выкатаў дубовымі дошкамі, каб падыходзіў па калібры ў яго шаснаццатку... зарадзіў, перадыхнуў і пабег, бы загнаны ганчак, улукаткі што імкнецца па полі за хітрым свежым русачком. Рынуў да вады і вочы прагледзеў — дзе яго здабыча, паводзячы ствалом. Але што такое зрабілася, што так дбайна і рупліва гатавалася і ўсім травеньскім-чэрвеньскім летам, і ўсім звеpажыўчым светам, і ўсімі пахамі паляўнічых рэгалій, але і самым моцным — бадзёрасцю першых ласкавых сваіх пашчыпванняў ранішнікаў-марозікаў, нечакана наступіўшым вераснёўскім летам, і тымі паляўнічымі песенькамі. Бо не зможа сэрца біцца ўдарамі радасці той, якой выжываў чалавек, што спрадвеку тут жыў, хто быў

і хлебароб, але заўсёды паляўнічы. То быў той хвосцік-рудымент, што не даваў пакою ні днём ні ноччу.

— Здабыча,— мармыталі ягоныя вусны,— салодкасць,— і амаль рыкаў, бы раз'юшаны драпежнік перад недасягальнай, але блізкай здабычай. Слых, чуйнасць у Міхала ўзраслі і служылі, як яго продку... Нейкай падсвядомай разумнасцю дацяміў ён, што нявалічкая бурбалачка паветра, што шнурком нясе цячэнне, то паветра са шчыльнай поўсці звера... І ён самападаваўся за гэтым шнурочкам і напаў на хвалісты рух вады з чуць бачнаю каламуццю — то была муць з прыдоння, што адкідвалася грабальнымі лапамі падводнага плыўца, і трэба было чакаць, каб зноў патрапіць на кашлата-бабрынае цела...

Наўкола пела жыццё, але не зважаў. Не азмрочваў сабе той хвілінны забойскі занятак, што прыдумаў сабе на пацеху новага, маладога, але з камбінацыі генаў, якім тысячы, тысячы і сто разоў тысячы год... На глінянічанскім лузе адквітаў дух лета, зрок жыцця свяціў апошні раз да восені... адпявала, адгульвала. Самлелыя і леныя цвыркуны сысыкалі з такімі доўгімі вусамі, бы якія іншапланецяне... І, мабыць, апошні раз вылезлі яшчаркі з аднорках сваіх пагрэцца на апошнім гарачым сонцы... І якія кветкі пазняцветы ні былі, познія — апошнія кропелькі нектару радавалі казюрак. І нават той квет валяр'яну рассоўваў ружавата-хрызапрызавыя абгорткі і чубкі калякветнікаў, што таілі вострыя каляна-лекавыя пахі.

Хлапец на беразе вытаптаў стойла, бо бабёр залёг на дно, каб падмануць нечаканага паляўнічага. Шнурок запыніўся. А ў яго ў вачах свяціліся іскрынкі крыві ад патугі паўнамоцнага паляўнічага шалу... А звер зацяўся на дне, да апошняй магчымай хвіліны быў там на дне. І невыцерпна стала ўжо тады. І ўжо тады пад рулю ўсплыў... пукатымі вачыма... Дыхнула гарачым порахам, пасекла ваду. Бобр імгненна булькнуў

пад ваду, але ўважыў Міхал, як адляцеў кавалачак скуры ад рабрын, устрапятала вада, фарбуючыся ў ружовую пену, хоць вада сама чырвонай была ад торфу і журавін, з Марочча, скуль і плыла вада, пахаванскага колеру вада. І, жагнаючыся на ўдачу, ускочыў хлопец у ваду, не закладаючы новы набой, а ўзняўшы за дула, бы паліцу, сваю стрэльбу і жадаючы канчаць справу... І шостым пачуццём здагадваўся, што гэты бабёр — каштанавы. Глушцовае Вока, става вясенняга кахання... а можа, і ведаў, але там было ўсё разбурана, каханне, нечым жорсткім — пачуццём дзікім, што ўзвальвае потым гэта на буслоў і капусту, нявінную ні ў чым капусту. І маўчаў, толькі наздрынаю вадзіў жорстка, жадаючы канца, бо то і ёсць канец — Finis — здабыча, радасць, канец жагнання.

— Балотны чмур! — крыкнуў хлопец, апанаваны, захоплены забойствам таго, да чаго так імкнуўся ў сваіх паганскіх спробах зблізіцца з гэтым непасрэдна дзікім сусветам, нечалавечым сусветам.

І ўсплыла радасць ягоная, з двух бакоў прастрэленая навылёт. І з характэрным посвістам-шумам дыхаў цяжка, паветрам, што свісцела крывёю з дзюрак з бакоў. Адзін са смяртэльным жахам бачыў і свядома пазнаваў свайго малодшага, кроўнага брата, бабра з любімага става. Але самае страшнае было тое, што каштанавы пазнаваў, несумненна пазнаваў яго, Міхала — чалавека і былога брата, чалавека з тога, небагатага, але ўстойлівага вобраза чалавека — небяспечнага, узнік і існаваў да канца яго бляску жывых вачэй і другі вобраз: адзіны ў яго, звера, вобраз — чалавека-сябра, чалавека — датыкальнага бога... І вобраз гэты, адлюстраваны ў зрэнках бабра, быў Міхалам. І страшэнная трагедыя свету гэтага нізвяргалася на іх, адзіных і непаўторных пад небам.

— Ёлуп! Чаму? Ты разумны? — закрычаў Міхал.— Не глядзі. Не малі, не, не прасі, няма твайго

жыццяў, адабраў я, не вярну. Не глядзі ты, задыхаючыся на мяне, не плыві. О-о-о! — Кінуў Міхал стрэльбу, матаў галавою, хапаў раскрытым ротам у грудзі паветра, адступаў узад, шаптаў, крычаў: — Не! не! Але кроў з ліпучай пенай бралася ў бурбалкі з дзюрак... Адкуль хлопцу было ведаць, што рана — двухбаковы пнеўматаракс... Паветра ніяк не можа папасці ў лёгкае... звярына гіне ад задухі. Паветра засосваецца кропелінкамі не праз ноздры, а праз гэтыя дзюркі і назад свішча з камячкамі запечанае крыві... І пялёсткі ружовых лёгкіх чарнеюць з кожнай хвілінай... І яны ў корчах каналі: адзін у вадзе, другі на палосцы блакітнай гліны, крычучы, бо пазналі адзін аднаго. І ўжо лез бабёр з вады да чалавека, каб ратаваў, і той поўз, равучы, ад яго... Заткні пальцам дзве дзюркі, хлопча, заклей іх як, і паветра ўварвецца ў лёгкія, удыхне жыццё ў каштанавага, і яшчэ выліжа ён сваіх дзяцей пад каранямі старога вяза ў Глушцовым Воку... Але ты бяжыш адсюль, уцякаеш. Бачыш сваю зброю, хапаеш яе і, нібы вар'ят, укінуўшы шратовы набой, падскокваеш да бабра.

— На, вазьмі.

Свяціла, нібы раўло, нямое сонца. Спявалі жаўрукі, і свісталі шпачкі, агідна, тлумна і ванітоўна нясло водарам валяр'янавых кветак... На адхоне сядзеў побач з забітым бабром Міхал... Хваляванне прапала, спакой і нейкая абыякавасць валодалі ім...

Так, ён падвесіць яго за лапы і здзярэ з яго скуру... І, перагледзеўшы кожную валасіну ў праменнях сонца, узбудзіць у душы нешта падобнае на радасць, прашэпча: «Здабыча!»

А потым, удыхаючы ўсё больш і больш паветра, будзе гаварыць і гаварыць: «Здабыча! Здабыча!» Нават крыкне: «Здабыча! Перамога... Дурніца — пабаяўся чаго...»

4 Зак. 1081

# Пастрыжаны

Апавяданне

— Ну, што казаў табе? Нарэшце-такі цябе пастрыглі. Бацьку не даўся, дык тут цябе ўхойдалі! — гаварыў такія словы каржакаваты мужчына на свайго хлопца, што выйшаў з дзвярэй ваенкамата з гладка абстрыжанай галавой. Хлопец панура глядзеў перад сабою, кіслы выгін вуснаў надоўга затрымаўся на яго твары. Балонневая куртачка звісала на ім, паабрываная ў многіх месцах, на чаравіках-робах чарнелі кроплі засохлай смалы. Хлопец прычавіў слязу да вока.

— Чаго ты, Толік, плюскаеш? Ці адзін ты такі? Паглядзі, вунь колькі такіх, як ты! Трымайся ж.

Каржакаваты мужчына падступіўся да свайго сына з насоўкай, каб выцерці таму слёзы, але хлопец выставіў локаць наперад, разварнуўся і пайшоў сярод прызыўнікоў і іх сем'яў.

— Чаго ты так, сыночак! — пайшоў за ім следам бацька, але Толік паскорыў хаду, завярнуў за адну купу людзей, за другую, і бацька адстаў, згубіўся. «Няхай пабегае,— думаў хлопец,— ці гэта такі бацька? Нават провады-выправункі не зрабіў».

Толік успомніў, як весела запрашаў хлопцаў на пэўны дзень, каб прыходзілі выправіць яго ў армію. Сяброў у яго было многа. Пасля васьмі класаў прыйшлося яму пайсці вучыцца на муляра-мантажніка, бо іменна тады, пасля васьмі яго класаў, не даўся бацьку пастрыгчыся. Сказаў, што бацька не ўмее стрыгчы. Тады бацька даў яму тры рублі, каб з'ездзіў у горад у цырульню. Хлопец прыехаў непастрыжаны.

— Чаму не пастрыгся?

— Пастрыгся я... Проста папрасіў, каб мне многа валасоў не здымалі, зараз жа мода такая, каб валасы даўгаватыя былі...

Тады бацьку і заела. Раз не даўся пастрыгчыся — тады жывеш у бацькоўскай хаце апошні год. А там — на свой хлябок. Але чаму бацька прычапіўся менавіта да яго, калі малодшыя браты зараслі, быццам попікі якія. Праўда, хутка яны ўлезлі ў шкоду, за што бацька абстрыг іх на лысачоў, але ж дагэтуль хадзілі. Толік з'ехаў з хаты ў вучылішча. Прайшло тры гады, вярнуўся дахаты, працаваў у мясцовым ПМК. Бацька амаль з ім не гаварыў, а калі і была размова, дык бацька больш зларадднічаў пра тое, што сын не скарыўся бацьку, а бацька адправіў яго на свой хлеб, але сын усё роўна прыйшоў да роднае хаты. Толік не вытрымаў такіх папрокаў, пайшоў жыць у пэмкоўскі інтэрнат. Але бацька знайшоў яго і там, намякаў, што ўсё роўна давядзецца яму скарыцца, бо хутка набор у армію і трэба рабіць выправункі, якія звычайна робяць на шырокую нагу, як сапраўднае вяселле, і варта Толіку прыйсці дахаты «з пакаяннем блуднага сына», тады ўсё наладзіцца. Толік жа маўчаў да апошняй камісіі, звычайна закрываючыся ад бацькі якім-небудзь талмудам патаўсцей. Пасля апошняе камісіі, калі вызначыўся тэрмін Толікавага адыходу ў армію, бацька сустрэў яго і заявіў:

— Вось што, сыне. Жывём мы не надта багата, вялікага вяселля рабіць не будзем. Ніякіх музыкаў. Пасядзім сям'ёй, і паедзеш. Так што нікога не заві.

«Як гэта нікога не заві, калі назваў ужо?! — падумалася Толіку.— Што будзе?» Маці маўчала, падлагоджваючыся пад бацькаў нораў. Надышоў апошні дзень. З самае раніцы прыйшлі лепшыя сябры. Яны спецыяльна бралі адгулы на рабоце, каб пабыць на Толікавых выправунках. Ці не заўважалі яны, ці не здагадваліся, што ў хаце не было і следу вялікіх падрыхта-

ванняў да пагулянкі. На іхняе дзіва, Толікава маці збіралася на работу ў сваю кравецкую майстэрню. Толік крывіў вусны, коратка памахваў кісцю: нешта ж прыдумаем, няхай толькі старыя пойдуць. Але ні бацька, ні маці не сыходзілі з двара. Маці нечага доўга прыхарошвалася, хадзіла з кутка ў куток, бацька ж сядзеў, паснедаўшы, на кухні, курыў, чакаючы, што будуць рабіць хлопцы. Не дай жа бог, пачнецца без яго ведама якая гасціна. Па яго твары прабягала з'едлівая ўсмешка — ён разбураў сваёю прысутнасцю планы Толіка, а магчыма, і маці. Маці, калі пераканалася, што бацька нават не думае пакідаць хату, вывела на дарожку веласіпед ехаць на работу. Але насустрач ёй ішла цэлая талака запрошаных Толікам сяброў і прыяцеляў. Маці злезла з веласіпеда. Незвычайна чырвоны твар бацькі з'явіўся ў акне.

— Прымайце, цётко, госці ідуць! — гукнуў адзін з хлопцаў здалёк, падаючы ў рукі маці нейкія пакункі, мабыць, з падарункамі, хто што мог. Толькі імгненне разважала жанчына. Цэлы месяц употайкі ад мужа рыхтавалася да выправункаў свайго першага сына, свайго лепшага сына, свайго даражэйшага сына. І вось прыйшоў той дзень, да якога яна рыхтавалася, каб пайсці супраць мужа вайной. Але вайны асаблівай не трэба было весці.

— Проша, хлопчыкі, проша...— запрасіла яна далікатна, як думала, па-панску, па-шляхецку. Высокія юнакі і дзяўчаты пачалі заходзіць у хату, а тут выскачыў бацька насустрач, але сустрэўся з гэтымі маладымі людзьмі, і нешта быццам ажно адштурхнула, бо не пасмеў пачаць з мацерою сварыцца, каб ехала на работу. Злосна адкусіў жоўтую гільзу беламорыны, выплюнуў яе, прайшоў скрозь маладняк не здароўкаючыся.

Найбліжэйшыя Толікавы сябры, якія разумелі сітуацыю, хуценька саставілі два сталы, збегалі да суса-

дзяў па трэці, назбіралі крэслаў, зэдлікаў, услончыкаў, лавак, каб было ўсім пасесці, а маці тым часам гатавала на стол. Сам Толік распрастаўся, пажвавеў, але па тым, як ён бязладна тыцкаўся па кухні, як бясцэльна перабіраў посуд, думаючы, што ён нешта памагае, адчувалася, што яму было незвычайна цяжка. Пачалі сядаць да стала, як нечакана ў хату ўвайшоў бацька. Цяпер усе разумелі, што выправункі зроблены на скорую руку, што бацька быў супраць, таму насцярожліва пазіралі на гаспадара. Бацька падышоў да шафы, вомільгам і грэбліва азірнуўшы гасціну, пачаў нешта капошкацца ў шафе.

— Ну, дзядзьку Мікалай, давайце пачнем... Толіка выпраўляць...

На гэта бацька крыху памаўчаў, без мэты перакладаючы нейкія паперы ў шафе, потым сказаў:

— Памаўчала б ты лепш, Тамарка...

Дзяўчына зачырванелася, а бацька выйшаў з хаты, а калі ішоў па дарожцы каля прачыненага акна, бліжэйшыя пачулі вельмі выразны кленіч:

— Павыпраўляла б вам ножанькі...

Грымнуў смех.

Толік таксама засмяяўся ад гэткай бяссільнай бацькавай злосці тады, але зараз, за некалькі мінут да аб'яўлення збору, зрабілася сорамна за бацьку. Так зганьбіць і сябе, і сям'ю. Хто ж да яго прыйдзе, калі другія браты ў армію пойдуць. Так закіпелася злосць на бацьку, што падумалася: «Як падыдзе са слінькаватымі тлумачэннямі — дам поўху, ды і ў аўтобус». З такім рашучым настроем вярнуўся да таго месца, дзе стаялі яго праважатыя, але там нікога не было. Крыху астыў, падумаў, што не варта, мабыць, такое вычвараць, бо абняславіцца перш за ўсё сам. Ды і былі ж выправункі, няхай сабе не было там мора разліванае, але добра пасядзелі, далі дыхту танцамі ў клубе. А сёння нават машына прыйшла з калгаснага пляца, якую,

здаецца, ніхто не заказваў, але проста ведалі, што Мікалаеў сын ідзе ў армію і трэба было падвезці выправуншчыкаў да ваенкамата. Паехалі сёння на гэтай машыне, а машына была з будкай, хацеў вылезці Толік з гэтай будкі, бо нічога не бачыў, а так хацелася глянуць на роднае сяло ў апошні, як здавалася, раз, ды бачыў толькі шэрую набрукаваную дарогу паверх хлапечых галоў, выглядзеў ядлоўцавыя прысады ля школы, трыбушнула на чыгуначным пераездзе, і пайшлі мільгаць лозы паабапал, асака, што тускла блішчэла пад скупым восеньскім сонцам, ці не будзе ён недзе далёка ў другім краі сумаваць па гэтай во бедненькай шэранькай асацэ? Але вось мільгнулі бетонныя слупы гарадскіх асвятляльнікаў. Усё, прыехалі. Недалёка ваенкамат, а там — армія. А калі саскоквалі з машыны, пабачыў цэлае мора прыгарыньскага люду ля ваенкамата. Злез з машыны і з вялікай прыемнасцю прайшоўся сярод простых людзей, кондавых, земляных людзей. Ішоў і зноў глядзеў у чырвоныя твары крэпкарукіх калгасных мужычкоў у богведама якой даўнасці галіфэ. А побач з кожным бацькам стаяў яго даўгавязы сын, бледны і худы, бо яшчэ рос. Ля кожнай купкі, ля кожных выправуншчыкаў бэмкаў бубен і пяяла скрыпіца. Ля тых жа купак, дзе выпраўлялі гарадскіх, залівіста гучэлі акардэоны і нават рагаталі трубы. Вось пачалі вызываць па прозвішчах. Пачалі развітвацца — моцна-моцна цалуе бацька сына, выпроствaецца і сціскае, трасе руку. І дзе ж падзецца слязам, калі не выліцца. А ўбаку сястра стаіць, кусае вусны, збялела... Захацелася глянуць на сваіх братоў, як яны? Нейкая раўнівая падазронасць узнікла да іх. Але дзе ж яны, дзе ўсе яго праважальшчыкі? Няўжо разышліся? Паўстала раптам учарашняя карціна ў памяці: нечакана з'явіўся дзед. Ён маляўніча спыніўся ў пройме дзвярэй і, як задзірлівы пеўнік, крыкнуў:

— Прыветствую маладое пакаленне! Прымайце Толікавага дзеда з гасцінцам! — у руках старога з'явілася маленечкае барылца, заткнутае вытачаным і выпаленым калочкам. А за дзедам прыйшлі ў хату музыкі: дзядзька Мантач са скрыпкай і дзядзька Мартын з бубнам і ляскоткамі. Не было толькі гарманіста, бо нікога бацька ж не наняў. Гэтым часам бацька сядзеў на кухні і выпіваў з суседзямі, якіх сам паклікаў, крыху адмякшы і спахапіўшыся. Гаварыў нешта пра недахоп грошай, пра вялікія расходы, адным словам, як здавалася Толіку, паказваў сваю мізэрную душу. Як зайгралі ў сенях музыкі, бацька заўсміхаўся задаволены, але потым падступіўся да Мантача:

— Я вас не наймаў...

— Змоўч. Не наймаў, то і плаціць не будзеш. Я так пайграю! — адрэзаў Мантач і запусціў смык на струны. Потым, калі госці разыходзіліся, дарослыя сабраліся за вялікім сталом, пачалі гутарыць, тое-сёе абгаворваць. Дзед проста так і сказаў:

— Каб на той час, не аддаў бы табе дачку, Мікалай!

— А я б і не ўзяў!

— Не, Мікола, не кажы,— адзываўся Мартын,— нядобра зрабіў,— дзіця ёсць дзіця, яму і пагуляць хочацца, і...

— Ды не пагуляць... А хочацца, каб было ўсё як у людзей! — перапыніў Мартына Мантач.— Хто павінен пра гэта клапаціцца? Зразумела, не сусед. Ці, можа, сусед?

— Я зараз табе пакажу суседа! — запаліўся бацька, але адразу ж патух, толькі скрывіўся, прамармытаў:

— Вы ўсю жытку мяне вучыце, як жыць, як дзяцей рабіць, як гадаваць, як у армію выпраўляць...

— Так-так. А скора прынясе каторая ў падоле, скажа, гадуй унука. Зноў скажаш, што цябе нехта ву-

чыць? — буркатаў на тое бацькава мармытанне Мантач.

Толік пачухаў сваю абстрыжаную галаву. Што ж хоча бацька? Чаму ўсяму ставіцца папярок? Ад развaг, думак Толіку зрабілася лягчэй на душы, нават крышку весела. «Ну, пастрыглі,— падумалася,— ну выйшла па-бацькаваму, дык то ж усяму свой час! І зараз яго лысіна, яго качан — ганаровая адзнака яму за тое, што выгадаваўся сярод людзей, а цяпер ідзе на службу, служыць людзям ідзе. Не важна, горкая служба ці салодкая, але то будзе яго даніна за тое, што прыйшоў і дзедка ў той дзень, прыйшлі проста так музыкі. І ці не будзе ён у самых найгоршых умовах, у холадзе, голадзе, недосыпу, як балакаюць, хто баіцца служыць, служыць, ахоўваць спакой гэтых во цвёрда-патылічных калгасьнічкаў, якія былі народам, бацькаўшчынай. Бацькаўшчынай? Але дзе ж бацька?» І тут на Толіка накінуліся дзяўчаты.

— А дзе ты лазіш? Цябе ж вызывалі! — пралазіў праз натоўп бацька. Праз мінулую ноч твар яго змяніўся, пастарэў.

— Дзе Мацюшок? Давайце Мацюшка сюды! — крычаў галасісты маёр.

— Ну, ідзі, Толічак, завуць,— сказаў бацька, стоячы ўбаку, быццам пераканаы, што сын моцна настроены супраць яго і разлічваць на апошні пацалунак бацька проста не мае права. Развіталіся сябры, пачалі хліпаць дзяўчаты, браты папрыцiскаліся, пачалі плюскаць вачамі. Але Толік, пэўна, не звяртаў ні на сяброў, ні на братоў, ні на дзяўчат вялікай увагі. Яго нешта падштурхвала да бацькі, які адышоўся, каб не замінаць, крыху ўбок і абціраў, як бабёр, дзвюма рукамі вочы.

— Мацюшок! Ты Мацюшок?..

— Толік, Толік... цябе...

— Бацька! — крыкнуў завучы Толік і зрабіў крок

да бацькі, і той ускінуў галаву з жаласліва-чырвонымі вачамі, але нехта ўхапіў за плячо і закрычаў у вуха:

— Што, не касаецца? Тыдзень развітваліся. Што? Не развіталіся? — І пацягнуў Толіка за браму, а браму ўжо зачынялі, каб не хлынуў у ваенкаматаўскі двор натоўп людзей. Толік ускочыў у аўтобус, бітком набіты прызыўнікамі. Брама зноў расчынілася, і аўтобус паехаў на людзей, якія з крыкам і жахам разбегліся на бакі, заайкалі міліцыянеры, што стаялі ля брамы. Але, як толькі аўтобус выехаў на шашу, натоўп зноў злучыўся і памчаў за аўтобусам, які набіраў ход. Стрыжаныя хлопцы павыстаўлялі свае галавешкі ў вокны, махалі развітальна рукамі, нешта крычалі, а каторыя папрыліпалі насамі да задняга шкла і шчыра плакалі, уціраючыся і не ўціраючыся, а Толік паспеў толькі выгледзець, як бацька бег збоку, па тратуары. Спатыкаецца, а ў вачах, аслепшых ад слёз, на ўсім твары засталося ў бацькі нешта шчымліва-радаснае. І вось бацька спыніўся, каб, здавалася, не згубіць, не растрэсці гэтае пачуццё. Натоўп адстаў ад аўтобуса, а яны аддаляліся і аддаляліся ў невядомасць.

# Лявон і Мушка

Апавяданне

Стары ў хату не пайшоў. Мушка павяла купца праз цемнаватыя сені ў светлую і нежылую залу. Тут нават падлогі не было. Стаялі пустыя, са знятымі верхамі вуллі, віселі рамкі, а ўсюды: на засланым старадаўнімі пажоўклымі газетамі стале, на шырокіх дубовых падваконнях, па кутках на зямлі высіліся збанкі і слоікі светлакалёрнага мёду.

Кабета пазногцямі адчыніла шафу, зробленую з чырвонай фанеры, даволі-такі паточаную шашалем, нагнулася і пачала там корпацца. З шафы дыхнула змешаным пахам арэхаў, нафталіну і старых рэчаў. У шафе стаяла міса, з якой Мушка пачала чэрпаць шклянкай мёд. Каленік глядзеў на поўныя рукі, на плечы гаспадыні, на буйны вузел валасоў, што ляжаў на бледнай шыі. І тое, што ён заглядзеўся на дзве радзімкі каля яе вуха, і тое, што заўважыў той самы ложак, пра які гаварылі ў сяле, самы звычайны ложак, але ён быў непатрэбен у гэтай сям'і, бо стары пераважна спаў на печы, а яна на тапчане ў кухні,— наводзіла Каленіка на нейкія звадныя думкі, ён цяплеў целам, расплываўся. «Гэта ж той самы ложак»,— падумаў Каленік і падступіўся на крок да ложка, які быў з абадранымі, калісьці нікеляванымі кругляшамі на білах. Нічога асаблівага ў гэтым ложку не было: пасцель як пасцель, засланая просценькай дзяружкай у шашачкі.

Мушка выпрасталася, дастала з кішэні хвартуха антонавы яблык, макнула яго ў мёд, зажмурылася і адкусіла.

— На і ты ўкусі...— І засталося Каленіку замест таго, каб змаўляцца наконт свайго інтарэсу, узяць надкушаны яблык з яе рукі і кусаць там, куды пацёк мёд. Усмактаў мёду і соку, цмокнуў:

— Смачна, ажно язык у жывот цягне! — і адразу дастаў свой скураны абцёрханы партманет, каб разлічыцца за мёд. Перадаючы грошы, нечакана рашуча ўзяў яе за руку, цёплую і змякчэлую ад расцёртай капачкі мёду...

— Ты што, стары ж дома! — непрыемна звузіла вочы кабета.

— Тады калі?

— У другі раз прыйдзеш... Пусці...— Каленік хутчэй пайшоў ад гэтага з абдзертымі кругляшамі ложка, злуючы на самога сябе за нерашучасць, што гэтак не вельмі добра выбраў момант ды купіў зусім не патрэбны яму слоік мёду.

* * * Пасля абеду абіралі яблыкі, асцярожна насілі на вышкі і раскладвалі на сене. За апошнія гады Лявон здорава аслабеў, напала нейкая знямога, што не здолеў залезці на яблыню, на якой зараз маячыла яго жонка Мушка.

З шурпатага ствала старой антонаўкі церушыліся на галаву скрыдэлечкі кары, угіналася пад нагамі мяккая зямля, і адчуваўся ў паветры востры прымаразачны дух. Жонка перадавала зверху, каб не пабіліся, малочныя антоны яму ў нязграбныя рукі, а ён не паспяваў класці іх у кашы. Тады жонка набірала і прыціскала халодныя яблыкі да грудзей. Яблыкі ад грудзей вывальваліся, пераскоквалі з галіны на галіну і балюча, з сухім стукам, падалі Лявону на плечы, на галаву. Старому здавалася, што гэта яна наўмысна. І тады, каб хоць як абараніцца, адыходзіў з

поўнымі кашамі пад клуню і доўга там капошкаўся, пакуль Мушка не пачынала крычаць з яблыні:

— Што ты там рызіну цягнеш? Калупайла...

Тады якраз і падышоў Дубойскі Каленік. Гэта быў высакаваты, крыху нязграбны мужчына, з глыбокім жолабам на спіне. Працаваў недзе ў горадзе рахункаводам, а як выйшаў на пенсію, прыехаў у старэнькую матчыну хатку жыць, бо горада не любіў. Каленік ветліва прыўзняў зроблены з дробненькай сетачкі капялюш і падзівіўся моцным яблыкам. Ухапіў адно пляскатымі бялявымі пальцамі, дастаў з кішэні блішчасты сцізорычак, асцярожна абкроіў шалупіннечка, пачаў ашчадліва абіраць жаўтаватымі зубамі яблык. Выхрумкаў сярэдзіну, губамі дастаў каштанавенькія зярняткі, ссыпаў іх у далонь, потым завязаў у насоўку, растлумачыў:

— Вазьму на расплод, бо вельмі ж моцныя яблыкі!

— Гэта такі, братка, год урадлівы...— адказаў яму Лявон.

— А ты чаго жану на дзерава загнаў? — раптам пачаў падкавырваць старога Каленік. Потым задзёр сваё пляскатае, па-халасцяцку неахайліва паголенае падбароддзе і закамандаваў:

— Злазь! — А сам узяўся за рало яблыні, быццам намерваючыся самому ўзлезці.

— Ды тут пару яблыкаў і засталося! — адгукнулася кабета.

Каленік адышоўся ад яблыні.

— Перадавалі на замаразак! Даўно трэба было абабраць, ды... Затое ядранейшыя будуць, паглядзі, Каленік, якія мацукі,— працягнула яна ўніз асабліва буйныя і гладкія яблыкі. Каленік падступіўся ўзяць яблыкі, але глядзеў не на яблыкі, а на поўныя невялікія рукі, плечы, на зманлівы выраз блузкі, што апусцілася ўніз. Вельмі ж спрытна кабета сядзела на галі-

нах... Ухапіў толькі адзін яблык, астатнія пападалі на зямлю. Лявон зірнуў на Каленіка, які крыху збянтэжыўся, і адвярнуўся, пачаў збіраць яблыкі ў кош.

— Можа, мёду прадасцё? — сумеўся Каленік.

— Яна прадае! — тыцнуў паднятым з зямлі яблыкам Лявон на Мушку. Потым з цяжкасцю адарваў ад зямлі кашэль і панёс да клуні. Мушка мулялася на яблыні, хацела злезці.

— Ну, ссадзіш ты мяне ці не? — патрабавальна запытала яна.

Каленік паспешліва выкінуў наперад рукі і падышоў да яблыні. Кабета ашчаперыла яго мяккаватыя тоўстыя вязы, цяжка навалілася і раптам лёгка саскочыла на зямлю, спрытна аправіла вопратку, пайшла да клуні. Каленік паплёўся за ёю, несучы ў расстаўленых далонях прыемнасць ад жаноцкага цяпла.

* * * Дубойскі Каленік быў з Мушкаю равеснікамі. Але Дубойскі ў свой час падаўся з сяла. Не таму, што дрэнна было ў сяле — тады якраз было весела. Было многа моладзі, аднаўляліся пасля вайны калгасы, гуртамі ездзілі ў Малдавію на заробкі, а зімой гулялі-весяліліся без работы. У Мушкі гэтым часам з'явілася дзіця. Не было ў кабеты ні бацькі, ні маткі, жыла яна ў невялічкай недабудаванай хаце. Там часценька і спраўлялі пагулянкі. Па дзіцяці пагулянкі скончыліся. І якраз тады пачалі паказваць пальцам на Каленіка, бо ці нехта бачыў, як ён туды ходзіць, ці то было раней, што Каленік падгульваў з Мушкай. Ад такой хлуслівай славы і падаўся Каленік недзе на будоўлю, памаленьку вучыўся на рахункавода. А не было на ферме даяркі, хоць там разарвацца было загадчыку той фермы. Мушка сядзела дома з дзіцём. Тады прыязджае раз старшыня ды кажа:

— Мо на ферму пойдзеш?

— А на каго дзіця астаўлю?

— Давай сюды! — Селі ў машынку ды і завезлі дзіця Лявону, старому ўдаўцу, бо ніякай бабы за няньку не было.

— Будзеш мець дровы, салому, каня ў любы дзень, толькі глядзі дзіця!

І зрабіўся Лявон нянькаю. Мушка на ферму бегала, спачатку дзіця забірала, а потым перабралася да старога жыць. Бо трэба было ж дзве хаты апальваць на зіму, а ў той ні палена дроў. І вырасла дачка ў Лявона. Закончыла школу, паступіла ў тэхнікум, пачала працаваць у суседнім калгасе бухгалтарам. А Мушка...

* * * Калі Мушка выйшла ў сад, то сэрца абарвалася — стары караскаўся на яблыню, бо ўбачыў там некалькі яблыкаў, спрабаваў збіць іх аполкам, ды не пацэліў. Пакуль кабета падышла да старога, той крахцеў на яблыні і раптам, на вачах у жонкі, не стрымаўся, паслізнуўся на гладкай галіне ды як бразнуўся аб зямлю! Мушка ўпала перад ім на калені, завойкала, ухапіўшы за рукі. Але ўбачыла, што стары крутануўся, прыўзняўся, сеў на зямлі, сказаў:

— Бач, упаў.

— Цэлы, цэлы? Не пабіўся? — І, пераканаўшыся, што стары цэлы, толькі крыху бок пабіў, гняўліва закрычала:

— Хто цябе гнаў на гэтую яблыню, ты ж стары, як тое парахно, з цябе труха сыплецца, а ты на яблыню палез, добра, што не паламаў косці!

Потым крыху ўгаманілася, узяла яго пад пахі, паспрабавала падняць. Стары войкнуў.

— Ударыўся, баліць? — пакратала рукой.

— Ды не вельмі.

Кабета пасадзіла старога на купку бадылля, траскучага, сухога і нават крышку цёплага, мусіць, ад таго, што браўся прымаразак.

— Пасядзі пакуль,— сказала Мушка, а сама хадзіла пад павець і прынесла тычку, пачала гэтай тычкай збіваць самыя моцныя яблыкі, прыхаваныя на вяршку. Пачало змяркацца. Лявон глядзеў на сваю жонку, быццам бачыў яе першы раз. Такая была кабета гэта, і свая і чужая. Нечакана напала туга, што ён стаў такі зусім нічога няварты, такі бездапаможны. Трэці дзесятак жыве з ёю, але як жыве? Ці можна гэта назваць сапраўднаю чалавечаю жыткаю? Колькі разоў хаваў свой гонар, калі прыходзілася выслухваць розныя плёткі і здогады, пільнаваць яе ад няпрошаных гасцей? Але... Такая чалавечая доля. Адрэзалі яму такі кавалак жыцця, на, жуй. А хто вінаваты, што зубы твае павысыпаліся? Ці не было Лявону тады крыўдна, як збірала мужчын сенаваць, а тыя такія кепікі строілі, што можна было згубіць апошнія глузды. Але трэба было трымацца. Але потым, калі яна, улюднелая за яго плячыма, пачала ў адкрытую жыць, ён ні разу яе не папракнуў, працаваў у сваю сілу і ахвоту, і таму яна не змарнела ў згрызотах, не засілілася на цяжкай рабоце, вывелі дачку ў людзі. Але пачала спрытна прадаваць направа і налева мёд па ўсякай цане.

Мушка дацягвалася да апошняга яблыка, але ён, пабіты, не раз торкнуты тычкай, не хацеў адрывацца, а ўпарта вісеў на сваёй пладаножцы, чарнеў круглай плямай на цёмна-сінім фоне неба, на якім з'явіліся сям-там першыя зорачкі, а з-за хат вылез раптам рагаты месяц і асвяціў і гэты сад, і яблык на галінцы, і старога, што панікла сядзеў на сухім бадыллі. Ад асветленага наваколля ўтнула нейкаю чыстаю радасцю, балючай і ні на якую другую радасць не падобнаю. Лявон адчуў, што ён разам з Мушкай нешта суцэль-

нае, нераздзельнае, як гэтыя раластыя яблыні пад халодным месяцавым святлом разам з зямлёй, хатамі, ад якіх пацягнула дымком... І ён не адарвецца ад гэтага свайго адзінства, як не адарваўся ад яблыні вунь гэты яблык.

— Але вот прычапіўся, як клешч! Халера з ім! — не вытрывала жонка, павяла Лявона адной рукой, у другой панесла кош назбіваных яблык. Лявон адчуваў цяпло і моц гэтай маленькай жанчыны, якая загаспадарыла ў ягонай хаце з таго часу, калі старшыня прынёс маленькую дзяўчынку яму пеставаць. Жанчына паіла і карміла яго, хоць не распісаны, не царквою абвенчаны з ёю Лявон не быў. А як колькі гадоў перайшлі жыць у яе больш новую хату, якую ён ашаляваў, перакрыў шыферам, а сваю парэзаў на дровы — пачаў адчуваць, пахаладнелі гэтыя рукі, нібы ўчарсцвелі. Ці гэта так яму, старому, здавалася? Не, не здавалася...

Як прывяла яго ў хату, падмагла ўзлезці на печ, дагледзела скаціну, прылегла на тапчан, прыкінулася, што спіць. А яму было на печы холадна і сум адолеў. Варочаўся, варочаўся, шукаючы болькім бокам месца. Не, не здавалася яму, што раптам яна ўсхапілася, ціхенька, разлічваючы, што ён дрэмле, выйшла з хаты. Потым выразна пачуў, як паціху стукнулі на вялікім нежылым пакоі акном, як гмыкнуў Дубойскі Каленік. Тады стары не вытрываў, цяжка-цяжка ўздыхнуў, споўз з печы і выйшаў з хаты. Ноч была ціхая. Месяц паспеў схавацца. Падышоў да клуні, спыніўся. І раптам пачуў, як сама сабою сарвалася, стукнулася аб адну, другую галіну тая самая антонаўка, што не маглі збіць...

Назаўтра Лявон апрануў свой даўні фрэнч з зялёнага сукна, шчыльна падперазаўся, узяў сякерку, сказаў, што пойдзе па яловец для вяндлярні. І пайшоў са свайго саду ў поле. Навакол была чысціня і празрыстасць. Усё было відна — нават дальнія хутары. Трава

была ўвабрана ў дробны куржак, блакітнаваты і крыштальна цярністы, бы буйная соль. Гагалі на выгане гусі. «Пайду да дачкі,— думаў Лявон,— назад не вярнуся». Падымалася сонца, белы куржак пачынаў цямнець. «Пайду да дачкі»,— сцвердзілася радасная думка. Апускаючыся з поля ў лог, стары нечакана ясна і лёгка падумаў: «Трэба адарвацца душою гэтак ад зямлі, ад цела, без болю, без страху паляцець, беспаваротна паляцець у свой вырай, каб адтуль ужо не вярнуцца». Лявон узышоў на невялічкі пагорачак, на якім сядзеў калінавы куст з паморшчанымі ад прымаразку ягадамі, на хвіліну затрымаўся вачамі на чыстым колеры ягад, зрабіў крок і патануў сярод светлага раўніннага мора пажаўцелых невялічкіх бярозак.

5 Зак. 1081

# Рабкова ноч

Апавяданне

**1** Пэўна, Ярынка магла ўпрасіць і хмурных мужчын, што рабілі па-суседску, але ад ранку бачыла, як панура яны ўглядаліся на яе спрытную, нястомную работу, калі зграбала сена ў валкі, звальвала ў копы...

«Папрасі такіх, каб скінулі ў стог! Хай сабе хмурацца»,— нярадасна падумала кабета. І пайшла пашукаць знаёмых хлопцаў, што недзе тут паблізу грэблі сена. Калі лезла праз лазу, зверху заскергятала сарока, і хлопцы, рослыя і стрыжаныя, насцярожана азірнуліся. Замест лесуна або на крайні выпадак лася ўбачылі знаёмую кабету. «Трохі ведаю хлопчыкаў,— падумала жанчына.— Вунь той высокі, Іван, даўно адлучыўся ад дому, працуе ў горадзе, дахаты ездзіць не часта. Малодшыя — Васілёк ды Міхась — адзін у ГПТВ, а другі зусім школьнік...»

— Патаміліся, галубочкі? — пачала здалёк Ярынка.— От як варыць. Уцякаць з балота трэба,— пaглядала з-пад рукі на хлопцаў.

— Праўду, цётко, кажаце, уцячом скора,— адгукнуўся Іван, паскроб падбароддзе і зірнуў на астатніх, што перасталі рабіць. Ён нутром адчуў, што Ярынцы нешта трэба, бо Бульбашыха проста так не прыйдзе. Немаладая на выгляд, але даволі-такі ладная жанчына праніклівымі, задобранымі вачамі глядзела на яго. Івана аж перакруціла, як заўважыў, што яна збіраецца прасіць.

— Я да цябе, Йванко! — Яна гаварыла так, каб не чулі астатнія, гэтым неяк хітра павялічваючы значнасць яго, Іванавай, асобы.— Йванко, мой галубок, я

цябе прасіць буду. Вы, калі скончыце, падбяжыце на хвілінку, у мяне ўсяго сем капічак,— махнула Ярынка рукой у бок свайго ўчастка.

Іван варушыў у сене граблямі, адказаў не адразу.

— Бачыце, цётко, колькі нам яшчэ засталося, а мы на цягнік збіраемся паспець... Не, не прыйдзем,— больш рашуча сказаў і закапыліў губу ад няёмкасці,— шукайце, мабуць, каго іншага.

Змоўк і ўздыхнуў. Вочы ў Ярынкі забегалі:

— Дык я не за так, і грашыма аддзячу, і гарэлкі пастаўлю...

— Дождж, цётко, будзе, ці не бачыце?

— Ага,— згадзілася кабета, апусціўшы да фартуха рукі,— дождж, пэўня, улле.

А і сапраўды з-за сініх лясоў выплывалі падазроныя, млявыя аблачынкі. Стаяў такі гарачы санцапал, што ў балацявінцы было быццам на печы перад святамі.

Меншыя хлопцы сціскалі вусны, мусіць, разумелі, чаго дабіваецца Бульбашыха, і глядзелі на яе няёмка, з дрэнна прыхаванай прыкрасцю.

Кабета пазіркала-пазіркала і спахапілася:

— Ой, чаго ж я стаю! — і палезла ў лазу, падаючыся ні з чым да сваіх вастраверхіх копак. Думала — мо хто там падвернецца.

Цёк аднекуль з вышэйшых пустак гарачы багунны смурод. Хлопцы тапталіся, таўкліся каля сена, задыхаліся.

— Во-о-о смаліць! — аблізвалі салёныя губы.

— Каб паспець, трэба ўлічыць папраўку на каэфіцыент стамлення,— казаў сярэдні, гаваркі Гэпэтэвэ, як на яго казалі,— бо не ўправімся на цягнік.

— Ну й ты граматны! — іранічна здзівіўся Міхась, здаровы, але крыху маруднаваты хлапчына. Ён не мог даравацъ свайму брату, што той кінуў яго на ўлюбён-

цава пяшчотна-дэспатычных бацькоў, бо даў цягу з васьмі ў ГПТВ.

— Жыве, бедная,— гаманіў Іван пра Ярынку,— і накасіць самой, і награбці трэба.

— А нашто ёй карова? Няхай не трымае,— выгукнуў Гэпэтэвэ,— а яшчэ кажуць, чалавек яе дагэтуль у бульбашах сядзіць?!

— На дне, у Чорнай канаве, сядзіць. Яны ж яго і парашылі. От і гаруе адна...

— Касіць яна лёгка накосіць. Набярэ гарэлкі...

— Бацька наш тады на помач першы ляціць,— уставіў Гэпэтэвэ.

Гаварылі хлопцы ляніва, а потым і зусім змоўклі, не да гаварыльні, бо духотліва было. Каб дзе на якой відоліцы, на якім лысагор'і, дык і не так пякло б, а ў лагчынцы падступіўся канец усякаму цярпенню. Задушліва было, быццам у надыханым пакоі. Беспачуццёвае сонца з бліскуча-шэрага неба млосніла паветра. А тут яшчэ даставалі слепакі. Сослепу, здурнелыя ад такой гарачыні, лупілі ў тулава або хітра, неўпрыкмет, садзіліся дзе-небудзь на лапатку і востра джалілі, аж хлопцы, што і так мыкаліся па балоце, выгіналіся, быццам то медыцынскі шпрыц уганялі.

— Ой! Чорт усё пабяры, каб знаў, дахаты паехаў,— нібы ўчадзелы, мармытнуў Іван, не вытрываў, шпурнуў ад сябе граблі.— Палуднуем!

Але куды там той апетыт? Укусілі раз-другі і ўлезлі ў лазовы халадок.

— Ай, глянь, бы сабака! — забіў камара Міхась.

Панакрываліся сарочкамі і паснулі на вялікую радасць пустэльнай сароцы, што весела заскакала па яечным шалупінні хлапечага полудня. Не чулі змораныя здараўцы, як нешта трэснула ў лазе, хадзіў нехта наўкола. Бліснулі праз глухатраўе задумленыя вочы, з дакорнай пільнасцю глянулі і зніклі ўмэнт, быццам іх не было.

Калі хлопцы прачнуліся, у небе разлеглася светла-папяровая смуга. Пакуль высякалі і ўбівалі калы пад гастажарак, уверсе ўтвараліся прыцудныя воблакі. Гарачы балотны чад струменіў уверх, лізаў целы... І ці то ў вачах скакалі каляровыя палосы, ці то бэзава-кармінны кветкавы пылок бязважна бруіўся ад балотных увярэднікаў,— цяжка было сказаць. Абязлюдзелы і неабсяжны маўчаў алёс — пляскатая, абкучараўленая старажытнымі, патрыярхальнымі вольхамі нізіна. Лунь плаваў над палеглаю травою, ускрыкваў сумна і пранізліва.

— Як цяжка! — уздыхалі хлопцы.

Не па сабе зрабілася, калі заўважылі каля сябе незнаёмую, чужую дзяўчыну. Чыя яна была, скуль? Цяжка было сказаць. Сонца мільгала на яе праз абрыўчатыя прасветы ў аблоках. «Глянь, глянь!» — шапнулі хлопцы адзін аднаму. А яна падавалася наперад ад нечаканых пругкіх паveваў ветру, што ўсхадзіўся не на жарт. Яе маўчанне, крыху даўгавіды твар надаваў не то страху, не то незразумелай тугі. Хвіліна здранцвення не цягнулася доўга. Чортавы слепакі, яны зусім ашалелі ад ветру, налятaлі на дзяўчыну, і тое, што аднаму яна нават адкруціла пярэстую галаву, дазволіла Івану крыху ачомацца. Ён падступіўся бліжэй і быццам папаў у абдымкі дзявочага погляду. Абмяк, расслабіўся, плаваў у поглядзе шэрых воч — ужо быў шчаслівы. Іван ведаў толк у заляцаннях. Засунуў руку за спіну і паказаў хлопцам знак, каб не перашкаджалі і далі магчымасць «зняць» прыгажуню. Было так прыемна глядзець у яе крышку нервовы, пераменлівы тварык, які, здаецца, цёк у сваіх неакрэсленых рысах, струменіўся асалодкавай нястрогасцю. Гэта шмат абяцала.

— Неўшта, дзевушка, к нам? — пажартаваў Іван. Падышоў бліжэй, амаль упрытык, адчуў шчымлівы боль блізкасці чагосьці неверагодна прыгожага, збы-

таўся, засаромеўся і, адчуваючы, што гаворыць неймаверную лухту, дадаў: — Здаецца, недзе вас бачыў, дзеўчыно... Мабыць, мы з вамі сваякі?! Я помню вас... як, як маленькаю былі...

Дзяўчына здзіўлена паглядзела на Івана.

— Скуль вы, скуль... от такая...— разводзіў рукамі Іван.

— Няважна. З балота, пытаешся скуль,— пачулі яе мяккаваты грудны галасок,— а ці мо бачылі каго з мужчын тута?

Дарэмна паказваў Іван кулак за спіною. Гэпэтэвэ падыходзіў ужо бліжэй і, высунуўшыся наперад, пальнуў:

— А мы хто, па-твойму?

Дзяўчына далікатна схіліла галаву набок.

— Тама вялікія капіцы, цяжкія! — адступілася крыху, і з-за спіны на пукатыя грудзі, што нацягвалі паркаль блузкі, апалі каштанава-глянцавітыя валасы.

— Ды мы ўмэнт, адной рукой! — запэўніў сілач Міхась.

Дзяўчына крутнулася на месцы, увайшла ў лазу. Хлопцы падзерліся за ёй праз няходжу. Ідучы наводдаль, дзяўчына правяла па кладцы з жаўтаватых бярэзінак. Апынуліся на астраўку, пасярод якога на ацяробе зафундаваны быў стажок. Хмурны незнаёмы дзядзька не паздароўкаўся, закамандаваў узяць насілiцы, а сам успёрся на стог. Іван строга падміргнуў хлопцам, туды-сюды — і праз нейкі час ён знік за аддаленымі капіцамі, дзе капошкалася незнаёмка. Праз пэўны час адтуль данеслася гарэзлівае рагатанне, потым нешта шматсэнсоўна ляснула — з-за капы выскачыў бедны Іван, пахапліва паціраючы спіну.

Сена звярнулі імгненна. Дзядзьку спусцілі са стажка па насіліцы, і той, ні слова не гаворачы, запамкаў беламорынай і падаўся да кладачкі. Толькі што дзяўчына ўгрэбала дарогу, глянь, а яе і следу няма.

— Пабач ты на яе! — разгубіўся Міхась.

Патупаліся на месцы, паглядаючы на старэйшага, што, скрыўлены, паціраў сваю спіну.

— Добра ўгрэла! — быў падступіўся Гэпэтэвэ, але брат набычыўся — лепш не чапляйся. А калі перайшлі кладку, Іван вывалак утаптаныя ў гразь бярозавыя жэрдачкі і пацягнуў іх на бераг.

— Бульбашыхо паганае,— вытлумачыў ён,— гэта ж Ярынчына дзялка, ёлупні. То яна гэту... гэту валачашчую падгаварыла...

— Хіба? — не верылася хлопцам.

— А то не, бы тыя дурні папляліся. «Ды мы адной рукой!» — перакрывіў Іван малодшага брата.— От зараз хай пасядзяць на астраўку, пакукуюць.

Меншыя браты акруглілі вочы ад дзівавання, пацмакалі, выцягнулі далей на бераг кладку, каб бабы ведалі, як абдурваць.

Калі падышлі да свайго сена, па небе слаліся тугія, выкручастыя ад ветру пасмы хмарак. На цягнік яны спазніліся. Каб упарадкаваць сена, трэба было заставацца нанач або, дарабіўшы, у ноч ісці дахаты.

— Назбірала радасці ў небе,— уздыхнуў Іван,— дагрaбем, ці што?

— Не кінеш жа такое сухое сенца пад дождж,— згадзіліся астатнія і пачалі корпацца. І пад самы вечар, калі і сонца не было, а ў хмарных прарывах свяцілася з захаду чырванаватым водсветам, завяршылі стог, увязалі палузінамі і паселі, знясіленыя.

— Вот да ночы рабілі, а вы меркавалі да поўдня, бараны асветы! — бубнеў Міхась, пакуючы сваю торбу,— а зараз васемнаццаць кіламетраў сунуцца трэба. Во як улле дождж...

Як толькі выйшлі, гучна грымнула ў цьмяна-чырванаватых хмарах, якія хутка вылятaлі з-за рэзка вырысаваных альховых град. Травы цяжка палеглі, быццам паснулі. Колькі часу было яшчэ светла, але як

пачало змяркацца, хлопцаў апанаваў нейкі невыразны смутак. Гэта змусіла паскорыць хаду. Убачылі, што пачало курыцца з выскідзяў, падумалася, што калі туман, то, можа, і дажджу не быць. Але гэты туманец лёгка развейваўся ўверсе, па доле цёгся густою павалокаю, з якой невядомымі звяркамі з цікаўнасцю выглядалі нямыя купіцы. У гэтым пераднавальніччы было так ціха-ціха, што хлопцы выразна чулі бруенне балотных ручаёў-пеюноў, а дзе яны ў травяной глушмені, хто іх ведае.

— Мабуць, у жыраво ўлезлі! — гаварыў Міхась, выцягваючы ногі з мулкай гразі.

І сапраўды, куды ні ступіць было, у ступаку закіпала крынічка, а гэта і ёсць жыраво, крынічнае месца.

— Рыхтык табе і жыраво! — усклікнуў Іван, калі раптам убіліся ў апудзілу, паперліся праз калматыя карчы...

— Не туды, браткі, ідзем,— выцягваючы з гразі аблепленыя водарасцямі ногі, бурчэў Гэпэтэвэ.

Ярка мігатнула ўваччу, ды так, што хлопцы на момант паслеплі.

— Вот уваліць зараз! — радасна прашаптаў Міхась.

Узрушаныя новай небяспекай, хлопцы ішлі хутка, высока падымаючы ногі, пераскокваючы з купіны на купіну. Грому не было чуваць. Дзіўна, пагрозна, раз за разам бліскала ў загусцелым мораку.

— Трэба ісці на чыгунку! — сказаў спішана Міхась,— па ёй якраз і выйдзем.

— Ну дык і йдзі на чыгунку, калі ведаеш, дзе яна! — не вытрываў Гэпэтэвэ і ляснуў граблямі ў гразь.

**2** Ярынка спрабавала вымасціць кладку наламаным галлём, але як шуснула каля берага аж пад самыя пахі ў смярдзючую ваду, то насілу выцягнулася на бе-

раг. «Паганцы»,— шаптала, кленучы хлопцаў, але нашто было самой звязвацца? Можа, як сама са стахаўскім Базыльком, што ўпрасіла, павалачыла б копы. Хадзіла ўздоўж чорнага з дзягцярнай вадой рова, уздыхала, бо тузала пад грудзьмі — з усяго шкадней было Лысухі, выпеставанай первусціначчкі. Калі Ярынка заначуе тут, карову выганяць нядоенаю — ёй замкне малочны калодзеж, разбухне вымя, у цыцках будзе балюча. Адразу Ярынка хацела пакрычаць, паклікаць каго-небудзь. Гукнула раз, і не хапіла духу завалентаваць пад счарнелым напалавіну небам, дзе здалёк ледзь чутна пагрукотваў гром. Змірылася, што застанецца нанач тут, вышукала ўтульнае месца пад кучаравінамі лазы. Тады, у той даўні змрочны час, такая ж бура збіралася, гэтак жа парываў, грозна шлястаў чаротам па вадзе вецер, гэтак жа накочваўся далёкі грукат і баязліва трапятала дробненькае, у капеечку, лісцечка танклявых асінак. Нечакана для сябе самой Ярынка пужліва азірнулася і ўгледзела, быццам нехта белы прайшоўся за карчамі. Ярынка расслабілася ад жаху — бо знала, што нікуды не ўцячэ з вострава. Адкрыла рот і глядзела ў цемень, але нічога не заўважала. «Бліснулца мо»,— падумала і супакоілася. Пэўне, у такім балоце пачне і не такое ў галаву лезці.

Саўка некалі год толькі выседзеў у балоце і то прызнаваўся, што нічога гэтак не баіцца, як вадзяніка. Ноччу цягне за нагу ў ваду. Ці мо ад таго і прасіў: «Застанься, Ярыно, нанач! Куды ты на такі дождж пойдзеш?» А яна выцягвала сваю руку з ягонай і гаварыла: «Пойдзем у сяло! Я пакажуся на пасядзенках, каб маці пабачыла... Каго ты баішся? Ці ты каго забіў, ці спаганіў? Толькі ў карчах вайну пераседзеў. Ці ж не просцяць?..» — «Раз сяджу, не выхаджу, значыць, вінаваты. А раз вінаваты — не просцяць».

Яна тады пакінула яго, пабегла праз гразь, скакаючы з купіны на купіну, быццам казуля, бегла хут-

чэй і хутчэй, выбіраючы дарогу напрасткі, уцякала ад навальнічнай навалы, ад мілага чалавека, страшнаму няшчаснаму лёсу каторага не пазайздросціла б. Як ні цяжка, але людзі навокал у сёлах жывуць, радуюцца, а яе Саўка, з якім усё было так добра, сам сябе закопвае ў балотнай яме, у месцы нячыстым, дзе, казалі людзі, чорта громам у рабкову ноч забівае. І яна кінуларынула яго і пабегла! Быццам гэта было ўчора. Ярынка да малюпасенечкай дробязі прыпомніла, як, раптоўна ахопленая супярэчлівым пачуццём, нечакана кінулася назад да Саўкі. А ў небе так забабахала, уліў такі дождж, што Ярынка ўгнулася, ашчапіла галаву рукамі і, па калені плюхаючы ў вадзе, упарта пасоўвалася да стоенай Саўкавай будкі.

Думаючы такія думы, Ярынка стулілася пад лазовым кустом, супакоеная, што зусім перастала баяцца. Пачула — ціха-ціха зашаптаў дробненькі дожджык.

**3** Хлопцы зарыентаваліся па далёкім гудку таварнага цягніка. Ішлі, пакуль не зашалясцела пад нагамі сухая жарства. Безупынна бліскала.

— Гэта нейкая горба, нават травы няма,— голас Гэпэтэвэ глуха прагучэў у цемры.

— Ай! — усклікнулі страшліва. У прамільгах маланак, на свой вялікі жах, убачылі пад нагамі бясконцае мноства жаб, гадаў, нейкіх пачварных трытонаў — хто толькі там ні поўзаў! Уся горба пад самым верхам кішэла жабамі самых разнастайных памераў і форм: ад чорных, з кепку, рапух да маленькіх вяртлявых жабак, ад даўгалыгіх, лупавокіх лугавых жаб да тых з аранжавым чараўцом ядавітаскурых жарлянак яшчэ з асколачкамі нерассмоктаных хвастоў. Гідліва было глядзець, як лезуць процьмай гэтыя істоты. З яркатам агіды, губляючы граблі і вілы, стрымгалоў зляцелі з

фантастычнай у маланкавых успышках горбы. З ходу ўбіліся ў ламарню, гідзячыся, памацвалі аслізлыя паваленыя дрэвы, пералазілі, ішлі далей, пакуль не заброхалі ў вадзе. Патыхнула свежым ветрам, зашаптаў стары альхоўнік праваруч, зашалахцела яго лістота, і рэзка, наводліў ударыў халоднымі кроплямі лівень. Бліснула так, што залева ўспыхнула markdown розпакалёрным агнём, высвеціліся густыя струмені, што рассякаліся аб галіны, зноў зліваліся і ляцелі ўніз, палівалі хлопцаў, аж тыя пасталі з растапыранымі рукамі.

— От табе і паспелі... Перамоклі, як Змітрова сучка! — кісла мармытаў Міхась.

Патоп скончыўся раптоўна, як і пачаўся, толькі буйныя рэдкія кроплі раз за разам ляскалі па лістоце. Пакуль абцісkaліся, адкручвалі з рукавоў ваду, у небе ледзь відна прасвятлілася, пасвятлела добра, што аж Гэпэтэвэ крэкнуў:

— Э-э-э! Я такога яшчэ не бачыў!

Паветра нібы затрэслася, аж проста жах. Наўскасяк зламаліся відарысы хмар, дрэў, карчоў — трах! трах! — паляцелі ўдары грому. Зноў паліў дождж. Хлопцы стуліліся адзін каля аднаго, угіналіся, калі нежывыя сінія стрэлы вылятали з-за лесу. Скурчыліся і зубы сцялі ад верхавога лопання, стрэлаў і ўдараў — гром згушчаўся. Шчыплівая вонь азону лезла ў нос, бухала недзе побач, здавалася, чутны былі ўсплёхі ржавай вады.

— Вот як заб'е! — усчулі шэпт і здрыгануліся, шчыльней прыхінуліся адзін да аднаго. Маланкі ж, здавалася, вылятали з адной бліскучай кропкі. За імгненне бліскавіца распляталася ў тысячараластае дрэва, доўгім снапом з калючымі залатымі вусамі ўпівалася ў зямлю — дрыг-дрыг — быццам насмоктвалася землянога соку, і, задаволеная, гасла ў карычневай цемры. Цягнулася бясконцая секунда цішыні. Праносілася ў думках: «Што, як сюды? Што, як сюды паль-

не?!» Тут — лясь! Ляцяць трэскі, кара, кісляцінай патыхае — лупнула паблізу ў дрэва. Зараз точна ўжо сюды, падкошваюцца ногі... Здавалася, што немінучы канец надышоў — маланкі заткалі прасцяг і, бясконца перакрэсліваючы неба, упіваліся, бахкалі ў зямлю, а гушчыня яшчэ большага агню зіхацела спераду, быццам спіраль агромністага віхру скручвалася тут, у гэтым месцы. Сцяна суцэльнага пажылкаванага полымя валіла сюды, і хлопцы расступіліся, распрасталіся адзін ад другога, быццам тут ужо і хана. Але крыкнуў раптам Іван:

— Стой! Гэта яны...— скокнуў наперад.

Кінуліся браты за ім, а Іван гоцаў праз купінне і вар'ятам крычаў:

— Яны! Гоп-ля-ля!

— Што, Іван? Іванко! — крычалі ашалелыя хлопцы, выглядаючы праз каламуць дажджу і маланкавага святла, што ён там выглядзеў. Міхась шчыра заплакаў, спадзеючыся — можа, слёзы нешта памогуць. А Іван спатыкнуўся, упаў у гразь і, лежачы, паказваў рукою наперад — там!

— Ды што з табою? — аж душу скалануў крык Міхася. Гэпэтэвэ, увесь трымцеючы, бы дрэўца, углядаўся ў ліўнёвыя пісягі і таксама нешта ўбачыў там, бо і ў яго вочы акругляліся, пальцы рук распростваліся, а самі рукі ён выцягваў наперад. Але Міхась нічога не бачыў у сініх успышках, акрамя сутаргава скрыўленых галін дрэў. А Івана ў гразі пачалі курчыць сутаргі, ён біўся, крычаў праз далонь, якую прыціскалі да яго рота, каб не лямантаваў. І якраз стала светла, нібы днём, і ўсе апанталіся — безліч празрыстых жыл, напоўненых фіялетавым і бэзавым агнём, бесперапынна пульсавалі з неба ў зямлю, у бурае балота з балотнай рудой, нацягненыя яе магнетызмам. І ўбачыў Міхась, што там, наперадзе, на фоне стваляной сцяны акольнага лесу, віліся вохрыста-вогненныя птушкі.

Яны білі на ляту вясёлкава-зіхоткія кроплі дажджу, падалі на зямлю, закідваючы галоўкі, пілі дажджавую ваду.

— То ўжо не наш свет, Міхалко! Або — спроба кантакту! — пад самым вухам усчуўся голас Гэпэтэвэ.

— Прыдурак — гэта рабкі! — спакойна адказаў Міхась і ўхапіў Івана за рукаў, павалок з гразі, хоць той і крычаў:

— Не чапай! Я гразь і буду ў гразі!

— Іванко! Не трэба!

Але брату ўсё яшчэ круціла галаву, увесь ён пацепваўся, але дыхаў глыбока і размерана. Ён ужо і гаварыў спакайней, не крычаў:

— Вы думалі — я здурэў, ага, здурэў! А вот і не, я проста першы ўбачыў! — паказаў рукой на птушак, што ў высветах маланак, было бачна, сядзелі недалёка — нібы якія фантастычныя феніксы ўзнікалі пры святле, пасля чорнай, слепай імглы, і згаралі, знікалі, паглыналіся невідушчай цемрай. Глядзелі хлопцы на птушак і бачылі, як тыя выцягвалі ўздоўж крылаў пазюрастыя лапкі з серабрыста аперанымі цэўкамі, разпораз пырхалі ўверх і лавілі на ляту кроплю-другую.

— Так што за птушкі? — ачомаўся Гэпэтэвэ.

— Рабок, або яшчэ саджа, піць можа толькі на ляту дождж!

4 Прабіў дождж Ярынку наскрозь, дабраўся холадам і макрэчай да цела, і яна дробна дрыжэла. Яе быццам скруціла пад кустом якая ліхаманка. Так сагнёная і сядзела, прыкрываючы твар рукамі, а дождж хвастаў, лупіў праз голле халоднымі струменямі. І калі прамокла ўшчэнт, закалаціла яе нястрымна, выскачыла з-пад куста і пабегла ратавацца пад стажок. Скубла нару і жалкавала, што адразу так і не скеміла прыйсці

сюды. У надзіва цёплым сене абсушылася і сагрэлася. Уверсе грукатала страшэнна. Але Ярынка ўжо нічога не думала, зліпаліся вочы, на момант забывалася, наплываў уяўлены да балючасці то адзін, то другі вобраз, ад чаго яна адразу прахоплівалася. Ды што ёй гром, калі яна без чалавека ў хаце павінна многа чаго не баяцца: ні драпання мышэй, ні рыпу аканіц у нудную, ваўкавокую ноч. Наадварот, яна зжылася і з цікаўнымі мышкамі, і падазроныя стукі і лопат аб сцяну хаты не былі трывожнымі, а здаваліся неабходнымі гукамі яе жыцця. Цемната наогул была ёй даспадобы. Тады хоць плачаш смела, не тулячыся. Нават у звычку зайшло — паплакаць цёмным надвячоркам на поплаве. Убіваўся тут на поплаве ў нос рэзкі аерны пах з парэзаных плешнякоў, вусны пачыналі дрыжаць, і зацятая туга хапала за горла. Ад гарачага сонца аер чадзіў чараўніцкім чмуром і напамінаў, так уяўна напамінаў тыя колішнія вечары. Басаногі, у кароткіх картовых штанах Саўка ловіць яе на аерным завяленым сене, а яна не паддаецца, увільвае, балюча адбіваецца, і, сама таго не жадаючы, Ярынка кожнай націначкай душы ўяўляла, што яна там, у далёкім-далёкім мінулым, там, каля Саўкі. Растрывожвалася такім падарожжам у часе, плакала ціхенька, доўга, у сваю насалоду. Тут, на гэтым балоце, будзь яно праклятым, не ўмела дабіцца, не ўмела ўгаварыць, не ўмела ўпрасіць і згубіла сваё самае даражэйшае, што лічыла. Як трэба было мілаваць, як трэба было цалаваць, прасіць, маліць, залюбіць яго да непрытомнасці пад тым грымучым, пад тым бліскучым небам, пад цяжкай чорнаю хмараю, сярод незвычайных злачонапер'іх птушак... што лёталі над іх будкай, неяк зычна сакаталі... Шаптаў Саўка:

«Гэта тыя рабкі, што сярод грому жывуць».

«Бач, і сярод грому, а ты сярод людзей...» І Ярынка спахапілася, каб не сказаць лішняга, вельмі ж было

і так балюча... Нейкія птушкі на скрут галавы лётаюць, балююць у громе і пекле, а ён, бы той чарвяк слізкі, павінен у гразі па вушы сядзець, хаваючыся ад людзей. Саўка палез [redacted] будкі курыць, а яна плакала балючымі слязамі, глядзела праз дзірку ў будцы на рабкоў, якія весела лапаталі крыллем у маланкавым святле і падляталі далей пад хмару, што адыходзіла далей...

Дзерлася неба, а Ярынка шылася глыбей у сена. І раптам рукі яе абмацалі засунутыя пад стог доўгія і гладкія насіліцы.

## 5

Хлопцам усяго было досыць. Прыглушаныя грымотамі, абыякавыя да перуновых стрэлаў, крычалі ў вуха старэйшаму:

— Не рыпайся, стой! — і падтрымвалі яго кухталямі ў бок, але той, калі высвечвала, стрыг вачамі рабкоў, памыкаўся да іх, мабыць, бачыў у іх нешта інакшае, бо зноў пачаў вярзці розную бязглуздзіцу. Хлопцы баяліся, што паўторацца сутаргі, ратавацца ад іх не ўмелі, таму трымалі братца крэпка. А рабкі, у нечым падобныя да фазанаў, зрываліся [redacted] месцаў і адзін за адным, усёй чарадой, суцэльнай зграяй ляцелі ўслед адышоўшай навале. Там было святлей, там было радаснее жыць, там кіпела і віравала страшная, ашчаджаная сонечная сіла, якая, хто знае-ведае, можа, і ёсць буркатлівая мова сонца. Навальніца была стыхіяй рабкоў-перунапаклоннікаў, была іхнімі звычайнымі ўмовамі жыцця.

— Туды, за імі! — выпручваўся Іван, і як была рэдкая маланка, ляскатаў гром, з нейкай пагардай і злосцю за сябе, за людзей, што заўсёды трасуцца за свае скуры ў віры агню, а птушачкі п'юць маланкавыя кроплі, пляваўся і гаварыў: — Ці здатны людзі

на такое жыццё! У іх не рабковае жыццё, а рабскае! Горш як тхарынае.

І што за геройства, як прыпрэ! Я хачу гарэння, я хачу такога жыцця, каб кіпела, бы ў катле! Я загіну без такога жыцця, я не хачу залатой сярэдзінкі, у мяне такая залатая сярэдзінка — я буду імкнуцца да вечнай барацьбы! Пусціце, пусціце, прыдуркі!

— Барацьба з кім, супраць каго? — пытаўся Міхась, але Іван прыгнуў галаву да грудзей, нібы знясілены шалёнай тырадай, нечакана праставата звярнуўся да брата:

— Рабкі, кажаш, птушкі гэта?

— Так. Ноччу пералётаюць такой, каб ніхто не бачыў, таму і ноч рабкова... Мне дзед Савэлік казаў, што...

Тут Іван раптоўна выкрутнуўся і знік у цемры. Калі мігнула, хлопцы бачылі, як ён сігаў па высокай траве, па начным балоце, даганяючы птушак, каб растварыцца ў грукаце, аслепнуць сярод бліскавіц.

— Ей-бо з глузду з'ехаў! Вярніся-я-я! — закрычаў Міхась, але грукатнуў грозна гром, заглушыў усё.

Пайшлі памаленьку наперад. Пагуквалі штохвілінна, быццам збіраліся перакрычаць гром. І ўсклікнуў раптам жаночы голас, і ўбачылі наперадзе незвычайную жанчыну, што ішла насустрач з расстаўленымі рукамі, нібы збіралася палавіць іх. Кінуліся з усіх ног у другі бок, зусім ашалелыя ад неверагоднай чорнай рабковай ночы.

## 6

Хмары цяжка паўзлі далей і далей. Нібы з таго свету паказаліся радасныя зоркі ў прасветах, і зноў завалакло неба, і церусіў дробны дождж, пачынала зноў на якую хвіліну неба рассыпацца белымі маланкамі, ды паціху сцішалася. Было зразумела — самае страш-

нае прайшло. Не так страшна і гром ужо грымеў, не так блізка падала маланка, і не так жахліва адцэньваліся прадметы наваколля — дрэвы, кусты ракіты, настаўленыя ўчора людзьмі стажкі. Рабілася спакойна і ціха-ціха. І здалёк-здалёк, быццам з глыбіні бяздоннай ямы, данёсся голас:

— Гэ-гэ-гэй! Сюды!

Змораныя, мокрыя і ўмазаныя ў гразь, сядзелі Міхась з Гэпэтэвэ пад бярозкай на купіне. Ажывіліся ад крыку — пазнавалі брата. Чулі:

— Сюды-ы! Чыгунка!

Усё было бледным, відаць — світала. Ішлі на крык, пакуль не натрапілі на глыбокую ваду. Крыкнулі:

— Вада!

— Плывіце! Гэта азярына! Бо не абыдзеце...

Плылі ў тухлай ад балотнага газу і даволі цёплай вадзе. Праз некаторы час патыхнула саладжавым рэйкавым мазутам, і хутка браты абняліся. Іван усё запэўніваў:

— Не вар'яцеў я. Так. Была крыху гарачка, і для смеласці прыдурэў крыху. Птушкі такія, нязвыклыя,— ён сядзеў голым азадкам на цёплай рэйцы і дрыжачымі рукамі выкручваў штаны...

Так прыемна было ўдыхаць крэазотавы пах ад цісавых шпал і радавацца. А радавацца яны цяпера маглі па-новаму — скрытна і перажыткава. Расказалі Івану пра жанчыну, што бегла з расстаўленымі рукамі.

— То, мабуць, Ярынка пералезла праз роў,— прымеркаваў старэйшы брат.

— А я ўсё думаў пра іншаземны кантакт, яй-бо. Быццам тыя, на лётаючых талерках, тут прызямліліся,— не унімаўся Гэпэтэвэ.

Ішлі дахаты, і веяў цёплы ветрык па чыгуначных пуцях. Грому не было чуваць. Успыхвалі далёкія бліскавіцы. З сярэдзіны рэяла моц і прасветленасць. Кожны адчуваў: дажджу больш не будзе, дарога вядзе пад

парог хаты, і, як ні былі змораныя, прыспешылі хаду. І чым бліжэй падыходзілі да сяла, тым больш западала нешта ад наваколля. Мабыць, што пазнавалі знаёмыя мясціны, учавелы мохам і верасам край, што перабегалі яго ўздоўж і ўпоперак тыя паплавы з навязанымі цялушачкамі, агароды, на якіх цвіла і гарэла бульба белымі і фіялетавымі гроначкамі. Высокія палеткі, дзе красавала жыта. А яны, быццам тыя даўнішнія дзяды-тубыльцы, што таксама таптал гэту зямлю, праўда, лазовым пасталом, але таксама, як і яны, выходзілі з чорнага балота. Быццам ускалыхнулася даўнішняя памяць пра ранейшае быццё-жыццё. І не стрымаліся, агаласілі ўсё навокал старажытнымі, грубавата-пяшчотнымі гукамі:

— Го-го-го! Зямля!

— А чого ты рэпэтуеш!

— Бо зляканы-ы буў!

Ранняя пташка цвыркнула раз-другі, навакол усталяваўся блакітнага тону паўзмрок. Рабілася халадней і халадней. Са свежасцю і холадам прыходзілі яшчэ большая чысціня і празрыстасць. А чым больш паветра станавілася чысцейшым, тым ясней свет. Гэтае разлітае святло працінала ўсё, прасвечвала кусты, грудковыя сенажаці прасвятліліся, выстаўляючы грудастыя стажэчкі. Світала, далёка, бясконца далёка стала відаць. І зрабілася добра адчувальнаю лёгкая ўрачыстасць у ясеневай градзе пры палявой дарозе, што перасякала чыгунку, і расстаўленыя ўздоўж жытнёвага поля бярозы атрасалі са сваіх павіслых кос пацеркі дажджынак, апрасталіся ад празрыстага цяжару, матлялі пушыстымі, быццам прамытымі галовамі ўразлад, кожная паасобку сушыла свае валасы, і чуцен быў здалёк адзіны гэты гук — шумок прыемны, лагодны. З узлобка ўбачылі сваё сяло. У лагу яно было зацягнута лёгкаю повессю — і не туманку, а быццам сырадойнай пары. Нідзе не вуркатала машына і не быў

чуцен чалавечы голас. Вялізныя лужыны з шапкамі белага і жоўтага шуму сведчылі пра бурную ноч. Пайшлі задворкамі, бо вуліца была заліта вадою. І нечакана нос да носу перастрэліся з Ярынкаю. Тая, у чырвоненькай, падранай на локцях, але сухой кофтачцы, даіла сваю маладзенькую кароўку. Хлопцы ціха абышлі іх, а Іван запыніўся, прыслухаўся да песенькі, што муркала кабеціна. Калі Ярынка азірнулася, убачыў бедны Іванка тую самую спакусніцу з балота, маладую, з сатанінскім вабам вачэй, у якіх ззяла прыгожая бездань, і здранцвеў, канчаткова дабіты, сапраўды баючыся за свой розум. Бакавым зрокам бачыў перад сабой усё ж тую Ярынку, што вывучылася сваім кабечым магнэзам прыманьваць дзядзькоў і хлопцаў, каб памагалі. Але калі плюскаў вачамі — перад ім была тая незнаёмая прыгажуня, што выйшла тады з кустоў. І гэты вобраз умацоўваўся ў сярэдзіне пяшчотнай сілай, залягаючы пякучым і дарагім,— тады толькі сцепануўся, абярнуўся і, угнуўшыся, пайшоў услед хлопцам. Наваколле зачырванелася на адзін момант, быццам налілося празрыстым малінавым сокам, уся прастора быццам натужылася, напружылася і пырснула ўверх над задымленай ружоваю зямлёю пунцовая кропля цуда-сонца. Іван пачуў вокліч, азірнуўся. Ярынка адставіла бліскучую даёнку, ускінула рукі і завязвала хустку на галаве. Іван нечакана зірнуў на сонца... Яно быццам укруглялася ў сваю форму, паварушвалася, выцяпляючы першыя промні, як жывое.

— Чуеце, што кажу. Паглядзеце!..— гукала Ярынка.

Івана быццам наскрозь прабіла чыстая і простая думка — як балюча, як радасна жыць...

— Бачыце,— гукнула яшчэ раз Ярынка,— то ж сонца грае!..

# Гепардава лета

Апавяданне

1

Усё пачалося з таго, як яна скептычна глянула на мяне. Цяпер я бачыў, што на мяне пазірае жанчына. Мне толькі і засталося прыняць да ведама яе позірк. Самае непрыемнае ў позірку было тое, што яна ацэньвала мяне. Яна, студэнтка трэцяга курса радыётэхнічнага інстытута, у ваўнянай, падперазанай у таліі, каб падкрэсліць фігуру і выдзеліць бюст, дарагой сукенцы стаяла ў нашым родным клубе і ўважліва азірала маю вопратку. Я быў гатоў згарэць ад сораму за свае звычайныя штаны, нямодныя туфлічкі і пінжак, якія насіў яшчэ некалі ў школе. Бо цяпер не Зоська там, ля акна, стаяла, не хударлявая, кастлявая, лупавокая і з фантастычнаю сінявою пад вачамі, а глядзела жанчына з незвычайна вільготным позіркам, гладкімі бліскучымі валасамі і ўпэўненымі рухамі. Да ўсяго ж я выгледзеў яе абутак і падумаў, што не змагу да яе падысці... Глядзеў на яе задуменна і смела, і ў вачах спачатку бліснуў, а потым пачаў разгарацца агеньчык ганарыстасці... «Нізавошта не падыду да яе першы, нізавошта... Трэба было, канешне, паслухацца Пецьку Даніленку і ўсперці фірму, якую мог пазычыць, каб выкліцаць фурор сярод сельскіх дзяўчат, ды зараз позна пра гэта думаць...» І я сеў ля дзвярэй, думаючы, што Зоська ўсё ж нікуды не дзенецца і падыдзе да мяне. І сапраўды, Зоська сумелася, вусны яе сціснуліся, як заўсёды, і толькі гэтыя вусны і выдавалі ў ёй былую маю паклонніцу. Дзяўчаткі, што стаялі каля яе, краёчкам вачэй глядзелі на мяне, як паводжу я сябе, а я спакойна пaглядваў на тых, хто танцаваў. Зосьцы

стала нясцерпнай такая ўсчыненая мной гульня ў ганарыстасць, яна спачатку падышла да стала з прайгравальнікам, потым перакачавала да вешальніц, быццам нешта пашукаць у сваім паліто. Я бачыў, як яна палажыла хустачку ў паліто, а потым чамусьці дастала. Ад вешальніц Зоська падышла да грубкі. У гэты час яе сяброўкі пачалі весела перагаворвацца, неўзабаве наблізіліся да скамеечкі, і тады я запрасіў Зоську прысесці. Ад маіх слоў яна ўгарэлася, зрабілася тою самаю Зоськаю, якой мог паверыць. Яна ціха сказала:

— Шурык, запрасі мяне...

Ведаю, колькі ёй каштавала, каб запрасіць мяне, олуха, да танца. Мы пра нешта гаварылі. Яна намагалася гаварыць на ўкраінскай мове, бо вучылася ў Вінніцы, расказвала, што ехала праз Кіеў, затрымалася там у сяброўкі на цэлы тыдзень. Я адчуваў незвычайную гладзюткасць ваўнянае тканіны, глядзеў у вочы, падмаляваныя французскімі ценямі, і мне было непрыемна адчуваць ад Зоські арамат «Фіджы». Гэта мяне прыніжала, нагадвала пра маю мізэрнасць.

Пакуль гэтак я разважаў, гладзіў пяшчотлівую тканіну, у дзвярах з'явіўся ўсім вядомы Уладзімір Белае Капыта. Зоська ўздрыгнула і шчыльней прытулілася да мяне, а я, дурань, тады не прыдаў гэтаму аніякага значэння.

2 Уладзімір Белае Капыта быў аднакласнікам Зоські. Гадоў са тры назад хадзіла паралоска, што ён заляцаўся да Зоські. Але быў ён хлопцам надта зухаватым. Яшчэ вучнем біўся з хлопцамі, нават некага парнуў нажом, але, на шчасце, даказалі, што рабіў гэта баронячыся, і справа закрылася. Тым не менш пайшла за ім дрэнная слава. Адным словам, быў гэты хлопец ад-

чаюгаю, якіх свет не бачыў. І тады ж быў самы светлы час у мяне з Зоськаю. Яна прынесла аднойчы свае вершы, я паказаў ёй свае. Мы зблізіліся. Не было душ раднейшых за нашыя. Тым не менш ніхто не лічыў мяне яе ўхажорам. Мабыць, справа была ў тым, што Зоська надзвычай добра пасябравала з маёй сястрою Галяю, і гэта была добрая маскіроўка. Хутка Зося стала свойскім чалавекам. Яна ведала, колькі часу я праводжу над кнігамі. Я не ведаў, кім яшчэ буду: генным інжынерам, біяхімікам, урачом, лётчыкам, геолагам, але ўпарта займаўся многімі дысцыплінамі, а таксама марамі пра сваю будучыню. Колькі раз мне Галя падказвала, што Зоська кахае мяне, але я не верыў і не лічыў патрэбным адказваць на пачуццё, бо пачуццям не было месца ў сістэме майго тагачаснага юнацкага ідэалу жыцця. І вось калі я даведаўся, што Валодзя праважае дахаты Зоську, дык палічыў гэта зручным момантам, каб дзяўчына не назаляла мне сваімі пачуццямі. Зоська знікла з майго жыцця на тры месяцы. Ды аднаго дня прыбегла, быццам узяць ад мяне Астроўскага «Як гартавалася сталь». Яе нельга было тады пазнаць. Яна хацела завесці размову, але я ўткнуўся ў кнігу Адамсанаў «Плямісты сфінкс», пра афрыканскіх гепардаў. Больш пра адносіны Зоські і Уладзіміра я нічога не ведаю.

**3** Адзеты хлопец быў у матроскі кіцель, цяльняшку, на галаве заліхвацкая бесказырка. Гэтую шыкоўную адзежу яму далі панасіць хлопцы, якія прыехалі са службы ў адпачынак. Валодзю надзвычай пасавала гэтая форма, тым больш што быў ён вельмі акуратна падстрыжаны. Хлопец на ўсе вочы глядзеў на мяне і Зоську. Здавалася, ён не пазнаваў сваю былую каханку. Калі музыка змоўкла, ён падышоў да нас, па-

здароўкаўся і ўсю сваю ўвагу звярнуў на Зоську, гаворачы:

— Вачам сваім не веру, што ты?! Калі ты прыехала? А калі паедзеш?

Зоська адказвала, злёгку чырванеючы, трымаючыся за маю руку, і не глядзела на Валодзю. Гэтыя пачырванелыя выпінкі шчок, сакавіты голас сапраўднай жанчыны цешыў мой слых. Валодзя запрасіў Зоську на танец. Зоська павісла ў мяне на руцэ.

— Бачыш, дама не жадае! — адказаў я Валодзю, які холадна бліснуў вачамі.

Мы перайшлі танцавальную залу і селі на свае былыя месцы, а Валодзя павярнуўся і пачаў глядзець на нас.

— Які ён страшны! Я баюся яго! — прашаптала Зоська.

— Чаму страшны? Такі прыемны малады хлопец! — запярэчыў я.— Ці ж я табе, такой выштукаванай, такою пекнаю, з такою прычосачкаю, пара? — Блюзнерскі закруціў сваю адтапырчаную пасму валасоў, якую дзяўчаты прапаноўвалі накруціць на бігудзі, але я адмовіўся.— Бачыш, які ён падцягнуты, ці ж не будучы афіцэр? Патанцуй з ім,— сказаў нарэшце я, бо Валодзя зноў падыходзіў да Зоські з запрашэннем.

І яны пайшлі танцаваць. Танцавалі ўсе танцы запар. І ён глядзеў ёй у вочы і паволі нешта гаварыў, а яна слухала, і вусны яе стрымвалі радасць. У галаве пранеслася: калі і наступны танец яны будуць танцаваць, Зоська перастае для мяне існаваць.

Яны пратанцавалі ўсе танцы да канца. І калі пачалі збірацца дахаты, дык Валодзя спрытна зняў паліто з вешальніцы і памог ёй апрануцца. Са злосцю нацягнуўшы сваю балонневую куртачку, я накіраваўся да Зоські. Як прыгожа блішчэлі яе вусны, калі яна гаварыла са сваімі сяброўкамі! Як цудоўна яна павязала

доўгі модны шалік. Я ўвайшоў у круг, усміхнуўся Зосі:

— Ваш слуга заўсёды рады служыць вам! Дама не будзе супроць? — пацягнуў я за яе сумачку, маючы жаданне несці.

— Гэта пошла, сябар мой,— сказала Зося,— пошла насіць дамскія сумачкі.

— Тым не менш дама дазволіць ісці з ёю побач? — не разгубіўся я, але ў калідоры пачулася нейкая валтузня, усунулася калматая галава нашага аднавяскоўца, і ён рыкнуў:

— Нашых б'юць!

Усе хлопцы і многія дзяўчаты кінуліся на вуліцу. За нейкую хвіліну клуб апусцеў, на вуліцы чуліся крыкі і беганіна, а засталіся ў зале толькі я, Уладзімір Белае Капыта і Зоська. Біліся ж з юнішчанскімі хлопцамі, якіх прывёў ён, Валодзя. Чуліся з надвору страшныя крыкі, трэск платоў. Валодзя смела глядзеў то на мяне, то на Зоську.

— Я думаю, што нам з Валодзем трэба пагаварыць,— сказаў я Зосьцы.

— Пра што мы з табою будзем гаварыць? — не маўчаў Белае Капыта.

— Думаю, ёсць аб чым.

Мы выйшлі з клуба, а гэтым часам бойка сцішылася, хлопцы пачалі біцца з-за нейкага глупства і цяпер прасілі адзін у аднаго прабачэння. Народ валіў назад у клуб, танцы працягваліся. Вывернулася з нашых рук і Зоська. Валодзя раптам нечага расчуліўся — небяспека мінула. Калі б мы пачалі высвятляць свае адносіны ў час бойкі, дык Валодзю не паздаровілася б.

— Я ведаю цябе. Ты Шурык, ты з маім братам вучыўся старэйшым...— гаварыў Валодзя, ведучы некуды мяне за сабой.— Яшчэ ведаю, што Зоська цябе любіла, ды яшчэ як любіла! — гаварыў Валодзя, падла-

зячы пад плот і шукаючы нешта каля яблынькі. Ён выпрастаўся, у руцэ ў яго было паўбутэлькі віна.

— Піць я не буду, тым больш з табою,— заўважыў я.— І скажу вось што, Зоська цябе цярпець не можа! Таму, будзь ласкаў, не чапляйся да яе!

— Эх, Шурык, Шурык. Ты, мабыць, ні чарта не ведаеш! Не ведаеш, хто ёсць для мяне Зоська! Яна мая, а не твая! Ты нічога абсалютна не ведаеш!

— Што я не ведаю! Чаго тут цямніць?

— Ды яна ж з мяне чалавека зрабіла, але гэта не тое... Кім я тады быў! Які забулдыга!

— А што зараз з гарла п'еш, не забулдыга!

— А ці я п'ю? Я табе прапанаваў! — ускрыкнуў Валодзя, і я ўбачыў, як бутэлька ўзвілася над нашымі галовамі, віно разлівалася ў паветра, на момант робячы такі невялічкі вінны дожджык.

— Ды люблю яе, люблю! Яна мая, і ўсё! І заві хоць увесь свой Відзібор, а я буду біцца за яе.

— Ну што ж, адразу будзем біцца? Ты скажы, што твая за такая любоў крэпкая...— здзівіўся я, што хлопец гаворыць у адкрытую, бо звычайна ніхто не прызнаецца ў слабасці.

— Я на ёй жаніцца хацеў! — гаварыў далей Валодзя.

— Што? Жаніцца? Дык чаму ж не жаніўся...

— Э-э-э! Шурык, Шурык. Ды ты сапраўды нічога не ведаеш. Тут жа такія плёткі з гэтай прычыны хадзілі...

— Адкуль жа мне ведаць. Я тут гады ў рады...

— Не, тады ты быў яшчэ дома, яшчэ летам сядзеў дома, а я баяўся, што Зоська паскардзіцца табе і будуць непрыемнасці...

— А што ты ёй такое ўрабіў?

— Што ўрабіў? Ды нічога. Толькі спрабаваў зрабіць... летам, на вадасховішчы, як кажуць — на басейне... у вербах...

Уладзімір Белае Капыта сеў на жэрдку, ахапіў далоньмі твар і быццам нешта здзёр з яго, што перашкаджала яму ўспамінаць...

— Ведаеш, уцякала праз канаву, ледзь не ўтапілася. Кінуўся ратаваць, а яна адбіваецца... а потым...— Валодзя змоўк.

— Што потым? — прашаптаў я.

— Сама потым прыйшла... А як пайшоў я да яе бацькі, Есаля, прасіць — выгнаў з хаты.

— Што ты вярзеш,— пабеглі мурашкі ў мяне па спіне.

— Я маю на яе поўнае права, разумееш, Шурык! — стомлена сцвярджаў Валодзя.

— Ты прасіўся ў Ёсаля яе рукі? — трос я загрудкі беднага хлопца. Выпусціў яго, завярнуўся, быццам сляпы, глухі і нямы, пайшоў прэч.

— І ведаеш, што тады расказала, што ты ў яе толькі і быў...— ішоў за мною Валодзя, быццам просячы дазволу правесці Зосю.— Яна тады, як... ну... сказала, што ты ўсё некіх гепардаў у жыце ловіш?!

— Гепардаў у жыце? — мармытаў я.— Гепардаў у жыце?

**4** І сярод гэтага мораку, а ўжо добра ўвечарэла, раптам захліснулі мяне пачуцці і ясна прадсталі перада мной праявы з таго лета, шчаслівага лета юнацтва, гепардава лета юнацтва. Я ўспамятаў, як купаліся на закінутай купалцы, на шлюзе, стаялі па грудзі ў залаціста-жоўтай вадзе, акуналіся з галавою ў гэтую прыемную вадкасць, каторая сцягнулася з меліярацыйных стрэлак у адно рэчышча і магутным патокам шыбавала ў Прыпяць... Падумалася са скрухай, што ўсё гэта пайшло ў нябыт, ніколі не паўторыцца тая залацістасць вады, ніколі не будзе тых свежых пачуццяў, калі былі маладымі і свежымі, а толькі памяць

зараз паслужліва паўтарае фрагменты той раскошы. Для чаго? Толькі напаўняе сэрца смуткам. Людзі сталейшыя скажуць, не трэба гараваць у такім узросце, усё наперадзе. Што наперадзе? Дзе наперадзе? Вельмі ж ясна баліць ад гэтых успамінаў душа, вельмі ж выразна ведаеш, што незваротна змянілася твая душа, тое наваколле, у якім тады лавіў гепардаў, і змяніліся, незваротна змяніліся людзі, з якімі рос.

Для мяне тады існавала толькі мэта! Гэтая мэта была ў мяне вузенькая, як прамень лазера. І я імкнуўся ісці толькі ў адным кірунку, не заўважаў жыццёвых насалод. Колькі такіх юнакоў было, ёсць і будзе на Зямлі! Хочацца засвоіць усё адразу! Абклаўшыся кнігамі, дзень і ноч сядзяць яны і рагочуць з таго, што ў кніжках тых напісана, не бачачы, што рагочуць з іх тыя, хто спяшаецца ад жыццёвага пірага адкусіць свой зваблівы кус. І я тады ўцякаў у жыта, што расло за агародамі, з кіпай кніжак, запаўзаў у тое жыта і чытаў. І трапілася мне тады кніга Адамсанаў «Плямісты сфінкс». І бязмерна закахаўся раптам у старонкі той кнігі, і найдаражэйшай частачкай сусвету зрабілася мне гепард Піпа, пра якога ў той кніжцы пісалася. Я захапляўся гарачай гепардавай частачкай прыроды. Сядзеў у жніўеньскім жыце і плакаў па Афрыцы. Зноў і зноў перачытваў залюбёныя старонкі і раптам пачуў, як ззаду шапаціць жыта. Я азірнуўся — у маё качавіла прасунуў галаву з рудой грываю леў. Мне сперлася дыханне, пакуль ачомаўся, леў стаяў і не знікаў, аблізваючы ружовым языком чорны нос з прадаўгаватымі ноздрамі. Я ведаў, што гэта трызненне, але сэрца маё ад страху адчайна лапатала.

— Чаго прыйшоў, ідзі...— моцным і спакойным голасам сказаў я, каб прагнаць ільва. Лёва глянуў на мяне жоўценькімі нядобрымі вачамі, завярнуў сваю грыву, вывернуўся бокам, паказваючы шыракаватыя рабрыны пад скурай, тоўстае ахвосце са сваімі дзвюма

кашэчымі прыдаткамі. Звер пайшоў, і я прыслухоўваўся, як трашчыць салома пад яго лапамі. Я засмяяўся. Я выдатна ведаў, што гэта мроя, галюцынацыя, але галюцынацыя была гэта незвычайна салодкая, прыемная, тым больш што не пагражала ніякімі хваравітымі адчуваннямі. Як толькі так падумалася мне, адразу пачуў страшэнны рык нейкага звера і здагадаўся, што гэта быў той самы леў, які толькі што адышоўся ад мяне. Я высунуў галаву з жыта. Сонца ззяла з вышыні, у гарачым жнівеньскім мроіве над жытам паказаліся раптам шыя і галава жырафы — адна, другая, зараз некалькі галоў. Заскуголіла паблізу гіена. Усярэдзіне нешта сціснулася, я падумаў, а што, калі ўтварылася нейкае скрыўленне прасторы, і я сапраўды перамясціўся ў афрыканскую саванну, і зараз знаходжуся ў самай непасрэднай блізкасці ля крыважэрных драпежнікаў. Падумаўшы гэтак, вырашыў выйсці з жыта ў напрамку сваёй хаты. Колькі страху набраўся, пакуль выйшаў да агародаў. То натыкаўся на львіную сям'ю — прайд, якая толькі што загрызла нейкую антылопу, то беглі па жыце статкі рагатых антылоп, якіх я чамусьці баяўся больш за ўсё, бо яны перлі, быццам танкі, і папасці пад іх капыты — гэта пагібель.

З таго выпадку пачалося ў мяне нейкае падвойнае жыццё. Я змарнеў на выгляд, але амаль штодня наведваў сваю жытнёвую Афрыку, крадком набліжаўся да жырафаў, каб выразней разгледзець маленькія іх рожкі, прыслухоўваўся да львіных рыкаў. Больш за ўсё мяне турбавала тое, што ніколі не бачыў самую Піпу. Але праз некалькі дзён, калі ішоў на сваю запаветную купалку, раптам заўважыў стромкага гепарда, які залез на жалезныя рыштаванні шлюза і агледжваў наваколле. Ага ж! Тут, у жыце, няма тэрмітнікаў, на якіх звычайна залазяць гепарды, каб агледзець прастору, выгледзець здабычу. Падышоў крыху бліжэй

і заўважыў ля шлюза, дзе днём валтузяцца дзеці, некалькі маладых гепардаў. Гэта былі Тату, Уайці, Дзьюмэ. Яны былі дакладна такімі, якімі былі апісаны ў кнізе. Маладыя звяры цераблiся ў сваіх кашэчых гульнях. Гэта быў верх дасканаласці! Сонца садзілася. Навакольле афарбавалася ў лёгкі чырванаваты водсвет. У той вечар я так і не пакупаўся.

У адзін з такіх спякотлівых дзён і прывяла па маіх слядах Галя да мяне Зоську. Я доўга не хацеў верыць, што гэта прыйшлі да мяне звычайныя людзі, ад свету нэтага. Гульня, насалодкавасць парушалася, мне непрыемна было бачыць вялікія, чамусьці спуджаныя вочы Зоські, ненатуральную сіняву пад вачамі, тонкія худыя рукі і пальцы, якія яна бесперапынна ламала. Сукенка на дзявочым стане сядзела як на калу.

— Галя, ты ж ведаеш, дзе кніга ляжыць, і таксама ведаеш, што я б не сварыўся, калі ты без майго ведама аддасі кніжку.

Галя завярнулася на вытаптанай мной сцяжынцы, пакрыўджана пайшла, а Зосьцы гэтага толькі і трэба было. Яна стаяла зверху нада мною, сонца прасвечвалася праз пасмачкі валасоў, якія віліся дробненькімі кудзеркамі.

— Вот дзе ты кабінет усталяваў сабе? — падмазваючыся, гаварыла Зоська, не заўважаючы маю злоснасць.— Ну, як у цябе справы з білетамі?

Тады я рыхтаваўся разам з Зоськай паступаць у інстытут. Праграмкі, білеты, нават такія-сякія дапаможнікі былі ў нас агульныя. Білеты былі нечапаныя, а перада мной ляжала разгорненая кніга на той старонцы, дзе былі змешчаны цудоўныя фотакартачкі вялізных, у дробную крапінку кошак. Гэта былі тыя самыя гепарды. Але я пазіраў на худыя адкрытыя ключыцы дзяўчыны і глыбокія ямачкі каля іх, і на мяне находзіла нейкае раздражненне. Я прадчуваў, што ў Зоські нейкая бяда або яшчэ што. Але мне зусім не

хацелася пакідаць сваю Афрыку, бо дзеля чаго? Дзеля гэтых худых, з глыбокімі ямамі ключыц?

— Не перашкаджай мне лавіць гепардаў! — раптам пранізліва закрычаў я, бачачы, што Зоська намерваецца сесці. Канешне, гэта вырвалася тады міжволі, але з якой праўдай. Чорт бы ўсё пабраў! Тысячы разоў прыходзіў летам на танцы, каб толькі глянуць адным вокам, і бачыў, што Зоська нязменна сядзіць у тым жа самым кутку, нібы некага чакаючы, а калі верыць майму шпегу Галі — дык мяне. І кожны раз думалася — няўжо трэба дасягаць нейкай выключнай сваёй мэты, каб дасягнуць Зоські. Яна ж тут побач, заўсёды чакае. І тады мроіліся гепарды, гепарды, якіх трэба было лавіць у жыцце, давіць сваю няўлоўную мару, свой парахнявы ідэалізм. Вось якое было яно, гепардава лета. Будзь ты благаслаўлёна і будзь ты навекі праклятае!

**5** У той вечар, калі я перагаварыў з Уладзімірам Белае Капыта, пайшоў да сястры і вырваў з яе ўсе неабходныя звесткі.

— Я ўсё ведала, але не сказала табе, бо ты сляпы быў! Сляпы з расплюшчанымі вачамі! — плакала сястра, уціраючыся фатой.— Ёй тады было вялікае гора.— А ты — ты эгаіст! Так, эгаіст.

Зайшоў у баковачку Галін жаніх. Мякка абняў мяне за плечы і лёгенька выштурхнуў з пакоя, не гледзячы, што Галя пратэстуючы падняла руку, быццам паказваючы, што я невінаваты ў тым, што яна плача ў такі дзень, у дзень вяселля, калі трэба быць вясёлым.

На другі дзень вяселля я пайшоў да дзеда схаваўца. Зачыніўся ў дзедаву майстэрню, бясцэльна габляваў на станку дошку. Раптам нехта пастукаў, я адшчапіўся. Перада мною стаяў Есаль — Зосьчын бацька.

У руцэ ён трымаў цэлы стос нажоў з каляровымі, драўлянымі, пластыкавымі калодачкамі.

— А дзеда няма?

— Няма, на вяселлі! А што вы...

— Ды нажы хацеў падвастрыць...

— Дык нядзеля ж сёння, нядзелькуюць людзі...— сказаў я, тым не менш запускаючы Ёсаля ў майстэрню.— Можа, я павастру вашу зброю...

— Ат, якая гэта зброя. Каладачы нейкія, заўтра трэба на буракі збірацца, а яны тупыя, хоць па горлу рэж...

— Ну як,— гаварыў я, уключаючы наждак,— ваша Зоська жаніха не прывозіла?!

— О-о-о! Зоська,— з непрыхаваным клопатам адказаў Ёсаль,— мець такую дачку добра трэба парабіць. То на тое, то на гэта, ды ўсё з магазіна.

Гэтак балакаючы, давастрыў дзядзьку нажы, справадзіў яго, як Ёсаль не тыцкаў тры рублі мне ў рукі за работу. Але хітры старац кінуў грошы на станок і пайшоў. Доўга разгледжваў я гэтую зялёненькую паперку. «Добра Ёсаль заплаціў»,— думалася. Злосна шкамутаючы гэтыя грошы, выйшаў я на поле, праз якое можна было перайсці на тое самае, дзе калісьці вырасла юнацкае жыта, жыта гепардаў, афрыканскае жыта, жыта хлапечай недасканаласці.

**6** Прайшло колькі часу. Зноў сяджу дома. Зноў узаралі, забаранавалі і пасеялі жыта за агародамі. А ўчора я бачыў, як на другім канцы сяла ля Ёсалевай хаты спынілася бліскучая зялёная «Волга», статны мужчына выскачыў з-за руля, спрытна адчыніў дзверцы і падаў руку той паненцы, што сядзела побач з ім, калі яны ехалі. Гэта быў выштукаваны жэст. Жэст тых людзей, якія жылі ў вялікіх гарадах і мелі вытанчаныя мане-

ры. Асабліва адносіцца гэта да жанчын. Яны падобны на цудоўныя статуэткі. Жанчына, пагойдваючыся на абцасах, якія пракалвалі дзёран роднага двара, пайшла насустрач старому, што выскачыў на вуліцу ў зашмуленай куфайцы і мітусліва прыбіраў з надворка вёдры, каб машына заехала ў двор.

Тым часам я праходзіў ля гэтай машыны, уважліва ўзіраючыся ў твар Зосьчынага мужа... Але раптам нешта мяне змусіла азірнуцца — я выразна пагледзеў на кнігу, што ляжала за заднімі сядзеннямі побач з аптэчкай. Кніга здалася мне знаёмай. Я прыгледзеўся — там ляжаў томік Адамсанаў — «Плямісты сфінкс»!

# Руская казка

Апавяданне

Але ж яму і рука балела, ажно прысядаў, і вохкаў, і люляў яе каля грудзей, як дзіця, спавітае ў крывавую пялёнку. Ён крычаў:

— Прошу вас, люди! Погрузите раненых. А?!

Нахмураныя мужыкі глядзелі, як чалавека выкручвала ў трасучцы, як ён крычаў чырвоным засмяглым ротам, пакуль зразумелі, што рабіць.

Параненыя ляжалі на выгане, а па іх гулялі зялёныя мухі. Пад'ехалі дзве палутаркі. Людзі торкалі параненых, узвалаквалі ў кузаў.

— Мертвых похороните, люди...— гаварыў той самы, з параненаю рукою. Гаварыў яшчэ нешта, многа і распалена. Потым сказаў:

— Мы вернемся! Клянусь, мы вернемся...

Адзін з вайскоўцаў, закончыўшы сваё выступленне на мітынгу 4 ліпеня 1941 года ў вёсцы Калоднае Столінскага раёна, стаў на калені і пацалаваў зямлю, даўшы клятву, што гэта зямля зноў будзе савецкай. Ён падняўся з калень, паўтарыў, як закляцце:

— Будет советской!

Колькі там часу прайшло — пачулі незвычайны трэск, тырканне, на матацыклах, мызатыя, праскочылі вёску немцы. Потым пайшлі і пайшлі цэлы дзень машыны, фуры, танкеткі... Немцы шпурлялі ў людзей цукеркамі і папяросамі. Глянулі, а то ж савецкія.

— Магазіны немец разбіў,— маракавалі мужыкі. Янак, маленькі хлопчык, усімі костачкамі адчуваў дзіўную гэту вайну. Само слова было чорным і касматым, адразу гладкім і чырвоным, як выразаныя ў свін-

6 Зак. 1081

ні лёгкія. Глядзеў на машыны, коней, гарматы, людзей і думаў, што адкуль яны ўзяліся, дзе жылі яны раней? Ехаў бліскучы-бліскучы лімузін, а з яго вылез сапраўдны генерал пры залатых пагонах. Ён распраставу плечы, паглядзеў на мужыкоў і раптам паказаў на Янака:

— Комм!

Янак спрабаваў схавацца за бацькаву нагу, але бацька падштурхнуў яго наперад. Генерал расчыніў дзверцы машыны і паказаў на маленькага сабачку-пакаёўца, што скруціўся на сядзенні. Янка зразумеў — вынес сабачку, каб той зрабіў сваю справу. Здарылася непрадбачанасць. Пакаёвец падбег да ног злодзейкавата-тага дзядзькі Мацюха і зрабіў на пыльнай назе дзядзькі свежы цурок. Усе чакалі, што Мацюх адкіне сабаку нагою, але мужык скрыўлена ўсміхнуўся і кіўнуў генералу галавою. Генерал адвярнуўся. За сваю работу хлопчык атрымаў шакаладнага, у серабрыстай фальзе зайчыка.

— Можа, атручаны! — праказаў дзядзька Мацюх, выціраючы аб траву нагу, але доўга хадзілі да Янака і дзеці, і дарослыя, мацалі траскучую паперку і казалі:

— Зробіць жа, чорт!

Надакучыла сядзець у хаце, захацелася да таты, пайшоў на поплаў — а там нікога. Далей па грэблі пайшоў і пачуў смачны дым махоркі. Палез па кустах і выглядзеў з альховага веццяя будан, з якога тырчэла босая нага, закладзеная на другую нагу, было відаць, як паварушваліся пальцы. Ногі зніклі, і з'явілася кашлатая галава.

— Хто там? — выскачыў з будана чалавек, памчаў на Янака... Янак ад жаху зажмурыўся, ззаду нешта ўхапіла яго за кашулю.

— Не бойся! Дурачок. Мы знаем, кто ты. Подходи ближе...

Хлопчык адразу пазнаў таго самага параненага, што цалаваў зямлю каля выгану.

— Тебя отец прислал?

— Не. Я бацьку сам шукаю. А я знаю, хто вы! Вы — саветы.

Дзядзькі перазірнуліся.

— Чего же ты от советов убегал, что в воду упал?

У гарачцы, калі ўцякаў, Янак не заўважыў, як уваліўся ў канаву.

— Мы тебя высушим...— лагодна вымавіў з параненай рукою.— Сбрасывай свою одежонку...

Неўзабаве Янак сядзеў у глыбіні альховага будана пад знаёмаю парванаю коўдраю, якая незадоўга да гэтага знікла з хаты. Спахмурнела, і пасыпаўся дожджык.

— Ты, Ванятка, посиди у нас, может, перестанет дождик-то. А я вот тебе сказку расскажу, настоящую, русскую...

— Раскажыце...

— Хочешь про Ивана, крестьянского сына, и чудо-юдо?

— Хачу...

— В некотором царстве, в некотором государстве жили старик со старухой. И было у них три сына. Иванушка был младший, вроде тебя. Жили они, не тужили, пашню пахали да хлеб засевали.

— А я тожа сеяў. У гэтую весну мне бацька нават маленькую сявеньку начапіў, і я сеяў!

— Так ты и есть Иванушка. Разнеслась в том царстве-государстве весть: собирается чудо-юдо поганое на их землю напасть, всех людей истребить, города-села огнем спалить. Затужили старик со старухой, загоревали. А сыновья утешают их:

— Не горюйте, батюшка и матушка, пойдем мы на чудо-юдо, будем с ним биться насмерть. А чтоб вам

одним не тосковать, пусть с вами Иванушка остается: он еще молод, чтоб на бой идти.

— Нет,— говорит Иван,— не к лицу мне дома оставаться да вас ожидать, пойду я с чудом-юдом биться!

Па альховым лісці шапацеў дробненькі дождж ык, спрабавалі крахтаць жабкі. Янак угрэўся ў прызмерку будана, слухаў уважліва, як змагаўся мужны юнак з цудам-юдам трох- і шасціглаловым...

— Только пошло время за полночь, а Иван все под калиновым мостом дожидается, и тут сыра земля закачалась, воды в реке взволновались, буйные ветры завыли, на дубах орлы закричали. Выезжает чудо-юдо двенадцатиголовое. Все двенадцать голов свистят, все двенадцать огнем-пламенем пышут. Конь чуда-юда о двенадцати крылах, шерсть у коня медная, хвост и грива железная. Только выехал чудо-юдо на калиновый мост — конь под ним споткнулся, черный ворон встрепенулся, черный пес позади ощетинился...

— Кто-то идет! — трывожна зашаптаў баец з кустоў. Прыслухаліся. Нешта плёхкала па вадзе, шамацела па кустах.

— Гэта бацька! — раптам усклікнуў Янак.— Тата!

Больш Янака не выпускалі з хаты і забаранілі гаварыць, што бачыў. Калі выходзіў, дык не далей двара. Нечага прыбеглі суседзі, ды па бульбе, ускочылі да бацькі ў клуню, потым выскачылі, там не было дзе схавацца, сiганулі ў жыта. Па надворку ж пайшлі немцы, адкуль узяліся? На галовах у іх былі зялёненькія каструлькі з маленечкімі рожкамі, а ў руках чорныя, варанёныя аўтаматы... Квахтухай наляцела на яго маці, забрала ў хату, але і праз акно было відаць, што рабілася. З'явіліся Мацюх з Карповічам у новенькіх магазінных пінжаках. Яны нечага шукалі па жыце, потым Карповіч закрычаў:

— Жыдзюкі! Вылазьтэ з жыта! Вылазьтэ, бо як зловым, то затовчэм!

Але жыта і так было акружана немцамі з усіх бакоў, і неўзабаве чорныя галовы яўрэяў паказаліся над каласамі. Яўрэяў завялі да Янака ў хату і паставілі каля грубкі — Шэмэла і Іцэка. Янак не мог узяць да галавы, чаму на іх так немцы пазіраюць, быццам тыя нешта ўкралі. Яны былі суседзямі, жылі бедна, бо было многа дзяцей у хаце. І хата нават была з выгляду беднай — звычайная палеская доўгая хата, урослая ў зямлю, з саламянымі шчытамі, у якіх вадзіліся вераб'і. У хаце быў такі ж, як і ў другіх, няшкрэблены стол, лавы ўздоўж сцен, за печчу грэліся на палатках дзевяцёра чалавечкаў. Лепшая ад усіх была Сара — аднагодак Янака, з ёй так добра было гуляць на прызбе ў мужа і жонку. «Жонка» часта прасілася прынесці ёй тоненькую скібачку хлеба... Нечакана, як пачалася вайна, яўрэі павыносілі ўсё з хаты і падаліся на Столін, але старыя прыходзілі праведваць хату. Тут іх і ўлавілі. Зараз у хаце каля Шэмэла і Іцакам узбуджана таўкліся Мацюх з Карповічам, тыя самыя, што нядаўна сустракалі Чырвоную Армію, пачапіўшы на грудзі чырвоныя банты.

Як радасна было і хораша, калі праз сяло ішлі кавалерысты ў шапках з вострымі піпсямі. Які ашчасліўлены быў Янак, калі адзін баец падарыў яму сваю шапку такую — будзёнаўку. Нікому не даваў панасіць, хіба што памераць. А як пайшлі немцы, маці спарола чырвоную зорку, дала так хлопцу насіць. І тут прыйшлі ў хату немцы ў бліішчастых плашчах, паказалі Мацюку з Карповічам, што абстрыгчы трэба яўрэяў.

— Ярыно, дай ножнычкі!

— Далібог, няма,— спрабавала адкараскацца ад такое бяды маці, але Карповіч сам палез у прыстолак і разам з ніткамі, латкамі дастаў чорненькія нажнічкі, якімі Янак так любіў шчыкаць сцяблiны саломы. Разам з іншымі латкамі выпала на падлогу і разгар-

нулася чырвоная будзёнаўская зорка... Нямчуга адзін падхапіў зорку. Гвалт у хаце падняўся, наштырхалі бацьку пісталетам пад рэбры, падпіхаючы да яўрэяў, маці галасіла, галасіў і Янак. Немцаў улагоджваў Мацюх, паказваючы жэстамі:

— Няма ў іх камандзіра ў Чырвонай Арміі, няма. Гэта маломy падарылі тыя, з войску іхняга,— тыцкаў на яўрэяў пальцам...

Сяк-так немцы ўгаманіліся, прышпілілі Шэмэлу чырвоную зорку да світкі, абрэзалі чорную бараду, павыразалі пэйсы. Бедныя трымцелі, як памерзлыя коні. Маці сцішылася, нечакана памкнулася да афіцэра, які стрыг:

— Пан, дзевяць дзетак у яго, пан?!

— Гэвек! — аскаліўся чалавек.— Нойн кіндэр — нойн бандытэн!

Потым Янаку засталося глядзець праз акно, як Мацюх з Карповічам адарвалі дошкі з дзвярэй яўрэйскай хаты, вынеслі швейную машынку, беглі праз вуліцу з заступамі. Сабраліся на выгане людзі. Яўрэі капалі нейкую яму. Спачатку ім было па калені, потым заглыбіліся ў пояс, далей сталі відаць толькі галовы... Немцы стаялі ад ямы воддаль, пакурвалі. Шэмэл выкінуў наверх лапату, паспрабаваў выкараскацца сам, але Карповіч ухапіў заступ і нечакана плазам стукнуў чалавека ў яме па галаве, той прысеў... Маці аднесла Янака ад акна, Янак паспрабаваў вырвацца, каб паглядзець. Заўважыў, як да ямы падышлі немцы з аўтаматамі... Коратка бабахнула, і ўсё.

Яшчэ колькі дзён падыходзілі каровы да свежай зямлі і прынюхваліся, пырхалі мызамі, нібыта адчувалі само дыханне смерці. «Чаму? Для чаго так?» — пяклі хлопчыку думкі, але нават бацька не мог растлумачыць як след...

Тады пасвіў ранелька каровы свае дзве і цялушку. Недалёка каціла свае балотныя воды сонная рака

Льва. Здалёк відаць было абамшэлы мост праз яе з чорнымі палямі... Ад халоднай расы, хоць плач, мерзлі ногі. Два крукі хрыпла каркалі, седзячы на купінах... Раптам нешта загрукатала. Неба было ясным, чыстым. Янак крышку спалохаўся. Але вёска блізка, чаго там. Зноў пачулася грукаценне, і данёсся выразны рокат танкеткі, на якой не раз прыязджалі немцы ў сяло або проста праязджалі далей наводзіць нейкі «новы парадак». Танкетка ўехала ў сяло, закрычалі вароны і галкі на бярозах, хмарай узвіліся над купамі дрэў... Загаўкалі спуджаныя сабакі. «Як пра цуда-юда,— падумалася Янаку.— Толькі не выйдзе з-пад моста на Льве Іван-асілак, бо малы яшчэ, не згадзіўся на бітву са змеем...» Танкетка прагрукацела праз сяло, выехала грэблю да ракі, праклекаталі побач гусеніцы, дрыжала зямля пад нагамі... Варожае жалеза паехала на мост. Янак хацеў адварочвацца, як нешта ціха трэснула адтуль, ад моста, адзін бок моста нахіліўся, бліснула сонца на бліскучых гусеніцах танкеткі, і яна бясшумна шамнула ўніз, у старажытную прорву Львы-ракі. І грукаценне сціхла. І неяк гладка, чыста і светла зрабілася навакол. Беглі людзі з сяла... Вымчаў і Янак на грэблю, азірнуўся на кароў і першы дабег да моста.... Там жахліва пуста было. Гладка і чыста. Палі былі акуратна наўкась падпілаваны. Людзі падбягалі... «Гэта я! — хацелася крычаць Янаку.— Я — Іван-асілак. А хоць і не я, адчуваю, адчуваю, хто смерць цуду-юду зрабіў...» Шырока расплюшчыліся Янкавы вочы, уголас крычаць хацелася: «Закачалася пад нагамі сыра зямля, вада ў рацэ ўсхвалявалася, буйныя ветры завылі, на дубах арлы закрычалі. Выязджае цуда-юда дванаццацігаловае. Усе дванаццаць галоў свішчуць, усе дванаццаць агнём пыхкаюць. Поўсць у каня цуды-юдзінага медная, а грыва жалезная. Толькі ўз'ехаў цуда-юда на калінаў мост — конь пад ім спатыкнуўся, чорны крук на плячы ўстрапянуўся, злы

сабака ззаду ашчацініўся. Б'е цуда-юда плёткай па баках каня, крука па пер'ях, сабаку па вушах:

— Ты чаго, мой конь, спатыкаешся? Чаго ты, чорны крук, страпянуўся? Мой ты сабака, чаму ашчацініўся? Ці, можа, вы чуеце, што Іван сялянскі сын тут? Дык ён яшчэ не нарадзіўся, а калі і нарадзіўся, дык на бойку не згадзіўся!»

Але Янак маўчаў.

# Цары травяной нерушы

Апавяданне

Блакітная старая часоўня блішчэла ў месячыкавым святле. Ні хмаркі на небе. Лёгкае, светлае блішчэнне перакатвалася на атласных, шчыльных лістах магільных дубоў. Толькі шамацелі, спявалі, балбаталі неспакойныя асіны сваім трапяткім лісцем. Быццам скамянелы, быццам скульптура, стаяў ля агароджы хлопчык. І якое было дзіва, калі постаць яго варухнулася і ён зайшоў на могілкі. Раса села. Гладзіў махнатыя сцяблы дзіваны, адчуваў вільгаць. Яму трэба была адна трава. Прычым нарваная менавіта ўночы, менавіта тут, на могілках. Каб не баяцца, загаварыў нягучна сам сабе:

— Хіба ж страшна?! Ні багоў, ні чартоў няма. Ведзьмы-шмедзьмы — сівая брахня. Вот вазьму гэты кол...

І раптам хлопца скаланула. Выразны далёкі голас пачуўся з-за бліскучых такіх уночы алюмініевых крыжоў. Што гэта? Праз які момант хлопцу падумалася, што голас, гаварынне здалося, але тут жа пачулася выразнае вурчэнне сабакі. Пракаўтнуўшы сухі камяк, хлопец мацней сціснуў калок і, напружваючы зрок, угледзеўся ў цёмныя сілуэты дрэў, помнікаў, капцоў і паваленых надмагільных старажытных камянёў. Нічога там не варушылася. Суха раптам трэснулі дзве-тры галінкі ў бэзавых здзічэлых кустах. І тады, не раздумваючы ні на момант, ускінуў калок і, нібы кап'е, шпурнуў у бэз, абярнуўся і колькі было духу памчаў адгэтуль, пераскокваючы праз магілы, а то і ступаючы на іх мяккі жвір.

А на другі дзень, калі святло вылілася на ранішнюю зямлю, прачнуўся Юрык, прыпомніў учарашнія страхоцці і засмяяўся шчасліва, лежачы ў цёпленькім ложку. Вось дык уцякаў! На скрут галавы. І нашто яму чортавае здалося зелле. Нашто яму наогул цягацца з гэтым чмурам — Магеленцам. Ён вядзьмар, чараўнік. Лечыць ад усіх хвароб. Едуць да яго здалёк. Мо праз дзень ля Магеленцавай хаты стаяць запыленыя «Масквічы» і «жыгулёнкі». Ратуюцца людзі, каму не памагаюць ні дактары, ні лекі. Адвальваюць Магеленцу грошы, не шкадуюць. А той нарве зёлак, нагадае, начаруе, нашэпча, і будзь здароў! І, бывае, людзі вылечваюцца. Юрый перавярнуў усю бібліятэку, вычытваючы ўсё пра народную медыцыну. Нешта вычытаў. Галоўнае было ў травах і ва ўнушэнні. Нядрэнна падкаваны ў батаніцы, хлопец хутка назбіраў многа лекавых раслін. І не раз сустракаўся з гэтым таўсматым дзядзькам на тых месцах, дзе раслі рэдкія травы. Моўчкі збіралі разам. Сабака таксама моўчкі бегаў вакол. Гэта быў страшны сабака. Летась была эпідэмія шаленства. Сабакі, што не былі на прывязі, пашалелі. А Ральф належаў аднаму чалавеку, які нават не карміў яго. Баючыся, што і Ральф ашалее, гаспадар прывязаў дротам сабаку да плота і папрасіў у паляўнічага стрэльбу. Стрэліў раз, другі, трэці. Ральф толькі скавыча. На чацвёрты раз Ральф выпручыўся з драцяных путаў і паляцеў у лес.

— Ён табе прыпомніць! — паабяцалі гаспадару. І сапраўды, сабака некалькі раз упільноўваў гаспадара пад вечар, і той ратаваўся ў бліжэйшую хату з выдраным садном. Ральф здзічэў за зіму. Худы, паджары бегаў па сметніках, сумна пазіраў на людзей. Фельчар-ветэрынар гаварыў, што ў яго такая форма шаленства. Але калгасны пастух, знахар Магеленец, неяк асабліва паварушыў кучматымі сваімі брывамі, з яго воч — бяздонных калодзежаў чалавецкага пата-

емнага нутра — нібы нешта высвецілася, і Ральф беззакорна прыняў яго за новага гаспадара і быў добрым служкам на пашы ля кароў. Так і засталося. Бо нагогул з Магеленцам ніхто не хацеў звязвацца. Рэгулярна Магеленец раз у месяц моцна напіваўся і пачынаў валаводзіцца з людзьмі. Займаў іх каля магазіна, абдымаўся, лез цалавацца. А некаторых, спачатку пацалаваўшы, адпіхваў і адмоўна пакручваў галавой, маўляў, дрэнны ты чалавек. Ніхто не сварыўся з ім, казалі:

— Паганскі чмут, не звязвайся з чортам.

* * *

— А дзе ты гэтай во травічкі нарваў? — нечакана спытаў Магеленец і пацягнуўся рукою ў Юрыкаў кошык. З-пад густых броваў упіўся ў Юрыка пякучы позірк. Адтуль, аднекуль з сярэдзіны, пачалося быццам нешта вышкрабацца запаветнае, нязнанае нікім дагэтуль. Быццам руку ўсадзіў у вачніцы і дастае дна жывата. І вось, здаецца, ужо выцягвае нешта з сэрца, і вось, здаецца, сам туды ўлез, у яго, Юрыка, сярэдзіну і там улежваецца ўтульна.

— Ачмурэў? — нарэшце пачуў Юрык і апрытомнеў нібы, глядзеў проста перад сабою, бачыў старога Магеленца, што, апусціўшы вочкі, стаяў і церабіў ягоны цвінтарэй.

— Дык дзе ты бачыў такую траву? — пытаўся шаптун.

— Тама...— махнуў Юрык рукой,— у Куналаве, за пшаніцай.

Як было лёгка, калі Магеленец пайшоў. Было лёгка і вольна дыхаць, быццам вынырнуў з вады. Во чалавечышча! Змей Гарыныч. Юрык прыйшоў дахаты, рассцілаў па гарышчы траву, падварушваў падвялую, напаўняючы паветра духам лугу. Стары Магеленец

пасля адной сустрэчы стаў блізкім і родным. Толькі страх па-ранейшаму скоўваў хлопчыка. Але атрымалася так, як бы ніхто не прадбачыў. Быў Магеленец у камплекцыі, не грэбаваў чаркай, якую прыносілі за лекі, а тут нечакана хвароба зваліла самога. Бралі яго і раней сардэчныя прыпадкі, але хутка праходзілі. А то так ухапіла, што оё-ёй! Прывезлі з рэанімацыі, ледзь жывы. І так здарылася, што пайшоў Юркаў бацька да яго па нейкай патрэбе і Юрык з ім разам быў. Мог і на двары пастаяць, але па цікаўнасці, што межавала са страхам, увайшоў спачатку ў цёмныя сенцы, потым на кухню з нізенькай столлю. З кухні перайшлі на вялікую, як кажуць, хату. За заслонай ляжаў Магеленец. Ён не схудзеў, толькі крышку збляднеў. Прытрымліваючы заслону рукой, Магеленьчыха гаварыла:

— Колькі казала — не трэба. А ён рэжа і рэжа... Смалы каб напіўся!

Магеленец крэкнуў, падаў бацьку руку... Яны нешта гаварылі, перакладалі з рук у рукі нейкія вялізныя кнігі, Юрык вычытаў загаловак адной — то была «Медыцынская энцыклапедыя».

— Так гэта твой? — спытаў Магеленец немагушча, паказваючы на Юрыка.

— На, Ваня, пакажы яму гэтую травіну, мо і ўратуюся...

Гэта былі незвычайныя адчуванні. Нібы той сабака хворы, што сам збягае ў лес травой лячыцца, нібы тая кошка, што аб'ядае высеяныя напрадвесні памідоры, Юрык шастаў па кустах, па лесе, па балоце, шукаючы шэранькую траву. Але не мог знайсці. Зрэдку траплялася каліва-дзве. А для лячэння трэба было шукаць добрую зарасць. І першы вечар зусім не пайшоў да Магеленца, а на другі дзень у роспачы прызнаўся, што няма. Магеленец уздыхнуў:

— Значыцца, не насеялася яна там, дзе ты шукаў. Пашукай ля вады... А я неяк парыплю...

Але і на другі дзень, і яшчэ праз некалькі дзён не мог Юрык назбіраць гэтых зёлак. І зусім нечакана, калі раз вудзіў рыбу, здарылася наступнае. Вывуджваючы з глыбіні ментузка, той зляцеў [redacted] кручка і ўпаў далёка на травяністы бераг. Тады Юрык пайшоў шукаць мянтузіка і, гартаючы густую траву, нібы кніжкі, звярнуў увагу на яе, на гэтую траву. Аж сеў, успацеў аж. Гэтулькі яе тут было! Не верыў вачам, абмацваў рукамі. Сумняваўся, мо не тая. Цэлае бярэмя травы даставіў ён у апартаменты Магеленца. Той пачаў правіцца і хадзіў памаленьку.

— Хадзем, павесім сушыць,— абрадаваўся хворы.

І яны зайшлі ў выстэпку, дзе сушыліся ўсялякія травы на газетах, дзе ў кутку ляжалі тыя самыя шаптунскія камяні, якія грэлі хворых і выгравалі ім хваробы. Гэта былі звычайныя камяні з поля. З некаторых нават зямля не была саскрэблена. І тут у кутку Юрык убачыў даволі спраўнае самагоннае абсталяванне, якое далікатна стараўся не заўважаць.

І вось прыйшла нарэшце тая раніца, калі Юрык ішоў стомлены са школы, а Магеленец нешта сек на двары. Заўважыў яго, запрасіў на падворак, усміхнуўся:

— Гарэхаў пойдзем нарвём! Спелых.

Гэты дзядзька знае, дзе растуць самыя выспелыя гарэхі. Не з тых гарэхавых градаў, што ў малочнасці паабтрасалі і паабкусвалі дзеці, а [redacted] асобных кустоў-матак, што даюць калёны гарэх.

І ішлі яны па вераснёвых травах, патаптаных хіба што шпакамі. Ліўся светлы струмень на іх галовы, і радасна і спакойна ім было, і адзін аднаго разумеў і адчуваў блізка-блізка еднасць з акаляючым светам. Далёкая высокая аблачына звівалася ў спіраль, здавалася, і яна — жывая істота. Птушкі катухаліся ля ног. Здавалася, што ўсе пачуцці хлопчыка, не ацемраныя ніводнай ценню непаразумеласці з гэтым таўсма-

тым шаптуном, заліты гэткім жа святлом, якім заліта наваколле, і зараз кожная лагчыначка, купачка травянога поля была быццам выгібам яго малой душы. І кваціcтае поле гэтае, не варушанае плугам дарослас-ці, бед, нягод, радасна ззяла вераснёўскім апошнім жарам. І лёгкія думкі яго — рознакаляровыя матылькі, зайчыкі, што бліскаюць па няроўнай вадзе, і сам ён, як і воблака, як і кашлаты Ральф, як і чорныя палявыя мурашачкі, што мітусіліся ў траве. Усё было ім самім да няўсцерпу.

# Масток у будучыню

(Напаўфантастычнае)

Во была выгода: каб папасці дахаты, трэба было затраціць суткі! Уся бяда была ў тым, што сядзелі сіднямі на прамежкавай станцыі. Ад яе дахаты кіламетраў з чатырнаццаць. Яму — хлопцу — Пратасавіцкаму Віталю — здавалася, што так і пайшоў бы пехатой, каб не выседжваць усюночню, але куды пойдзеш — наперадзе чорная Прыпяць. Праз чыгуначны мост ніхто не пусціць. Вот і сядзі ноч ды ламай пальцы ад такой бяздзейнасці.

Храпуць бабулі з зарэчных вёсак, храпуць і панюсі, што маладзейшыя, больш прывабна адзетыя і едуць на пабыўку дахаты... Усім адно — чакаць ранку, чакаць, калі роўна а пятай пад'едзе жоўта-чырвоны венгерскі дызель і памчыць усіх на правабярэжнае Прыпяці Палессе, а мо каго і далей — у Сарны, Роўна, на Валынь.

— Гэта вжэ кулько совецка власць сушчыствуе, а ны могуць моста построіты. Стулько людэй морыцца тут годамы. Штырнаццаць кіломытрув до хаты, а ты тут сыды цілу нуч!

— Ага! Совет у космас лэтае, а моста нэ мае!

Галава зморана клоніцца да пляча, і ў вушы насільна ўлятаюць гэтыя сказы мясцовых гаворак. Так хочацца спаць, свядомасць туманіцца, і сярод гулу, шорхату, сапення ў гэтай вялізнай, аграмадзезнай, змураванай яшчэ пры цару станцыёнскай зале сон абрываецца штомомант. І хто гэта там надакучліва так разважае, быццам каму-небудзь цікава слухаць гэтага філосафа ў пасталах. Пратасавіцкі расплюшчыў

вочы і з уздыхам абярнуўся. І вот што было цікава, калі позірк яго слізгануў па сялянскім твары, простай апранасе гэтага дзеда, дык адразу затрымаўся на цудоўных, з свежага лазовага лыка пасталах. «Сапраўды, філосаф у пасталах»,— падумаў хлопец і пачаў слухаць.

— Кажуць, в проектах нідэ і е, шчоб мост зробыты пырыз рыку. Алэ мы ны дожывымо.

— Да сейчас, дед, быстро строят, раз-два, и готово! — падключыўся малады, прыгожа і дорага апрануты мужчына.

— Ага! І готово... В штанці! Воны во Сібір воююць, [redacted] шчо [redacted] самых Сібір пуд боком, й знаты ны хочуць. А тут як тра ў город — дэнь выкідвай. Час які побігаеш по магазінах і нуч сыды на вакзалі.

Дзед быў апрануты ў шыракаваты, з ваеннага сукна фрэнч [redacted] асаблівымі касцянымі гузікамі, што прадаваў мо яшчэ які Шмэл пры Польшчы. І толькі адзін гузік з гэтага старасвецкага строю быў наш, жоўтаблiскучы, з пуклаватай зоркай. Навакол былі фасонныя сінтэтычныя плашчы, модныя палітоны, курткі, пінжачкі, балахончыкі,— а ён сядзеў у наглуха зашпіленым гэтым фрэнчы, свяціўся сваім ясна-чырвоным тварам, які паказваў, што дзядок днюе і начуе на свежым паветры. Стары нястомна сердаваў:

— От колы вжэ казалы сёрод нашых, там,— кіўнуў стары ў бок запрыпяцкіх лясоў,— шчо доўга совецка власць ны просушчыствуе. Алэ так світ обырнувса, шчо мы самы тою власцю сталы і будэ вона вічна і всэй світ пэрэйдэ,— і дзед пастукаў алюмініевым кіёчкам, зробленым з лыжнай палкі, у цэментовую падлогу. Гэты кіёчак быў адзінай сучаснай рэччу ў экіпіроўцы дзеда, бо нават за сумку ў яго быў туга ўплецены кашэль з вечкам, дзе звычайна сядзела кракуха, што падсаджвалі качарам на паляванні. У гэтым кашэліку і зараз нешта паварушвалася, было чуваць час

ад часу нейкае соўганне і шарахценне, быццам там сядзелі вялізныя мышы і тачылі пруткі.

— Дай нам срэдства. І подывымса, чы будуць люды одсюль втыкаты на Ростовшчыну, в Казахстан, в Курганску вобласць. Туды, на цыліну. У нас тут самых цыліна под ногамы. Во подывыса — Оснежыцкі! А чому?

— Ага ж! Так,— гадзіліся з дзедам суседзі, але да іх мала даходзіў сэнс дзедавай палітыкі, бо сонна паводзілі сваімі зіркачамі, хацелі прыткнуцца і драмануць. Той малады мужчына ўсё ж нешта хацеў сказаць.

— О, дед, да у тебя замашки!..

— А ты так ны кажы,— дзед аж прыўзняўся з лаўкі, галава яго павярнулася крыху ўбок, і ён як бы адным вокам зараз глядзеў на гэтага мажнага мужчынку,— у мынэ во! — стары рэзка закасаў рукаў аж па локаць і выставіў на агляд сваю руку,— гэто Кенісберг. А гэто — Бырлін,— і стары патупаў сваімі пасталамі,— думаеш, шчо вжэ я така тэмра і болото, шчо в постолах ходю, га? Навэт у самых лёгкіх суконках і то тры дні походю, і косты ламае. А тут во! — стары задраў угару свой пастол і энергічна памахаў ім,— нага дыхае. Вот вы, вучоные, подумаетэ, подумаетэ да і самы скоро пообуваетэса...

Мужчынка няёмка мяўся на месцы, моршчачы лоб, ужо слухаў старога ўважліва, каб паддобрыцца. А той ужо сціскаў кулакі ў запале заядлага сельскага прамоўцы:

— Мы за ўсю Росію, за наш усёй Союз. Алэ ж така політыка Леніна, хіба нэ знаеш?! Пырыз росцвіт всіх нацый, народув, нацыюнальнусцей мы прыдэмо до того, шчо камунізм называецца!

Дзед нечакана змоўк. На яго ўважліва глядзелі чалавек з дваццаць, што абудзіліся і моўчкі ўсміхаліся...

Хлопец заплюшчваў вочы і намогся ўявіць на-

ваколле, дзе ён вырас. Перад вачамі ўзнік бяскрайні алёс — высокатраўнае куп'ястае балота. Вось тут і жылі яны дзятвой. Летам дома ніхто амаль не еў. Жылі з пастухамі, узбаламучвалі ваду ў выжарынах, хапалі за галовы кажушкаў — маладзенькіх зеленаватых шчупачкоў, смажылі на кіёчках, а ў канцы ліпеня, бы тыя маладыя ваўчукі, рыскалі па гэтых выжарынах, хапалі тлустых неапераных качак і варылі іх з маладзюсенькай бульбачкай... Зараз усё павысушвалі і нават пустазелле не расце тута. Гэта пасля таго, як ссунулі карчы ў кучы і яны сатлелі павольна. Трактар са страшэнна вялікім плугам вывернуў адтуль, з-пад зямлі, халодны жвір, сярод якога пападаліся крапінкі белага шклістага пяску. Гэтая праява замянілася другой. Золатакалосы ячмень, апавіты вікай, калышацца тут, сярод гэтых куродымных курганаў. Задаволеныя дзядзькі весела сціртуюць салому... Потым новы малюнак — зямліста-шэрая, жыццёвапустая даліна, вясёлыя малодзенькія бярозкі і ўкваленыя парасткі збажыны...

— А я ж казаў, шчо нэ будэ тут нычого росты! Вывырнулы з того світу зэмлю і ждуць, коб врунь хороша була! — гучаць у памяці слушныя словы.— У могілу той плодны шліхт і закопалы. Енжынеры!

Гам, шум, валтузня і смех разбудзілі Пратасавіцкага. Па зале бегаў той самы добра апрануты мужчына і нечага аж падскокваў.

— Трымай! Бяры,— крычалі мужчыны. Заверашчала дурным голасам баба.

— Лаві! — аж заходзіўся нейкі дзяцюк, і той мужчына нечакана, як быў, упаў на калені і папоўз пад станцыёнскую лаўку.

— Есть! Царапается, зараза! — крычаў ён з-пад лаўкі.— Зовите деда! Позовите, ради бога.

Пратасавіцкі ўскочыў, памкнуўся туды, да гурту, што збіўся ля лаўкі, намагаўся праціснуцца, як тут

нечакана ўбачыў, як невялікі звярок паскакаў прахо-дам пад другую лаўку.

— Ось яна, крыса! — запішчэла нейкая кабеціна, а Пратасавіцкі прабег следам за звярком, нагнуўся і ўцэліў ухапіць істотку за таўставаты хвасток. Звярок крутануўся і скрабануў зубамі руку. Але тут ужо дзядок бег.

— Так і знав, так і знав, кошыль прогрызлы, су-бакі!

Ён падбег да мужчыны, што вылез з-пад лаўкі і ас-цярожна на грудзях трымаў звярка. Дзед ухапіў свой кашэль, сарваў кепку з галавы, заткнуў прогрызь.

— Давай сюды ёго, звіра гэтого. І шчэ другого уловыты трэба...

Пабегалі і злавілі і другога «звіра», дастаўшы яго з-пад аптэчнага кіёска шчоткай. Цяпер стары трымаў свой садок пад пахай і тлумачыў:

— Гэто я купіў нутрыей. Засылю в болото нашэ. Аклімацізіруюцца, і будэ всім здобыч. Паненко, го паненко! Цыгарэт пачок дайтэ! — нечакана гучна па-прасіў у буфетчыцы, што на галас выглянула заспана з-за шырмачкі.

— На, пан, табе цыгарэт,— гучна вымавіла яна, усміхаючыся і сапраўды, было даволі прыемна, што гэты дзед недзе ў гушчыні там лазовай захаваў і вынес адтуль асколак былой культуры — такі мілагучны зва-рот да жанчыны.

На двор, услед за старым, выйшаў і Пратасавіцкі. Стары і там не даваў нікому спакою. Зараз ён кляў увесь свет, што не будуюць мост праз раку. І што ён змушаны чакаць тут да ранку, а яго неадклад у спра-вах, што нутрыі кашэль сточаць занач. Тут дзед змоўк, рашуча ўздыхнуў і борзда падаўся ад вакзала.

Пратасавіцкі пакурыў і зноў праваліўся ў нястрым-ную дрымоту. Рабілася млосна, дрэнна ад гэтага ку-рэння на пусты жывот. Паскакалі ў вачах дзікія ства-

рэнні, тонка пела сярэдзіна — гэта былі першыя прадвеснікі таго нервовага ўзбуджэння, што апанавала іх за бяссонную сесію. Але ён з'еў увесь седуксен і ратавацца не было чым. Усхапіўся, выскачыў на холад, але і там, здавалася, у галаве ўсё тужчэй і тужчэй закручваліся нейкія металёвыя спіралі, гатовыя вось-вось лопнуць. І тады ўвесь сусвет рассыплецца ў бліскучых жарынах і ўсё правецца нябачаным брудам, бязглуздзіцай. Тады хлопец пайшоў наперад. Няважна куды, але каб толькі ісці. Сэрца пачало трасціся ў грудзях, і хлопец уцэліў учапіцца думкай у гэтакі механізм: хваляванне — адрэналін — сэрца — хваляванне. І на вольным паветры не суваладаў з сабою. На валасінку быў ад таго вар'яцкага спакусу, які аднойчы амаль не авалодаў ім у бібліятэцы: захацелася ўскочыць на стол і вытанцаваць матроскую джыгу. Гіпадынамія, недахоп руху — і мозг звіхаецца. Прадраўшыся праз нейкія кусты, учадзелы ад навук студэнт размашыста пабег. Падсвядомасць яму падказвала: азірніся, у цябе за спіной горад, зыркія агні станцыі, куды ты бяжыш? У цемрадзень, холад, пустэчу. Але думка, такая запеклая, свідруе і джаліць мозг — уцякай, уцякай, хлопча, ад гэтай экстравертнай цывілізацыі, што высмактала твае мазгі, што атруціла цябе ведамі, што навучыла цябе толькі паглынаць веды. Што не навучыла элементарнаму самаўзнаўленню. Хутчэй у лес, у пушчу, да халоднай вады. Цяжка дыхаў, размахваў рукамі, але бег вельмі памалу. Праз нейкія пагорачкі ўзбіўся на палатно чыгункі. Тут спыніўся, больш-менш супакоены. Балтыйскі рэзкі вецер гнаў паразрываныя на шматы хмаркі. У небе весела ззяла поўня. Напускаў прахалоды за каўнер, пайшоў па чыгунцы на поўдзень, да ракі. «За вакацыі свае і газеты не разгарну,— вырашыў Пратасавіцкі.— Толькі куды вот я іду? — думаў зноў.— Як-небудзь ды перабяруся на другі бок, хоць бы і раніцай хто ў чаў-

не перавязе». І пайшоў борздай хадой, і адчуваў моц, бо з'явілася як бы другое дыханне і ў цыкле: нервы — адрэналін — сэрца ўсё працавала лёгка і зладжана. Галаве зрабілася лягчэй. Пратасавіцкі памаленьку-памаленьку пабег. Цяпло заліло сярэдзіну, было добра, нават голасна сказаў:

— Хочаш быць здаровым — бегай, хочаш быць прыгожым — бегай, хочаш быць разумным — бегай!

«Але грэкі памыляліся, бо не таму разумны, што бегаеш, а таму бегаеш, што разумны!»

Пахваліўшы сябе, Пратасавіцкі павялічыў тэмп, далёка за сабой пакінуў станцыю з светаноснай шапкай угары, пасоўваўся наперад па чыгунцы, што, як лінейка, пала сярод лесу і балот. Наперадзе, на дзесяткі кіламетраў, не свяціўся ніводны агеньчык.

— Ну і пустыня, аж жудасна! — прашаптаў хлопец.— Здаецца, дзе тут тыя і людзі! Быццам тут мор які прайшоў, быццам конніца татараў пранеслася... Але жыве і тут народ, і родзіць народ рукі залатыя, што могуць не толькі рычагі трактарныя шліфаваць. Тыя самыя рукі, што краіну стварылі і ствараюць.

І аж засмактала пад лыжачкай, як успомніў тое пачуццё, калі глядзеў на макеты новых гарадоў або на праекты гарадоў будучыні ў часопісе «Техника — молодежи». Пратасавіцкі нервова перасмыкнуў шалік, і новыя думкі запалілі яго.

— Ніц,— шаптаў ён, перайшоўшы на хаду,— прыйдзе чарга і да нас.

Думкі сяганулі высока-высока. Бо была надзея, было выйсце, была нават радасць, што не далёка гэта, не за гарамі. Не праз сто, а мо і менш чым праз дзесяцігоддзе якое мары яго ажыццяўляцца. І сам ён удзельнікам будзе, не дасць сваёй галаве лопнуць, як пасудзіне якой непатрэбнай. Зразумела, што ён кулік з гэтага балота і куток свой прымае за найчароўнейшы, найдасканалейшы ў свеце. У гэтым святым кава-

лачку зямлі жіж Стырам; Гарынню і Прыпяццю чаго толькі можна не натварыць?! Гэта столькі тут дубу, вязу, ясеню. Гэта лічы — золата. Калі даражыць кожнай дошчачкай, кожным гарбылём, як у той Японіі, дык гэта сапраўды — золата. І трэба даражыць, трэба любіць кожны абрэзачак! Тады — «злато». А не — дык гніль пад нагамі. Як вунь зараз — даў пляшку леснiку, і ты самы багаты чалавек на планеце. Багацей за ўсіх Морганаў і Фордаў. Бо якую сасну хочаш, такую і заваліш, воз соснаў заваліш, што сок-смала з іх залье драбіны.

Хлопец ішоў па высокім насыпе і нарэшце ўбачыў далёкія агні сёл. Сюды, аж пад чыгунку, падыходзілі запушчаныя меліярацыйныя каналы. Колісь вясной выпусцілі карпа ў гэтыя заточкі. Увосень, калі вада высахла, кашалямі насілі тлустую рыбу... А колькі буслы пакаўталі, а вараннё потым падзяўбло... А калі тут сапраўдную рыбаводную гаспадарку закласці, хто перашкаджае? Гэта ж тоны золата і серабра развесці можна ў сажалках! А там вунь далей — птушыныя фермы, цэлыя птушкафабрыкі! Нашто ехаць на якіясьці заробкі, калі сваю зямлю будаваць трэба. От за Дзікім балотам, хай яно лясне, якая атамная сіла яго асушыць, можна адбудаваць вялізныя малочныя фермы. І завесці ў гэтыя фермы не тых галандак рабачарэвых, а гібрыд вывесці. Мясцовы тавар, што сотні год па балоце лазіць і малако дае, што мятвіцай пахне. Замаркітуецца хай з тымі самымі галандкамі, і пойдзе новае патомства, што па пуза ў гразь залезе і траву балотную папоўніцы, да зямлі голіць, грыб знойдзе і яго завільне языком. Тады самае галоўнае будзе — балота не трэба насуха сушыць. І тут выгада будзе!

— Гэх! Адбудуемся! — аж усклікнуў Пратасавіцкі, а думкі яго прасцерліся далей. Ён адчуў у сабе напоенасць усёй сваёй істоты думкай, здавалася, і ў пальцах, кончыках пальцаў месціцца магутная мысліцель-

ная сіла, і ногі ішлі самі, і чым больш расла моц думкі і мары, тым лягчэй станавіўся целам, быццам сіла, падобна Архімедавай, дзейнічала на яго...

— Гэх! Адбудуемся! Ці ж мала ў нас залежаў торфу? І не паліва гэта, а хімічная сыравіна! Ці не Мендзялееў казаў яшчэ, што нафтай або вуглём паліць усё роўна што асігнацыямі! З торфу лякарства робяць! З торфу пластмасу робяць, а з гэтай пластмасы і дамы будаваць можна! Толькі трэба энтузіязм, вера ў светлае ўсё!

А перад вачамі ўстала карціна адбудаванага краю. З высакаствольных альховых лясоў высяцца алюмініева-шкляныя грамады. На бязлесых прасторах — роўнаўпарадкаваныя сажалкі, а на астатніх балотах разлягаюцца неабсяжныя журавінныя плантацыі. Ягады ўбіраюць спецыяльныя балотныя камбайны. А на суседнім месцы — фабрыка па апрацоўцы гэтых каштоўных ягад, і адсюль жа — экспарт у многія краіны свету. Гэтае балотца атрымае сусветную вядомасць, а то зараз хіба што зімой лось разаб'е капытам шарпак ды пабярэ чырвоныя кроплі губамі.

— І такі парцэлянавы завод адгрохаць можна! Бо цэлы раён на кааліне вышэйшага гатунку сядзіць, а мы ўсё па-ранейшаму паўтары тысячы год гаршкі ўручную лепім!

— Дакуль гаршкі ляпіць будзем! — крычаў хлопец у цемру.

Напоены ўвесь сваімі асалодкавымі марамі, здавалася, адарваўся ад зямлі і плыў у паветры. У гэтым напаўтрызненні, напаўфантазіі ў хлопца блішчэлі вочы, распаленыя ўяўленне і свядомасць раджалі новую, нябачаную дагэтуль энергію. Энергію новага стварэння...

А калі прыйшоў да памяці, агледзеўся — стаіць на другім беразе Прыпяці, на так званай Старой Дарозе... Па ёй дахаты ісці кіламетры са тры. Пратасавіцкі па-

няцця не меў, як сюды папаў! Цела злёгку ныла. Нечакана пабачыў цёмную постаць, пачуў крокі. Насустрач выйшаў той самы дзядок з алюмініевай кульбачкай.

— Гэто вы, дзеду!

— А ты хто?

— Ды я адтуль, са станцыі!

Стары палапаў па кішэні, палез па цыгарэты. Запаліў і Віталь Пратасавіцкі. І ўжо, прыкурваючы, стары, мусіць, пазнаў яго.

— Што ж не ўседзеў?..

Зноў пастаялі, памаўчалі, нават не пагледжваючы ў бок ракі, што глуха ўсплесквала воддаль. У кожнага было пытанне — як перабраўся, як апынуўся тут? Але маўчалі, быццам то было запраста: узяў і перайшоў па якімсьці арачным мастку.

— А нутрыі як вашы?

— А халера! — стары не вытрымаў, мацюкнуўся для аблягчэння душы. І давялося прыадкрыць сваю тайну.

— Паўцякалі. Бачыш,— стары паляпаў па мокрых нагавіцах,— човен на тым боці вышукав, а вунь быз дна сказався! Я воду вычэрпваю, а вона вылызла одна, да плюх! У Прыпяць, а за ёю плюх друга. Поплылі, чэрты, туды,— стары махнуў рукой па цячэнню,— мо дэ там прыжывуцца. Двацаць пяць рублів оддав. Гм...

Зноў памаўчалі.

— Но ты як? — спытаў між іншым дзед.

— Каб я ведаў? — бясхітрасна адказаў Пратасавіцкі, бо і сапраўды ў нервовай гарачцы не заўважыў, як перабраўся праз раку.

— А-а! — хітра дзед схіліў галаву.— Там баржа шла і охраннікей заслыпыло, а ты і пірыбіг, га?

Хлопец памаўчаў. Дзед павярнуўся і моўчкі пайшоў у цёмную старану.

— Не, па чугуначным мосце я не пераходзіў! —

упэўнена крыкнуў Пратасавіцкі.— Тут другое дзела, тут точна нейкая левітацыя, у фантазіі, па мастках будучыні перайшоў гэтую густую, бы алей, ваду «акі па суху»! Бо я паверыў у Масток Будучыні і перайшоў... Сапраўды, спачатку трэба паверыць, каб што зрабіць. От напраўду вы ж казалі, павер і ў гарчычнае семя...— крычаў ён, але стары не адзываўся, і постаць яго знікла ў цемры.

# Сузіранне начной поўні

Апавяданне

«Якое дзіўноцце наўкола! Паветра крышку вільготнае, але яшчэ не астыла ад дня. Перасталі рыпець далёка ў канюшыне драчы, перапёлка не б'е сваім «піцьпалоць». Уцішэлае наваколле... А поўня, якая прыгожая поўня! Чырвонай гарой вылезла з-пад зямлі, паднімаецца над небакраем, круглее, робіцца пукатай, колер яе з чырвонага ператвараецца ў светла-аранжавы, і гэты колер блякне, пераліваецца ў жаўцізну. А калі поўня дасягае высакавольтных правадоў і здаецца, што гэта такі вялізны шар вісіць на дратах, колер яе падобны да колеру срэбранага карася ў сажалцы з празрыстай вадой».

Так разважаў выпускнік універсітэта, седзячы на шыферным даху прыбудовы, на які ён узлез «сузіраць поўню». Нарэшце ён мог дазволіць сабе такую раскошу. Цяпер не турбавалі яго ні сесія, ні дыпломная работа, нават ні тое месца, куды трапіў па размеркаванню — ён паспеў з'ездзіць туды і яно яму прыглянулася. Але больш за ўсё быў былы студэнт задаволены тым, што дома, у ягонай сям'і, паміж бацькам і маткай была згода.

Колькі раз не хацелася ехаць дахаты на канікулы, бо не хацелася чуць тых сварак, не хацелася бачыць тых сутычак паміж людзьмі, якія аднолькава былі яму дарагія. Суладдзе ў сям'і заспакоіла яго, і ўпершыню ён адчуў, якое гэта шчасце проста быць. Проста існаваць і сузіраць гармонію свету. Якая гэта раскоша — сузіраць поўню. Сядзеў ён у позе паўлотаса, нерухома, расслаблена пазіраў на бліскучы дыск, які, здавалася,

не мог адарвацца да высакавольтнага слупа, зачапіўся за яго, але вось блішчыць і сам слуп, а поўня круглiцца незалежна ў прасторы.

Мокры, цяжкі ад расы, паснуў вусаты ліпеньскі ячмень, не шалахнецца дзічка пры сцежцы, пагойдваючыся, пайшла котка па сцежцы ў ячмень. Поўсць на ёй таксама срабрыцца.

Пачуліся выразныя крокі па надворку. Ад хаты да хлявоў нехта ішоў. Па мяккаму шуму тапачак, па патрэскванню сухажылляў пры хадзе сын пазнаў маці. Жанчына падышла да прыбудовы і стаілася, гледзячы на вялізную поўню.

«Цішыня! Любата!!! Добра, што я схавала яе тады. Зараз самы час — нікога няма. Сын пайшоў у клуб, бацька спіць пасля чаркі. Не, не, я не такая прапашчая, але каму гэта перашкаджала? Гэта для нерваў. На рабоце, як прыносяць і частуюць, хіба ж адказваецца хто з дзяўчат? Ну і добра, нават весялей іголкамі по́раюць, час хутчэй ідзе. А так, што за радасць у жыцці? Што я бачыла? Па суседзях век бегала начаваць... Дзяцей з хаты паразганяў, ды хто з ім жыць будзе. Такая мая доля. Раней дурная была, мозгі хацела яму ўставіць. Пасля п'янкі сварку ўсчыняла, назло рабіла гаду. А зараз? Некалькі глыточкаў — і ні табе гора, ні табе суму... Але ж як свеціць, як свеціць, бы той пражэктар... Недзе тут, у торфе...»

І хлопец, так і не зводзячы вачэй з чароўнага дыску поўні, пачуў, як маці пачала корпацца ў прыбудоўцы, перакідаць брыкецiны торфу, пачуў кароткае «ёсць, мілая» і пад моцнае свячэнне поўні, у зіхаценні тысяч і тысяч кропель расы на вусах ячменю, пачуў

агідны, брыдкі гук. Нібы ў стройныя хоры анёлаў уварваўся раптам какафанічны яркат д'ябла.

— Буль-буль-буль! — адпіла жанчына некалькі глыткоў віна. Поўня раптам заскакала перад вачыма, скрывілася ў кроплях слёз і пакацілася ў дробных пацерках на грудзі. Хлопец прыціснуў рукі да твару, каб не разраўціся...

Маці закідала бутэльку брыкецінамі і, патрэскваючы костачкамі ў каленях, пайшла.

Здавалася, нічога не змянілася ў наваколлі. Нават цішэй, загадкавей адчувалася прастора над зямлёй, пранізаная спакойным безудзельным святлом поўні. Але хлопец ненавідзеў гэтую прыгожую загадкавую поўню... Ён ненавідзеў гэты знешне прыгожы, гарманічны свет. Бо жыў на Зямлі, крыважэрнай, неразумна-мыснай Зямлі.

## Змест

Слова пра талент. Аляксей Карпюк 3
Цкаванне вялікага звера *(Палеская быль)* 5
Забівец *(Аповесць)* . . . . . . . . . 71
Пастрыжаны *(Апавяданне)* . . . . . . 98
Лявон і Мушка *(Апавяданне)* . . . . . 106
Рабкова ноч *(Апавяданне)* . . . . . . 114
Гепардава лета *(Апавяданне)* . . . . . 132
Руская казка *(Апавяданне)* . . . . . 145
Цары травяной нерушы *(Апавяданне)* . . 153
Масток у будучыню *(Напаўфантастычнае)* 159
Сузіранне начной поўні *(Апавяданне)* . . 170

**Наварыч А.**

H15 Рабкова ноч: Аповесці, апавяданні/Прадм. А. Карпюка.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 173 с.— (Першая кніга празаіка).

ISBN 5-340-00040-0.

Наварич А. Рабкова ночь: Повести, рассказы.

Любоў да зямлі, любоў да роднай прыроды, гатоўнасць захаваць яе для нашчадкаў, духоўная прыгажосць чалавека працы — галоўныя матывы кнігі маладога празаіка Алеся Наварыча (нарадзіўся ў 1960 годзе ў Брэсцкай вобласці). Аўтар у сваіх творах глыбока і тонка даследуе духоўны свет чалавека, мастацкімі сродкамі раскрывае характары, стварае цікавыя, запамінальныя вобразы.

$Н\frac{4702120200-125}{М 302(03)-88}$ 40—88

ББК84 Бел7

*Литературно-художественное издание*

Алесь Наварич

(Трушко Александр Иванович)

РАБКОВА НОЧЬ

Повести, рассказы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Алесь Наварыч

(Трушко Аляксандр Іванавіч)

РАБКОВА НОЧ

Аповесці, апавяданні

Рэдактар *І. І. Канановіч.* Мастак *Т. І. Малышава.* Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт.* Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч.* Карэктар *Л. М. Маслоўская.*

ІБ № 2957

Здадзена ў набор 18.01.88. Падп. да друку 18.07.88. АТ 08145. Фармат 70×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,09. Ум. фарб.-адб. 7,58. Ул.-выд. арк. 7,56. Тыраж 4800 экз. Зак. 1081. Цана 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987—1988

## Набывайце і чытайце новыя творы маладых беларускіх празаікаў

*Зборнік*
ДЫМ РОДНЫХ КАМІНОЎ
Аповесць і апавяданні

*І. Клімянкоў*
СЕАНС ГІПНОЗУ
Апавяданні

*А. Пенязь*
СТРЭЛ У ЦІШЫНІ
Аповесць і апавяданні

50 к.



Алесь Наварыч (Трушко) нарадзіўся ў 1960 годзе ў Відзіборы Столінскага раёна Брэсцкай вобласці. Працоўную дзейнасць пачаў цесляром-бетоншчыкам. Пасля паступіў у Мінскі мединстытут, але адчуваў, што яго вабіць літаратура. І таму неўзабаве зрабіў новы выбар — філфак БДУ імя У. І. Леніна. Пасля заканчэння яго працаваў настаўнікам у Дзяржынскім і Карэліцкім раёнах. Цяпер — супрацоўнік часопіса «Вожык». Апавяданні і аповесць друкаваліся ў «Маладосці».